36.260.4734.

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

3 ОК-2
2600
(Бел.)

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

№ 7
Ліпень 1936 г.

вл ип
18499

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па
камутатару 20000, даб. 68.



# Вышэй большэвіцкую пільнасць—да канца знішчыць усіх ворагаў

Тав. Сталін, з прысутнай яму геніяльнай празорлівасцю, заўсёды папярэджваў партыю і ўсіх большэвікоў, партыйных і непартыйных, што класавыя ворагі і іх агентура з далейшым ходам перамогі соцыялізма ў нашай краіне не аслабяць барацьбу з партыяй і совецкай уладай, а наадварот класавы вораг, мяняючы формы і метады барацьбы, будзе пераходзіць да больш рэзкіх форм наскокаў супроць партыі і совецкай дзяржавы. На Студзеньскім пленуме ў 1933 г. тав. Сталін прама ўказваў, што:

«Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апеліруючы да адсталых пластоў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады... Няма такой пакасці і хлусні, якую-б гэтыя быўшыя людзі не ўзвялі на совецкую ўладу і вакол якіх не імкнуліся-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, зразумела, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы жадаем пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асобых афяр.

Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Гэтыя словы правадыра—тав. Сталіна, выклікалі ўсю партыю, кожнага большэвіка, партыйнага і непартыйнага, усямерна павышаць сваю рэволюцыйную пільнасць, быць здольным распазнаваць ворагаў партыі і пролетарыята, выкрываць іх і весці бязлітасную барацьбу з усякімі класава-варожымі і контррэволюцыйнымі элементамі.

Не дабітыя асколкі класавага ворага, прэзрэнныя падонкі трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай банды, адчуваючы поўнае бяссілле затрымаць пераможны ход соцыялістычнага будаўніцтва, манеўруючы, маскіруючыся, двурушнічаючы, у звярыным шаленстве ідуць на ўсякія подласці, не грэбуючы ніякімі сродкамі ў барацьбе супроць партыі і совецкай дзяржавы.

Будучы бяссільнымі спыніць пераможны ход соцыялістычнага будаўніцтва, яны сталі на шлях фашысцкіх метадаў барацьбы—на шлях арганізацыі тэрарыстычных актаў супроць лепшых людзей соцыялістычнай радзімы, супроць правадыра сусветнага пролетарыята—тав. Сталіна і яго саратнікаў.

Рукой подлых нягоднікаў і заправіл з фашысцка-белагвардзейскіх банд трацкісцка-зіноўеўскага контррэвалюцыйнага тэрарыстычнага блока 1-га снежня 1934 года быў забіт адзін з лепшых сыноў пролетарыята, адзін з выдатнейшых кіраўнікоў партыі і совецкай дзяржавы—Сергей Міронавіч Кіраў.

Непасрэднымі арганізатарамі гэтага зладзейскага забойства пролетарскага трыбуна і бліжэйшага саратніка тав. Сталіна—Сергея Міронавіча Кірава з'яўляліся: Зіноўеў, Каменеў, Смірноў і іншыя ўдзельнікі азвярэлай белабандыцкай зграі трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра.

Страціўшы ўсякія надзеі звергнуць совецкую ўладу іншым шляхам, гнусныя падонкі трацкісцка-зіноўеўска-каменеўскай контррэволюцыйнай групы сталі на чале міжнароднай контррэволюцыі і фашызма, сталі яго авангардам у барацьбе супроць совецкай улады, імкнучыся шляхам тэрору супроць кіраўнікоў і правадыроў совецкай дзяржавы і большэвіцкай партыі захапіць уладу ў свае рукі.

Разгромленая партыяй і тав. Сталіным у прах, апракінутая ўсім ходам пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, трацкісцка-зіноўеўская банда не магла выступіць ні з адным палітычным лозунгам, ні з адной палітычнай платформай. Яна пацярпела поўнае палітычнае банкроцтва і страціла ўсякую апору ў масах. Усе яе надзеі на правал соцыялістычнага будаўніцтва апракінуты. Пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і Совецкай улады, на чале з тав. Сталіным совецкі народ перамог усе труднасці і перашкоды. Пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна совецкі народ ажыццявіў план індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Соцыялізм перамог канчаткова і беспаваротна ў нашай краіне. На аснове ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і дасягнутых перамог, пад кіраўніцтвам партыі і тав. Сталіна створан непарушны саюз працоўных усіх нацыянальнасцей вялікай совецкай краіны. Увесь совецкі народ шпаркімі тэмпамі будуе новае, радаснае, культурнае, заможнае жыццё.

Перамога соцыялізма ў нашай краіне ў прах развеяла контррэволюцыйныя тэорыі гэтых подлых ворагаў з трацкісцка-зіноўеўскай банды аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне. Яны выкрыты як самыя раз'юшаныя і азлобленыя ворагі пролетарыята і совецкай улады. Таму, трацкісцка-зіноўеўскія контррэволюцыйныя паследышы на чале з Троцкім, Зіноўевым, Каменевым і іншымі заправіламі гэтай агіднай групы канчаткова скаціліся ў лагер белагвардзейшчыны і фашызма; сталі арганізуючай сілай рэштак разгромленых у нашай краіне капіталістычных класаў і галоўным атрадам міжнароднай контррэволюцыі ў барацьбе з совецкай уладай. У гэтых нягоднікаў рэвольвер і абрэз замяніў «платформу» для дасягнення сваёй мэты. Яны самі, прыпёртыя да сцяны яўнымі ўлікамі і фактамі, вымушаны былі прызнаць гэта як на папярэднім допыце, так і перад Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда.

Двурушніцтва і абман—вось асноўны метад дзеяння трацкісцка-зіноўеўскага ахвосця. Гэтыя іудушкі, гэтыя заклятыя ворагі пролетарыята і працоўных, на словах аплёўваючы сваё контррэволюцыйнае мінулае, клянучыся ў вернасці партыі, вернасці справе пролетарыята, у той-жа час тайком, па-зладзейску, падпольна арганізоўваюць тэрарыстычныя групы для забойства з-за вугла кіраўнікоў і арганізатараў соцыялістычнага будаўніцтва.

У зварынай нянавісці да соцыялізма, да партыі Леніна—Сталіна, да кіраўнікоў і правадыроў большэвіцкай партыі і совецкай дзяржавы, усведамляючы сваё бяссілле, нікчэмныя падонкі разгромленага ворага з подлай душонкай кар'ерызма, шкурніцтва і казнакрадства ўступілі на шлях агалцелага тэрору супроць барацьбітоў за справу соцыялізма і комунізма. Яны ставілі сваёю мэтаю нанесці ўдар у сэрца рэволюцыі. Шляхам забойства т. т. Сталіна, Варашылава, Кагановіча, Жданава, Орджанікідзе, Постышава і Касіора яны спадзяваліся ўнесці замяшанне ў нашы рады і захапіць уладу ў свае рукі. Для ажыццяўлення гэтай мэты яны заключылі саюз з нямецкай фашысцкай ахранкай («гестапо») і ў саюзе з фашысцкімі агентамі рыхтавалі забойства з-за вугла любімага ўсім совецкім народам і міжнародным пролетарыятам тав. Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў.

На папярэднім следстве і судовым працэсе над прэзрэннымі ворагамі совецкага народу—трацкісцка-зіноўеўскімі тэрарыстычнымі групамі паказаннямі саміх Зіноўева, Каменева, Еўдакімава, Мрачкоўскага і інш. устаноўлена, што «адзіным матывам арганізацыі трацкісцка-зіноўеўскага блоку з'явілася імкненне ва што-б там ні стала захапіць уладу і што адзіным і рашаючым сродкам для гэтага была выбрана арганізацыя тэрарыстычных актаў супроць віднейшых кіраўнікоў партыі і ўрада» і ў першую чаргу супроць тав. Сталіна. Разам з тым, гэтыя беспрынцыпныя палітычныя авантурысты—Зіноўеў, Каменеў, Еўдакімаў і інш.—ставілі сваёй важнейшай задачай—усякім чынам утаіць, замаскіраваць сваю контррэволюцыйную дзейнасць, свой удзел у тэрарыстычных актах, свой удзел у подлым забойстве з-за вугла кіраўнікоў партыі і совецкай улады.

Дзякуючы пільнасці ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталіна, дзякуючы зоркасці і пільнасці НКУС гэтым подлым ворагам народу і авантурыстам не ўдалося і ніколі не ўдасца ажыццявіць свае намеры, бо ўвесь совецкі народ, уся партыя ахоўвае і пільна будзе ахоўваць сваіх любімых кіраўнікоў і правадыроў.

Увесь совецкі народ і пролетарыят усяго свету з абурэннем праклінае гэтыя прэзрэнныя падонкі чалавечага грамадства з трацкісцка-зіноўеўскай банды разам з іх натхніцелямі і арганізатарамі—Троцкім, Зіноўевым, Каменевым, Еўдакімавым, Смірновым, Тэр-Ваганянам і інш.

У дні працэса ўвесь совецкі народ запатрабаваў ад суда расстрэлу гэтых азвярэлых і заклятых ворагаў партыі, совецкай улады і совецкага народу. Патрабаванне пракурора СССР—тав. Вышынскага—аб расстрэле ўсіх гэтых шалёных сабак трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра было патрабаваннем усяго совецкага народу.

Са здавальненнем уся наша краіна, увесь совецкі народ і рабочы клас усяго свету сустрэў рашэнне Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР аб расстрэле гэтых шалёных сабак. Прыгавар суда аб расстрэле—гэта прыгавар усяго 170-мільённага совецкага народу над заклятымі ворагамі краіны соцыялізма. Разам з тым працоўныя масы Совецкага Саюза з абурэннем праклінаюць главароў II-га Інтэрнацыянала Дэ-Брукера, Адлера, Сітрына і Шэвенельса, якія ўзялі на сябе місію абароны гэтых азвярэлых і шалёных сабак. Ніякай літасці лютым ворагам з белагвардзейска-фашысцкай трацкісцка-зіноўеўскай банды, знішчыць усіх да канца,—вось адказ совецкага народу фашысцкім адвакатам II Інтэрнацыянала.



Справа трацкісцка-зіноўеўскага тэрарыстычнага цэнтра яшчэ раз з усёй сілай паказвае, што ні на адну хвіліну мы не павінны супакойвацца, ні на адну хвіліну мы не павінны аслабляць сваю рэволюцыйную пільнасць да класавых ворагаў і яго агентуры. Справа трацкісцка-зіноўеўскай банды яшчэ і яшчэ раз напамінае ўсёй партыі, усяму пролетарыяту і працоўным нашай краіны, што класавыя ворагі пераходзяць да самых агалцелых форм і метадаў барацьбы з партыяй і совецкай уладай.

Подлае двурушніцтва—асноўны метад «работы» наймітаў міжнароднай контррэволюцыі ў барацьбе супроць партыі і совецкай улады. Скарыстоўваючы ўсякую шчыліну, ратазейства, прытупленне класавай пільнасці, гнілы лібералізм паасобных комуністаў і партыйных арганізацый, заклятыя ворагі працоўных пралазяць у партыю, каб, прыкрываючыся партыйным білетам, тварыць сваю контррэволюцыйную работу. Гэта з усёй нагляднасцю ўскрыў і паказаў працэс над трацкісцка-зіноўеўскімі бандытамі.

У часе праверкі і абмену партыйных дакументаў партыя выкрыла і выгнала са сваіх радоў не мала прамых ворагаў пролетарыята, партыі і совецкай дзяржавы. Аднак, апошнія падзеі ў сувязі з выкрыццём НКУС трацкісцка-зіноўеўскіх тэрарыстычных груп у Маскве і іншых месцах Совецкага Саюза і выкрыццём замаскіраваўшыхся контррэволюцыйных трацкістаў у радзе партыйных арганізацый КП(б)Б, гавораць аб тым, што не ўсімі партыйнымі арганізацыямі да канца былі выкрыты і выгнаны з радоў партыі замаскіраваныя ворагі. Рад фактаў, якія выкрыты за апошнія дні ў КП(б)Б, паказваюць, што ў паасобных партыйных арганізацыях у часе праверкі і абмену партыйных дакументаў мела месца прамое ігнараванне неаднаразовых указанняў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б і асабіста тав. Сталіна аб неабходнасці сур'ёзнай і глыбокай праверкі кожнага комуніста, аб неабходнасці без усякай літасці выкрываць і выганяць з радоў партыі ўсіх двурушнікаў—гэтых агентаў класавага ворага.

Выкарыстоўваючы прытупленне класавай пільнасці ў паасобных партыйных арганізацыях КП(б)Б, заклятыя ворагі соцыялізма з трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай банды шляхам абману змаглі атрымаць новыя партыйныя білеты і такім чынам застацца ў радах ленінска-сталінскай партыі.

Чым іншым, як не стратай большэвіцкай пільнасці комуністаў і ўсёй партыйнай арганізацыі рэдакцыі газеты «Звязда» можна тлумачыць тое, што на працягу многіх гадоў у апараце «Звязды» змог займаць адказны пост і спакойна тварыць свае контррэволюцыйныя справы заядлы вораг—трацкіст Розенблюм і яго саратнік Цыпкін. Гэтыя заядлыя ворагі не былі выкрыты і выгнаны з радоў партыі ў часе праверкі і абмену партыйных дакументаў партарганізацыяй «Звязды».

Не гледзячы на тое, што меліся сігналы аб контррэволюцыйнай дзейнасці класавага ворага Розенблюма, партарганізацыя «Звязды» не прыняла ніякіх мер, каб у свой час выкрыць гэтага махровага контррэволюцыянера. Больш таго, сам адказны рэдактар, комуніст Стэрнін, аказаўся ў палоне гэтага заклятага ворага і ўзяў яго пад сваю абарону.

Справа контррэволюцыянера Розенблюма вельмі паказальная. Заядлы вораг партыі і пролетарыята, скарыстоўваючы адсутнасць большэвіцкай пільнасці з боку комуністаў і ўсёй партыйнай арганізацыі,

цішком тварыў свае агідныя контррэвалюцыйныя справы. Дабіўшыся давер'я самога рэдактара Стэрніна, Розенблюм наладжваў разам з ім п'янкі, зрабіў яго сваім абаронцам. Партыйная арганізацыя рэдакцыі газеты «Звязда», а таксама і Сталінскі райком партыі аказаліся няздольнымі выкрыць ворага Розенблюма. Запатрабавалася ўмяшанне органоў НКУС і ЦК КП(б)Б, каб выкрыць і выгнаць з радоў партыі трацкіста Розенблюма і яго саратнікаў, засеўшых у апараце рэдакцыі.

Нажаль выпадак з трацкістам Розенблюмам і Цыпкіным у рэдакцыі газеты «Звязда» не з'яўляецца адзіночным выпадкам. У апошні час, пасля праверкі і абмену партыйных дакументаў, выяўлены факты засмечанасці класава-варожымі элементамі і ў іншых партыйных арганізацыях. Класавы вораг, выкарыстоўваючы прытупленне большэвіцкай пільнасці, ратазейства і лібералізм паасобных партыйных работнікаў, шляхам двурушніцтва і прамога абману змог прайсці праверку і атрымаць новыя партыйныя дакументы. Трацкісты Жукаў і Мілаў змаглі абмануць партыйную арганізацыю Белдзяржвыдавецтва і Варашылаўскі райком КП(б)Б. Больш таго, калі Варашылаўскі райком партыі затрымаў выдачу новага партбілета двурушніку Мілаву, то сакратар парткома Белдзяржвыдавецтва Еленік узяў яго пад сваю абарону і дапамог яму атрымаць новы партыйны білет.

Варашылаўскі райком хоць і ведаў аб контррэвалюцыйным трацкісцкім выступленні двурушніка Мілава на занятках гуртка па гісторыі партыі—за што райком сам адхіліў Мілава ад кіраўніцтва гуртком,— усё-ж праз месяц па хадайніцтву парткома Белдзяржвыдавецтва выдаў Мілаву партыйны білет новага ўзору. Гэтым самым Варашылаўскі райком праявіў гніла-ліберальныя адносіны да класавага ворага. Са справы трацкістаў Жукава, Мілава і іншых Варашылаўскі райком і партыйная арганізацыя Белдзяржвыдавецтва павінны зрабіць для сябе сур'ёзныя **вывады**.

Апрача рэдакцыі «Звязды» і Белдзяржвыдавецтва ў апошні час выкрыты трацкісцкія элементы яшчэ ў радзе іншых партыйных арганізацый. Так у Вышэйшай Комуністычнай сельска-гаспадарчай школе толькі ў апошні час быў выкрыт трацкіст Царэў, у рэдакцыі газеты «Рабочий»—актыўны саратнік трацкіста Розенблюма—Энцін, у ЦСПСБ—трацкіст Кавальчук, у Белрадыёкамітэце—трацкіст Аракелаў.

Толькі ў апошнія дні выяўлена, што ў радах віцебскай партыйнай арганізацыі пасля праверкі і абмену партыйных дакументаў засталіся трацкісты, якія звілі трацкісцка-контррэвалюцыйную групу у Віцебскім дэпо і ставілі перад сабою задачу разбурэння чыгуначнага транспарта.

У Сіроцінскай партыйнай арганізацыі выкрыт трацкіст Эпштэйн, які знайшоў сабе цёплае месца ў Райсаюзе.

Гомельскі гарком партыі да апошняга часу праяўляў палітычную слепату і ліберальныя адносіны да трацкіста Фалкіна. Фалкін доўгі час працаваў разам з заядлым ворагам і контррэволюцыянерам Розенблюмам, ён быў яго саратнікам. Гомельскі гарком, не гледзячы на сігналы аб цеснай сувязі Фалкіна з выкрытым органам НКУС контррэволюцыянерам Розенблюмам, да апошняга часу не зрабіў адпаведных палітычных вывадаў і Фалкін прадаўжаў працаваць у апараце гаркома партыі. Толькі ў апошнія дні бюро Гомельскага гаркома вывела трацкіста Фалкіна са складу пленума і бюро гаркома і паставіла пытанне аб яго партыйнасці.

Выключную палітычную блізарукасць, страту класавай пільнасці і ліберальныя адносіны да яўнага класавага ворага—трацкіста Каструлёва праявіла партыйная арганізацыя Белкаапсаюза. Трацкіст Каструлёў, карыстаючыся палітычнай слепатой кіраўнікоў партыйнай арганізацыі Белкаапсаюза, на працягу многіх гадоў, змог праводзіць двурушніцкую палітыку і сваю контррэволюцыйную работу. У часе праверкі партыйных дакументаў гэты двурушнік быў выключан з партыі. Здавалася-б, што з гэтага факту партыйная арганізацыя і кіраўніцтва Белкаапсаюза ў асобе Баскіна павінна была зрабіць сур'ёзныя палітычныя вывады, каб па-большэвіцку мабілізаваць усю партыйную арганізацыю, увесь калектыў работнікаў Белкаапсаюза і нізавыя кааператыўныя арганізацыі на павышэнне рэволюцыйнай пільнасці. Аднак партыйная арганізацыя і кіраўніцтва Белкаапсаюза не толькі не зрабілі гэтага, а наадварот старшыня Белкаапсаюза—комуніст Баскін стаў на шлях прамой абароны двурушніка і ворага, трацкіста Каструлёва. Баскін не толькі паставіў гэтага двурушніка і ворага на адзін з адказнейшых участкаў работы, на пасаду начальніка аддзела планавання і арганізацыі гандлю, але дапамог Каструлёву атрымаць яшчэ і прэмію ў 1.500 руб., выстаўляючы гэтага трацкіста-двурушніка, як лепшага работніка. Гэта паказвае, што комуніст Баскін канчаткова страціў большэвіцкую пільнасць і знаходзіўся ў палоне класавага ворага—трацкіста Каструлёва, а партыйная арганізацыя Белкаапсаюза на такія паводзіны Баскіна нічым не рэагавала. Гэта гаворыць аб тым, што ў партарганізацыі адсутнічае крытыка і самакрытыка, а з боку Баскіна меў месца прамы заціск крытыкі і самакрытыкі ў апараце.

Усе прыведзеныя факты з усёй сілай яшчэ раз пацвярджаюць правільнасць указанняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), што ...«члены партыі і партыйныя арганізацыі ўсё яшчэ дрэнна ўсвоілі неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўсямернага павышэння большэвіцкай пільнасці і дысцыпліны сярод членаў партыі».

Толькі адсутнасцю большэвіцкай рэволюцыйнай пільнасці можна тлумачыць тое, што большасць выкрытых за апошні час трацкісцкіх контррэволюцыйных элементаў у радзе партарганізацый КП(б)Б—не былі выкрыты тымі пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі, дзе яны знайшлі сабе прытулак, а былі выкрыты пры дапамозе ЦК КП(б)Б, органаў НКУС і гаркома партыі. Гэта паказвае, што рад партыйных арганізацый КП(б)Б не выканалі ўказанняў тав. Гікало, які неаднаразова падкрэсліваў, што:

> **«Важнейшая задача партарганізацыі Беларусі—далейшае ўсямернае павышэнне большэвіцкай пільнасці.**
>
> **Партыйная пільнасць абавязвае нас умець выкрываць контррэволюцыйныя махінацыі ворагаў нашай партыі і совецкай улады, у асаблівасці двурушнікаў—трацкістаў і зіноўеўцаў, скаціўшыхся ў лагер самай агалцелай белагвардзейшчыны».**

Толькі стратай большэвіцкай пільнасці можна тлумачыць тое, што доўгі час заставаліся не выкрытымі такія злодзеі і контррэволюцыянеры трацкісцка-зіноўеўскага ахвосця як Розенблюм, Жукаў, Мілаў і іншыя. Гэта сведчыць аб тым, што ў паасобных партарганізацыях КП(б)Б адсутнічае большэвіцкая крытыка і самакрытыка—гэтая вастрэйшая зброя большэвіцкай партыі. Гэта гаворыць аб тым, што ў паасобных партарганізацыях існавалі яўна гніла-ліберальныя адносіны да двурушнікаў і ворагаў партыі, бо ў радзе выпадкаў, як напрыклад у партарганізацыі рэдакцыі газеты «Звязда», Белдзяржвы-

давецтва і інш., не гледзячы на наяўнасць сігналаў аб контррэвалюцыйных трацкісцкіх дзеяннях Розенблюма, Жукава, Мілава і інш.,—партыйныя арганізацыі не рэагавалі на гэтыя сігналы. Нарэшце ўсё гэта сведчыць аб тым, што ў радзе звенняў КП(б)Б кіраўнікі партыйных арганізацый і паасобныя комуністы пасля праверкі і абмену партыйных дакументаў дэмабілізаваліся, лічачы, што ў часе праверкі і абмену партыйных дакументаў усе ворагі партыі і совецкай улады выгнаны з радоў партыі, што партыйныя арганізацыі ачышаны ад ворагаў і цяпер можна пачываць на лаўрах. Гэта пацвярджаецца ўсімі тымі фактамі, якія выяўлены ЦК КП(б)Б за апошні час у рэдакцыі газеты «Звязда», Белдзяржвыдавецтве і іншых партарганізацыях.

Усё гэта паказвае, што паасобныя партыйныя арганізацыі КП(б)Б не зрабілі для сябе адпаведных палітычных вывадаў, не ўсвоілі і не выканалі зусім чоткіх і ясных ўказанняў і рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), у якіх гаворыцца:

> «Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі да канца ўсвоіць гэтыя ўрокі і пакласці канец агіднасцям, якія былі выяўлены ў ходзе праверкі партыйных дакументаў. Толькі ўсвоіўшы гэтыя ўрокі і паслядоўна выконваючы неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб усямерным павышэнні рэвалюцыйнай большэвіцкай пільнасці і неабходнасці «падняць узровень нашай арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва», партарганізацыі змогуць да канца выкарчаваць карэнні апартуністычнага благадушша, завастрыць большэвіцкую пільнасць членаў партыі, выхаваць партыйны апарат у духу большэвіцкай астраты і непрымірымасці і дабіцца таго, што статут партыі стане сапраўды непарушнай асновай яе ўнутранага жыцця».

Апошнія факты выкрыцця трацкісцка-зіноўеўскай тэрарыстычнай банды заклятых ворагаў партыі і совецкай улады, і выяўленыя факты засмечанасці паасобных партыйных арганізацый КП(б)Б контррэвалюцыйнымі трацкісцкімі элементамі—усё гэта абавязвае партыйныя арганізацыі КП(б)Б зрабіць для сябе сур'ёзныя палітычныя вывады.

Не ўсе гнёзды гэтых бандытаў і ворагаў совецкай улады і партыі выяўлены і выкрыты, не ўсе ўдзельнікі трацкісцка-зіноўеўскай банды злоўлены, бо да тэрарыстычнай банды Троцкага, Зіноўева і іншых цягнуліся ніці і ад іншых контррэвалюцыйных груп і груповак. Жыве яшчэ главар гэтай банды—Троцкі, які хаваецца за граніцай і разам са сваімі саюзнікамі—фашыстамі і фашысцкай ахранкай (гестапо) будзе імкнуцца перакінуць у Совецкі Саюз сваіх новых агентаў—дыверсантаў, тэрарыстаў, шпіёнаў і правакатараў.

Ведучы бязлітасную барацьбу з контррэвалюцыйным трацкісцка-зіноўеўскім ахвосцем, ачышчаючы ад іх рады партыі, мы ні на міну-ту не павінны ўпускаць з-пад увагі і ўсіх іншых ворагаў і контррэвалюцыйных элементаў. Ва ўмовах БССР у мінулым мы мелі многа розных контррэвалюцыйных дробна-буржуазных партый, як напрыклад: меншавікоў, эсэраў, бунд, нацдэмаў і інш., якія, як на гэта ўказваў тав. Сталін у сваім дакладзе на Студзеньскім пленуме ЦК ВКП(б)

у 1933 годзе, з далейшай перамогай социялізма, умацаваннем совецкай дзяржавы могуць заварушыцца і імкнуцца нанесці ўдар соцыялістычнай радзіме.

Совецкая Беларусь знаходзіцца на рубяжы з капіталістычным Захадам, адкуль на тэрыторыю Совецкага Саюза рознымі шляхамі імкнуцца прабрацца яўныя ворагі для ажыццяўлення сваіх контррэволюцыйных, тэрарыстычных, дыверсійных і шпіёнскіх дзеянняў,—гэтую акалічнасць нельга забываць ні на адну мінуту.

Мы павінны забяспечыць такое становішча, каб ні адзін вораг партыі і совецкай улады не змог пранікнуць не толькі ў партыю, але і на тэрыторыю совецкай зямлі.

Задача ўсіх партыйных арганізацый КП(б)Б і кожнага комуніста ў паасобку—узняць сваю большэвіцкую пільнасць і бязлітасна выкрываць, выганяць з радоў партыі ўсіх трацкістаў—двурушнікаў, заклятых ворагаў рабочага класа і партыі, якія шляхам ашуканства змаглі прайсці праверку партыйных дакументаў і атрымаць новы партыйны білет. Гэта абавязвае нас не супакойвацца на дасягнутых поспехах у справе ачысткі радоў партыі ад класава-варожых і контррэволюцыйных элементаў у часе праверкі і абмену партыйных дакументаў, а мабілізаваць усе партыйныя арганізацыі і кожнага комуніста на ўсямернае падняцце большэвіцкай пільнасці. Гэта ў сваю чаргу патрабуе ад усіх партыйных арганізацый і яе кіраўнікоў добрага ведання сваіх комуністаў штодзённай праверкі іх на жывой практычнай рабоце. Замест славеснай балбатні аб падняцці большэвіцкай пільнасці, як гэта іншы раз мае месца ў паасобных партыйных арганізацыях, трэба заняцца сапраўдным вывучэннем членаў і кандыдатаў партыі сваёй арганізацыі, выхоўваць з іх сапраўдных большэвікоў-сталінцаў. Уся работа партыйных арганізацый павінна быць пабудавана так, каб усямерна павышаць палітычна-тэарэтычны ўзровень, большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць і дысцыпліну сярод комуністаў.

Пільнасць комуністаў неабходна на любым участку работы. Пара ўсвоіць, што не толькі на партыйных сходах трэба ўпамінаць і гаварыць аб пільнасці, а на кожным кроку, на кожным участку соцыялістычнага будаўніцтва, дзе-б толькі не знаходзіўся комуніст-большэвік, усюды яму неабходна быць зоркім і пільным. Трэба памятаць указанні Леніна, што кожны комуніст адказны за партыю і кожная партыйная арганізацыя адказна за свайго члена партыі.

Крытыка і самакрытыка павінна стаць вастрэйшай зброяй для ўсіх партыйных арганізацый у барацьбе за падняцце большэвіцкай рэволюцыйнай пільнасці, за палепшанне ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, у барацьбе за чыстату і маналітнасць радоў партыі.

Сталінскі Цэнтральны Камітэт партыі, наш любімы правадыр тав. Сталін даюць выключныя прыклады большэвіцкай пільнасці. Не мала ўдараў і наскокаў адведзена ад вялікай пролетарскай рэволюцыі, ад партыі і Совецкай дзяржавы, дзякуючы нястомнай пільнасці тав. Сталіна. Тав. Сталін зорка стаіць на варце адзінства, маналітнасці радоў нашай партыі. Доўг і абавязак кожнага комуніста вучыцца пільнасці у ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна. Быць такім-жа пільным і непрымірымым барацьбітом за справу пролетарыята, за перамогу соцыялізма, якім з'яўляецца наш любімы правадыр тав. Сталін—вось да чаго павінен імкнуцца кожны комуніст.



* * *

Уся КП(б)Б і ўвесь беларускі народ, як і ўся ВКП(б) і ўвесь совецкі народ у адказ на вылазку раз'юшаных ворагаў трацкісцка-зіноўеўскай белагвардзейскай фашысцкай банды яшчэ мацней згуртуюць свае рады вакол ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б), вакол свайго любімага правадыра тав. Сталіна.

Дзякуючы тав. Сталіну мы сталі жыць заможна і радасна. На кожным кроку мы адчуваем правату і сілу сталінскіх слоў: «жыць стала лепш, жыць стала весялей». Увесь совецкі народ грудзьмі сваімі будзе абараняць жыццё сваіх любімых правадыроў і арганізатараў перамогі соцыялізма ў нашай краіне, даўшых нам шчаслівае жыццё. Большэвіцкая партыя і совецкі народ ніколі і нікому не дазволяць падымаць брудныя крывавыя рукі на любімага ўсёй партыяй, усім совецкім народам і працоўнымі ўсяго свету тав. Сталіна.

Усямерна і няспынна павышаючы сваю рэволюцыйную пільнасць, бязлітасна выкрываючы і выганяючы з радоў партыі ўсіх трацкісцкіх двурушнікаў, апартуністаў, класава-чуждыя варожыя элементы і іх агентуру—уся КП(б)Б, як і ўся ВКП(б) і ўвесь совецкі народ будуць пільна ахоўваць жыццё сваіх правадыроў і жыццё вялікага генія і арганізатара перамогі соцыялізма ў нашай краіне таварыша Сталіна.

Імя тав. Сталіна жыве ў сэрцах шматмільённага совецкага народу як самае дарагое, самае любімае, як сцяг і сімвал шчаслівага і радаснага жыцця, як сцяг і сімвал далейшых перамог соцыялізма у нашай краіне.

Г. Годэр

# Новая сталінская Канстытуцыя—росквіт совецкай дэмакратыі

Праект Канстытуцыі Саюза ССР, створаны пад непасрэдным кіраўніцтвам правадыра працоўных усяго свету—таварыша Сталіна, з'яўляецца дакументам сусветнага значэння. Адлюстроўваючы карэнныя змены, што адбыліся ў нашай краіне, Канстытуцыя адкрывае новую эпоху развіцця совецкай дэмакратыі, уздыму народнай гаспадаркі і, на аснове гэтага,—нябачаны ніколі ў свеце рост матэрыяльнага дабрабыту працоўных.

Першая Совецкая Канстытуцыя 1918 г., зацверджаная V Усерасійскім з'ездам советаў, амаль праз год пасля вялікай Окцябрскай рэволюцыі, запісала тое, што ўжо было заваёвана.

Ленінскія ўказанні: «моцна толькі тое ў рэволюцыі, што заваявана масамі пролетарыята. Запісваць варта толькі тое, што сапраўды моцна заваявана», ляглі ў аснову праекта Канстытуцыі, прадстаўленай на абмеркаванне шырокіх мас працоўных нашай краіны.

Дзяржава перамогшага соцыялізма і яе Канстытуцыя ўвасабляюць усё лепшае, за што змагаліся лепшыя прадстаўнікі чалавецтва, яго перадавыя розумы.

Кожнае слова, кожны радок сталінскага праекта Канстытуцыі дыхаюць сілай і праўдай. Яна выражае сілу народаў вялікага Саюза соцыялістычных рэспублік.

Велізарнейшыя перамогі соцыялізма ў СССР, адлюстраваныя ў Канстытуцыі, аказваюць агромны рэволюцыйны ўплыў на працоўных усяго свету, выклікаюць глыбокі пераварот у іх свядомасці, надаюць ім упэўненасць у сваіх сілах і пераконваюць у практычнай магчымасці звяржэння капіталізма і перамогі соцыялізма.

Яшчэ ў 1918 г., у 10 тэзісах аб Совецкай уладзе, прадстаўленых VII з'езду партыі, Ленін прадбачыў «пашырэнне совецкай канстытуцыі, **па меры** спынення супраціўлення эксплаататараў, на **ўсё** насельніцтва[1]).

У адказах свердлоўцам тав. Сталін падкрэслівае, што рамкі совецкай дэмакратыі, намечаныя ў рашэннях XVI канферэнцыі партыі і III з'ездам советаў СССР, не застануцца непахіснымі навекі. Дэмакратыя ў нас будзе пашырацца па меры ўмацавання гаспадарчай і

[1]) т. XXII, стар. 372.

палітычнай магутнасці пролетарыята, па меры ўзмацнення міжнародных пазіцый Совецкай дзяржавы.

Па меры ўмацавання нашых унутраных і знешніх пазіцый, па меры дасягнутых поспехаў социялістычнага будаўніцтва і ліквідацыі капіталістычных элементаў наглядаецца сістэматычна няўхільнае зніжэнне процанта насельніцтва, пазбаўленага выбарчых праў.

Пры выбарах советаў 1934—1935 г. пазбаўленых выбарчых праў было ўсяго 2,5 проц.

Пазбаўленне эксплаататараў выбарчых праў з'яўляецца як адзін з выразаў заваёвы дыктатуры пролетарыята. Гэта выключэнне эксплаататараў з совецкай дэмакратыі ўвашло ў ленінскую «Дэкларацыю праў працоўнага і эксплаатуемага народу», прынятую 3-м з'ездам советаў і ў Канстытуцыю, зацверджаную V Усерасійскім з'ездам советаў.

Пазбаўленне выбарчых праў эксплаататараў рэзка падкрэслівае асабліва́сць совецкай дэмакратыі і совецкага ладу. Выбаршчыкамі з'яўляюцца працоўныя масы, якія ўцягваюцца праз Советы ў палітычнае жыццё, у кіраванне дзяржавай.

Совецкая Канстытуцыя заўсёды забяспечвала **ўсеагульнае выбарчае права** большасці насельніцтва, усім працоўным Совецкага Саюза.

Як дзеючая, так і праект новай сталінскай Канстытуцыі, не ведаюць падзелу выбаршчыкаў на карыстаючыхся актыўным і пасіўным выбарчым правам. Канстытуцыя прадастаўляе выбарчыя правы жанчынам і ваеннаслужачым, катэгорыям, якія выключаны ў большасці буржуазных краін з кола асоб, карыстаючыхся выбарчымі правамі. Знішчаны выбарчыя цэнзы.

* * *

«Усенародныя» або «усеагульныя» выбары, дэкларуемыя ў буржуазных канстытуцыях пры наяўнасці ў іх абмежаванняў, як, напр., па цэнзу аседласці, граматнасці, пазбаўлення выбарчых праў жанчын, ваеннаслужачых і інш., з'яўляюцца па сутнасці «вузкай, урэзанай, фальшывай, ліцамернай» **(Ленін)** дэмакратыяй для багатых.

> «Выбары, якія праводзяцца пры такіх умовах, буржуазія, зразумелая справа, любіць называць «свабоднымі», «роўнымі», «дэмакратычнымі», «усенароднымі», бо гэтыя словы служаць для сукрыцця праўды, для сукрыцця таго, што ўласнасць на сродкі вытворчасці і палітычная ўлада застаецца ў эксплаататараў» [1]).

Па цэнзу аседласці ў капіталістычных краінах фактычна пазбаўляецца выбарчых праў агромная колькасць беспрацоўных, прымушаных у пошуках работы пераязджаць з месца на месца, а таксама вялікая колькасць сезонных рабочых, якія ў сілу сваёй прафесіі ў час выбараў не могуць знаходзіцца ў сваіх выбарчых акругах.

Выбарчым правам у органах самакіраўніцтва ў Англіі карыстаюцца, напрыклад, толькі асобы, якія маюць уласны або знімаюць за плату хоць-бы адзін пакой, у выніку чаго, хатнія работніцы і наогул прыслуга пазбаўлены выбарчых праў.

---

[1]) **Ленін**, т. XXIII, стар. 440.

Унясенне ў выбарчы спіс большасці штатаў ЗША залежыць ад уплаты збору ў 2 далары. Велізарныя масы выбаршчыкаў, якія не маюць магчымасці ўнесці гэтую суму—беспрацоўныя і іншыя—зусім не ўдзельнічаюць у выбарах, або прымушаны галасаваць за партыю, якая ўнесла за іх гэтую суму. У Англіі, прыкладна, 500 тысяч выбаршчыкаў буржуазнага класа карыстаюцца двума галасамі, бо яны знімаюць кватэру ў адной выбарчай акрузе і ўладаюць участкам зямлі ці прадпрыемствам—у другой, або маюць вучоную ступень, за што таксама прадастаўляецца права другога голасу.

Творцы буржуазных канстытуцый прадугледзелі абмежаванні, якія выражаюцца ў тым, што маланаселеным, аграрным раёнам прадастаўляецца аднолькавае прадстаўніцтва ў парламенце з шчыльнанаселенымі індустрыяльнымі раёнамі, каб абмежаваць прадстаўніцтва ў парламент рэвалюцыйных элементаў і забяспечыць уплыў у парламенце кансерватыўных партый. У выніку такой выбарчай «геаметрыі» 12 мільёнаў жыхароў штата Нью-Іёрка маюць столькі-ж прадстаўнікоў, колькі штат Невада з 90.000 жыхарамі.

Паміма гэтых абмежаванняў існуюць абмежаванні па нацыянальнаму прызнаку: паменшана прадстаўніцтва нацыянальных меншасцей на карысць пануючай нацыі. Асобага майстэрства ў гэтым пытанні дабілася польская буржуазія, якая праводзіць абмежаванні для раёнаў з украінскай, беларускай, літоўскай і інш. нацыянальнай меншасцю насельніцтва.

* * *

Совецкая дэмакратыя спачатку свайго ўзнікнення прадстаўляе сабою дэмакратыю вышэйшага тыпу.

> «Пролетарская дэмакратыя ў мільён раз дэмакратычней усякай буржуазнай дэмакратыі; Совецкая ўлада ў мільёны раз дэмакратычней самай дэмакратычнай буржуазнай рэспублікі» [1]).

Совецкая краіна раскрывае нябачаныя ні ў адной краіне культурныя магчымасці для працоўных мас, садзейнічае небываламу росту навукі, літаратуры, мастацтва.

Прынцыповае адрозненне совецкай дэмакратыі ад самых перадавых капіталістычных краін праяўляецца ва ўсіх галінах дзяржаўнага і грамадскага жыцця.

Раўнапраўе жанчыны ў сям'і, у быце, на вытворчасці, у палітычным жыцці знашло моцнае месца ў нашай социялістычнай дзяржаве, дзе ліквідуюцца рэшткі капіталістычных элементаў, дзе дыктатура пролетарыята разбіла і знішчыла аковы прыватнай уласнасці.

> «Поўнага раўнапраўя не дала ні адна, нават самая прагрэсіўная рэспубліканская, дэмакратычная, буржуазная дзяржава.
>
> А Совецкая рэспубліка Расіі адразу зняла **ўсе без выключэння** законадаўчыя сляды няроўнасці жанчыны, адразу забяспечыла ёй поўную роўнасць па закону» [2]).

Па арт. 122 праекта новай сталінскай Канстытуцыі—«Жанчыне ў СССР прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынай ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця».

[1]) **Ленін**, т. XXIII, стар. 350.
[2]) **Ленін**, т. XXV, стар. 63.

Магчымасць ажыццяўлення гэтых праў жанчын забяспечваецца прадастаўленнем жанчыне роўнага з мужчынай права на працу, аплата працы, адпачынак, соцыяльнае страхаванне і адукацыя, дзяржаўная ахова інтарэсаў маці і дзіцяці, прадастаўленнем жанчыне пры цяжарнасці водпускаў з захаваннем утрымання, шырокай сеткі радзільных дамоў, дзіцячых ясляў і садоў.

У процілегласць гэтаму жанчыны зусім пазбаўлены выбарчых праў у такіх краінах як Італія, Францыя, Японія, Партугалія, Бельгія, Галандыя, Юга-Славія, Грэцыя, Бразілія і Аргенціна.

Задачай дыктатуры пролетарыята з'яўляецца ўцягненне ў палітычнае жыццё ўсіх слаёў працоўных, у першую чаргу агромных мас працоўнага сялянства, прыцягненне іх да кіравання дзяржавай і соцыялістычнай вытворчасцю.

У праграме партыі, прынятай у сакавіку 1919 г., вызначаецца кіруючая ва ўсёй рэволюцыі роля гарадскога прамысловага пролетарыята, як найбольш сканцэнтраванай, аб'яднанай і загартаванай у барацьбе часткі працоўных мас. З прычыны гэтага ў нашай дзеючай канстытуцыі знашлі адлюстраванне некаторыя перавагі рабочага класа пры выбарах у параўнанні з больш распыленай часткаю працоўных вёскі.

> «Гэтыя перавагі ў карысць рабочых былі ўведзены тады, калі сяляне яшчэ былі цалкам дробнымі ўласнікамі і на вёсцы яшчэ быў вялікі ўплыў кулацтва. Гэтыя перавагі замацавалі кіруючую ролю рабочага класа ў Совецкай дзяржаве, дапамагалі ўмацаванню Совецкай улады і разам з тым забяспечылі шырокую дапамогу пролетарскай дыктатуры працоўнаму сялянству ва ўздыме сельскай гаспадаркі і ў паследваўшай затым соцыялістычнай перабудове вёскі. Партыя заўсёды ўказвала, што гэтыя перавагі ў карысць рабочых былі ў свой час неабходнымі для забяспечання заваёў пролетарскай рэволюцыі, і нязменна пры гэтым падкрэслівала іх часовы характар» (**Молатаў,** аб зменах у совецкай Канстытуцыі, стар. 19).

Характэрнаю рысай совецкага дэмакратызма з'яўляецца выкананне задач пераробкі дробнага таваравытворцы. Перамога калгаснага ладу азначае разрыў з дробнаўласніцкім укладам. Сяляне-калгаснікі ў сучасны момант з'яўляюцца работнікамі соцыялістычных прадпрыемстваў. Паслядоўна соцыялістычныя прадпрыемствы пры гэтым захоўваюць сваё вядучае значэнне так сама, як і рабочы клас, які ўсёй папярэдняй гісторыяй лепш загартаваны і падрыхтаваны да барацьбы з перажыткамі капіталізма.

Задача рабочага класа заключаецца ў яшчэ большым уцягненні калгаснага сялянства ў кіраванне дзяржавай, выхаванне яго ў духу барацьбы за далейшы рост і ўмацаванне соцыялістычнай уласнасці, за далейшы рост і абароназдольнасць нашай соцыялістычнай радзімы.

Устанаўленне замест не зусім роўных выбараў роўнымі ёсць сродак гэтага выхавання, сродак палітычнага і культурнага ўздыму вёскі:

> «Замена не зусім роўных роўнымі выбарамі для ўсіх працоўных будзе ва многім садзейнічаць далейшым поспехам прасоўвання нашай краіны па шляху стварэння бяскласавага со-

) Ленін, т. XXV. стар. 63.

цыялістычнага грамадства» (**Молатаў**, аб зменах у совецкай Канстытуцыі, стар. 20).

У гутарцы з Рой-Говардам таварыш Сталін даў выключна яркую характарыстыку таго, чаму нашы выбары будуць усеагульнымі.

«Таму,—гаворыць таварыш Сталін,—што ўсе грамадзяне, за выключэннем пазбаўленых выбарчых праў па суду, будуць мець права выбіраць і быць выбранымі.

Чаму нашы выбары будуць роўнымі? Таму, што ні розніца ў маёмасных адносінах (яшчэ часткова існуючая), ні расавая і нацыянальная прыналежнасць не будуць даваць ніякіх прывілей ці ўшчэрбу. Жанчыны будуць карыстацца актыўным і пасіўным выбарчым правам на роўных правах з мужчынамі. Нашы выбары будуць сапраўды роўнымі.

Чаму тайныя? А таму, што мы хочам даць совецкім людзям поўную свабоду галасаваць за тых, каго яны хочуць выбраць, каму яны даверадь забяспечанне сваіх інтарэсаў.

Чаму прамыя? Таму, што непасрэдныя выбары на месцах ва ўсе прадстаўнічыя ўстановы, аж да вярхоўных органаў, лепш забяспечваюць інтарэсы працоўных нашай неабдымнай краіны».

Праект сталінскай Канстытуцыі агалашае сапраўдныя свабоды для працоўных, для народу. Яна прадастаўляе рэальныя магчымасці культурнага росту, палепшання свайго добрабыту. Яна—адзіная канстытуцыя ў свеце, якая забяспечвае матэрыяльнымі сродкамі агалошаныя ў ёй свабоды. Працоўнаму соцыялістычнай дзяржавы гарантуецца права на працу, на атрыманне гарантаванай работы, з аплатай працы ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю.

«Права на працу забяспечваецца соцыялістычнай арганізацыяй народнай гаспадаркі, няўхільным ростам прадукцыйных сіл совецкага грамадства, адсутнасцю гаспадарчых крызісаў і ліквідацыі беспрацоўя» (арт. **118** праекта Канстытуцыі).

Ахова праў асобы грамадзяніна, які ў нашай соцыялістычнай дзяржаве з'яўляецца самым каштоўным капіталам, займае ў Канстытуцыі соцыялістычнага грамадства агромнае месца.

У краіне перамогшага соцыялізма большэвіцкая партыя і яе вялікі правадыр таварыш Сталін абвясцілі клопаты аб чалавеку важнейшай задачай соцыялістычнага грамадства.

Права на адпачынак забяспечваецца скарачэннем рабочага дня да 7 гадзін, «устанаўленнем штогодніх водпускаў рабочым і служачым з захаваннем заработнай платы, прадастаўленнем для абслугоўвання працоўных шырокай сеткі санаторыяў, дамоў адпачынку, клубаў» (арт. **119** праекта Канстытуцыі). «Грамадзянам СССР забяспечваецца недатыкальнасць асобы. Ніхто не можа быць падвергнуты арышту інакш, як па пастанове суда ці з санкцыі пракурора» (арт. **127**).

Мы будуем грамадства, у якім чалавечая асоба адчувае сябе сапраўды свабоднай.

«Мне трудна ўявіць сабе,—сказаў таварыш Сталін у гутарцы з Рой-Говардам,—якая можа быць «асабістая свабода» у беспрацоўнага, які ходзіць галодным і не знаходзіць прымянення сваёй працы. Сапраўдная свабода ёсць толькі там, дзе знішчана эксплаатацыя, дзе няма прыгнечання адных людзей другімі, дзе няма беспрацоўя і жабрацтва, дзе чалавек не дрыжыць за тое,

што заўтра можа страціць работу, жыллё, хлеб. Толькі ў такім грамадстве магчыма сапраўдная, а не папяровая, асабістая і ўсякая іншая свабода».

Амаль усе буржуазныя канстытуцыі абвяшчаюць правы і свабоды грамадзянам усеагульнымі, абсалютнымі і недатыкальнымі, але з пэўнымі агаворкамі ў інтарэсах «грамадскай безапаснасці», г. зн. безапаснасці буржуазіі. Вострую і едкую крытыку гэтаму дае **Карл Маркс** у вядомай працы «18 Брумера»:

> «Кожны параграф канстытуцыі змяшчае свой уласны антытэзіс, сваю ўласную ніжнюю і верхнюю палату, а іменна: у агульнай фразе—свабоду, у агаворцы—адмену свабоды».

У Канстытуцыі Французскай буржуазнай рэспублікі 1848 г., напрыклад, запісана: «Навучанне свабодна. Але свабодай навучання павінны карыстацца пад умовай, выражанай у законе і пад вярхоўным наглядам дзяржавы». І далей: «Жыллё кожнага грамадзяніна недатыкальна, за выключэннем форм, устаноўленых законам» і т. д. Такога роду агаворкі маюць месца ва ўсіх дзеючых буржуазных канстытуцыях.

Палітычная роўнасць, абвешчаная ў буржуазных канстытуцыях, з'яўляецца толькі фікцыяй, ашуканствам працоўных мас. Такое становішча немінуча ў буржуазным грамадстве, бо сродкі вытворчасці, усе багацці, ствараемыя рабочымі, прысвойваюцца буржуазіяй, рабочы-ж замест іх атрымлівае ілюзіі свабоды без адпаведнай эканамічнай гарантыі.

Праект новай сталінскай Канстытуцыі праводзіць чоткую, ярка выражаную палітыку дружбы паміж народамі вялікага Савецкага Саюза. Выходзячы з культурнага і гаспадарчага росту, на аснове правядзення сталінскай нацыянальнай палітыкі, забяспечваецца яшчэ больш хуткі рост нацыянальных утварэнняў: аўтаномных абласцей, аўтаномных і саюзных рэспублік.

БССР развівалася і расла як соцыялістычная рэспубліка пры непасрэднай дапамозе і ў цесным саюзе з астатнімі рэспублікамі.

Дзякуючы непасрэднай дапамозе братніх саюзных рэспублік і ў першую чаргу рускага пролетарыята, у гаспадарчым і культурным будаўніцтве БССР дасягнуты вялікія поспехі.

Класавая прырода канстытуцыі БССР, РСФСР і іншых рэспублік Савецкага саюзу адзіна: яны грунтуюцца на дыктатуры пролетарыята. Канстытуцыя БССР вырасла ў ходзе барацьбы за ўмацаванне пролетарскай улады ў БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б. На розных этапах развіцця канстытуцыі БССР контррэволюцыйныя нацыянал-дэмакраты імкнуліся сказіць яе класавы змест, падарваць савецкую ўладу ціхаю сапай і прывесці БССР да рэстаўрацыі капіталізма. Ігнатоўскія, Лёсікі, Ластоўскія і К° імкнуліся адарваць Беларусь ад Савецкага Саюза— соцыялістычнай радзімы ўсіх працоўных.

Аднак працоўныя БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б далі сакрушальны адпор гэтым спробам, разграміўшы нацдэмакратызм.

Як і ўсе савецкія нацыянальныя рэспублікі, БССР адлюструе ў сваёй новай канстытуцыі геніяльныя прынцыпы і ідэі, сфармуляваныя ў сталінскім праекце Канстытуцыі СССР.

Акрамя існуючых саюзных рэспублік, праект Канстытуцыі прадугледжвае дадаткова непасрэднае ўваходжанне рэспублік Закаўказ-

скай федэрацыі, Грузіі, Арменіі, Азербайджана ў якасці саюзных рэспублік у Саюз, а таксама Казахскай і Кіргізскай ССР.

Вярхоўны совет, які з'яўляецца вышэйшым органам дзяржаўнай улады, складаецца з двух палат: Совета саюза і Совета нацыянальнасцей.

Прынцып суверэнітэта, верхавенства праў, раўнапраўе знаходзіць сваё выражэнне ў роўным прадстаўніцтве ў Совеце нацыянальнасцей саюзных рэспублік, незалежна ад колькасці насельніцтва рэспублікі. Армянская ССР, Беларуская ССР і інш. прадстаўлены ў Совеце нацыянальнасцей, як і РСФСР, 10-ю дэпутатамі.

Існаванне двух палат, з якіх складаецца Вярхоўны совет і якія на роўных пачатках карыстаюцца аднолькавымі правамі ў законадаўчай ініцыятыве, устаноўлена для таго, «каб у складзе нашых вышэйшых органаў быў такі орган, які служыў-бы адлюстраваннем патрэб і запатрабаванняў усіх без выключэння рэспублік і нацыянальнасцей» (**Сталін**, «Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне», стар. 123).

Двухпалатная сістэма, якая ўстанаўляецца буржуазнымі канстытуцыямі, мае рэакцыйны сэнс. Верхняя палата ў асобе палаты лордаў у Англіі, сената—ва Францыі проціпастаўлена ніжняй палаце, у якой прадстаўлены дэмакратычныя элементы. Не давяраючы народу, айцы буржуазных канстытуцый стварылі сенат, які выбіраецца на падставе ўскоснага галасавання і з'яўляецца аплотам рэакцыйнай буржуазіі (буйныя аграрыі і фінансавыя акулы).

Французская, англійская і інш. буржуазныя канстытуцыі прадастаўляюць сенату права спыняць дзейнасць любога закону, прынятага ў ніжняй палаце. Згодна арт. 5 канстытуцыі Французскай рэспублікі 1875 года—прэзідэнт рэспублікі можа са згоды сената распусціць палату дэпутатаў да сканчэння законнага тэрміну яе паўнамоцтваў.

Згодна арт. 9 закона, аб арганізацыі сената, сенат можа ператварацца ў вярхоўны суд і разбіраць справы аб пасяганнях на безапаснасць дзяржавы. Гэтыя пытанні належаць выключна кампетэнцыі сената і тым самым падкрэсліваецца верхавенства сената над палатай дэпутатаў.

Раўнапраўнасць абодвух палат у нашай Канстытуцыі забяспечваецца арт. **37** і **41**.

У праекце новай сталінскай Канстытуцыі з выключнаю сілай падкрэслена ўзросшае значэнне і роля комуністычнай партыі ў дзяржаўным будаўніцтве. Артыкул 126 указвае на вядучую ролю комуністычнай партыі—перадавога атрада працоўных у іх барацьбе за ўмацаванне і развіццё соцыялістычнага ладу, кіруючага ядра ўсіх арганізацый працоўных як грамадскіх, так і дзяржаўных.

Без партыі Леніна—Сталіна, якая з'яўляецца накіроўваючай і кіруючай сілай ў сістэме дыктатуры пролетарыята, былі-б нямыслімы перамога працоўных і таржаство соцыялізма ў нашай краіне. У соцыялістычнай дзяржаве рабочых і сялян кіруючая роля большэвіцкай партыі забяспечвае далейшае развіццё і ўмацаванне соцыялістычнага ладу, забяспечвае поўную рэалізацыю ўсіх праў і свабод, якія прадстаўляюцца праектам новай сталінскай Канстытуцыі СССР працоўным.

Вялікая сіла совецкай дэмакратыі, выключная рэволюцыйнасць нашага ўраду сказваецца і ў тым, што ўпершыню ў свеце ў нашым Совецкім Саюзе працоўныя шырока абмяркоўваюць самую рэволю-

цыйную, самую перадавую Канстытуцыю, напісаную рукой выдатнага стратэга рэвалюцыі вялікага Сталіна.

Сталінская Канстытуцыя, якая зараз абмяркоўваецца шматмільённымі масамі працоўных Савецкага Саюза і выклікае энтузіязм пралетарыята капіталістычных краін, з'яўляецца гістарычным вынікам заваёў пролетарыята і ўсіх працоўных СССР.

Сталінская Канстытуцыя выкліча яшчэ большы рост энтузіязму працоўных мас у іх змаганні за комунізм.

Аднак неабходна памятаць, што, ідучы ка дну, класавыя ворагі карыстаюцца самымі дзікімі сродкамі супраціўлення. Гэта з усёй нагляднасцю ўскрыў і паказаў працэс над азвярэлымі ворагамі соцыялізма і совецкай дзяржавы—трацкісцка-зіноўеўскай белафашысцкай тэрарыстычнай бандай,—якая на чале з заклятымі ворагамі партыі і совецкай ўлады—Троцкім, Зіноўевым, Каменевым і іншымі, у саюзе з нямецкай фашысцкай ахранкай (гестапо) 1-га снежня 1934 г. забілі аднаго з лепшых кіраўнікоў партыі і совецкай ўлады—Сергея Міронавіча Кірава і рыхтавалі забойства правадыра партыі і ўсіх працоўных—таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў—Варашылава, Кагановіча, Орджанікідзе, Жданава, Постышэва і Касіора.

Гэтыя агалцелыя ворагі і абанкроціўшыяся палітычныя авантурысты, страціўшы ўсякую надзею звярнуць партыю і совецкую ўладу з ленінскага шляху, імкнуліся шляхам забойства з-за вугла кіраўнікоў партыі і совецкай ўлады, і ў першую чаргу геніяльнейшага правадыра, таварыша Сталіна, выклікаць замяшанне ў нашых радах, каб захапіць уладу ў свае рукі. Прыгавар Ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда аб расстрэле гэтых шалёных фашысцкіх сабак і паведамленне аб расстрэле гэтых бандытаў увесь совецкі народ і пролетарыят усяго свету сустрэў са здавальненнем. Пролетарскі суд выканаў патрабаванне шматмільённага совецкага народу.

Аднак, расстрэл гэтай кучкі азвярэлых ворагаў соцыялізма не гаворыць, што ўсё ворагі партыі і совецкай улады знішчаны. Ускрытыя за апошні час, прытаіўшыяся контррэволюцыйныя трацкісцкія элементы ў радзе арганізацыі КП(б)Б, як напрыклад, контррэволюцыянер-трацкіст Розенблюм у рэдакцыі газеты «Звязда», Жукаў і Мілаў у партарганізацыі Белдзяржвыдавецтва, трацкіст Аракелаў у Белрадыёкамітэце, і наяўнасць трацкісцкіх элементаў у радзе іншых партарганізацый паказваюць, што яшчэ не ўсе ворагі партыі і пролетарыята вычышчаны з радоў партыі. Таму наша задача—яшчэ вышэй узняць рэволюцыйную пільнасць, якая з'яўляецца адным з магутных сродкаў канчатковай ліквідацыі рэштак класавага ворага і рэшткаў адміраючых капіталістычных класаў у нашай краіне.

**І. Лейзер**

**Сакратар парткалегіі КПК Беларусі**

# Што паказала праверка выканання рашэнняў III пленума КПК

Парткалегіяй пры ўпаўнаважаным КПК па БССР у чэрвені гэтага года праведзена выбарачная праверка раду пярвічных партарганізацый, а таксама гарадскіх і раённых камітэтаў КП(б)Б па пытанню аб тым, як яны выконваюць статут партыі, як на практыцы рэалізуюць рашэнні III пленума КПК у галіне выключэння з партыі, налажэння і зніманння партыйных спагнанняў. Аб'ектамі праверкі з'яўляліся паасобныя пярвічныя арганізацыі гарадоў: Менска, Гомеля, Віцебска, Магілева, Полацка і Мазыра, а таксама гаркомы і райкомы гэтых раёнаў. Адначасова праверана было, як праходзяць у АКПО ЦК КП(б)Б справы на выключаных з партыі асоб, якія адносяцца да 1 і 2 катэгорыі.

Праверка паказала, што рад пярвічных арганізацый, а таксама райкомы і гаркомы партыі, не гледзячы на вельмі павучальныя ўрокі праверкі партдакументаў, яшчэ не зрабілі з іх неабходных для сябе вывадаў. Пры разборы партыйных спраў яны, як і раней, дапускаюць старыя, асуджаныя партыяй метады, і надта нерашуча бяруцца за практычную рэалізацыю ў сваёй рабоце рашэнняў III пленума КПК пры ЦК ВКП(б).

Амаль для ўсіх правераных пярвічных арганізацый, асабліва ў 1935 годзе, характэрна прамое парушэнне статута партыі. Пры гэтым асабліва шырока практыкавалася абмеркаванне пытанняў аб праступках членаў і кандыдатаў партыі не на агульных сходах, а толькі на паседжаннях партыйных камітэтаў. Адсюль відаць, што кіраўнікі партарганізацый і парткомы не засвоілі яшчэ асноўнай ісціны: партсход адзін з асноўных метадаў выхавання комуністаў.

Побач з гэтым не раз былі выпадкі, калі члены і кандыдаты партыі выключаліся або атрымлівалі спагнанні завочна, без дэталёвага расследвання ўсіх акалічнасцей справы.

Прывядзем факты.

Партком менскай швейнай фабрыкі «КІМ» у студзені мінулага года завочна выключыў з кандыдатаў партыі тав. Герайтэс нібы за тое, што яна адарвалася ад партыйнага жыцця і самавольна кінула работу. У справах парткома не аказалася ніякіх дакументаў, якія-б пацвярджалі гэта абвінавачванне. Менскі гарком партыі ў ліпені адмяніў выключэнне тав. Герайтэс і аб'явіў ёй суровую вымову. Атрымаўшы рашэнне гаркома, партком не паведаміў тав. Герайтэс аб



спагнанні, і яна не заявіла аб гэтым пры абмене партдакументаў. Падобныя выпадкі былі сёлета на менскім заводзе імя Молатава, дзе партарганізацыя не абмяркоўвала на агульным партсходзе справы тт. Клугермана, Русакова, Гайчуна, Нальковіча, Касяка.

Партком менскай швейнай фабрыкі «Окцябр» у мінулым годзе практыкаваў такі метад: справа аб выключэнні ці партспагнанні абмяркоўвалася спачатку на сходах партгрупы, цэха ці змены і ўступала ў «законную» сілу пасля зацверджання парткома, на агульны-ж сход усёй арганізацыі фабрыкі не выносілася (справы тт. Яромы ад 11 лютага, Позняка ад 21 чэрвеня, Розіна ад 7 верасня і іншыя).

Выпадкі выключэння з партыі і вынясення спагнанняў былі ў партарганізацыі магілеўскага скурзавода імя Сталіна і шоўкавай фабрыкі, віцебскай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», мазырскага завода «Пролетарый» і радзе іншых.

Падобныя факты характэрны, на жаль, не толькі для мінулага года. Яны маюць месца і ў 1936 годзе, нават пасля рашэнняў III пленума КПК. Так, партком фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» (г. Віцебск) 18 красавіка выключыў з партыі тав. Рабкіна нібы за прысваенне 300 рублёў, прычым ні следства, ні суда па гэтай справе не было. Больш таго, без абмеркавання агульным сходам партком прадставіў сваё рашэнне непасрэдна ў гарком на зацверджанне. Разгледзеўшы гэта пытанне, гарком адмяніў выключэнне як беспадстаўнае, аднак не зрабіў парткому ніякіх заўваг аб грубейшым парушэнні ім статута партыі і рашэнняў III пленума КПК.

У Віцебску выяўлены аналагічныя факты ігнаравання агульных сходаў і ў іншых партарганізацыях пры разглядзе спраў аб праступках членаў і кандыдатаў партыі (справа Левіна з партарганізацыі завода імя Кірава—пастанова ад 16. III. 1936 года, справа Баравіцкай з фабрыкі імя Клары Цэткін—пастанова ад 15. IV. 1936 года).

Парушаўся статут партыі пасля рашэнняў III пленума КПК таксама і ў Магілеўскай арганізацыі (шоўкавая фабрыка—справа кандыдата партыі Кабоцько).

Факты выключэння і вынясення партспагнанняў без дастатковых для гэтага прычын мелі месца на менскай фабрыцы «Окцябр». Партком на сваім паседжанні ад 24. II. 35 года, разглядаючы пастанову партгрупы цэха аб выключэнні з партыі тав. Халяўко, піша: «Лічыць пастанову партгрупы аб выключэнні з партыі тав. Халяўко правільнай, але, улічваючы, што выключэнне не патрэбна, выключэнне адмяніць і аб'явіць Халяўко суровую вымову». Чаму выключэнне правільна і чаму яно не патрэбна, партком так і не ўказаў. У пратаколе парткома мазырскага завода «Пролетарый» выяўлены такі запіс: «Слухалі: аб члене партыі Лахтычкіне, які не апраўдвае сябе як комуніст. Пастанавілі: аб'явіць вымову і прасіць адміністрацыю перавесці яго ў другі цэх». Зусім не ясна, у чым-жа заключаецца прад'яўленае тав. Лахтычкіну абвінавачванне.

Асабліва нездавальняюча і проста такі нядбайна пастаўлена афармленне пратаколаў, пастаноў і спраў аб партспагнаннях і выключэннях з партыі. У пратаколах, як правіла, не даецца дакладнай фармулёўкі праступку, няма даных аб абвінавачаным, не адзначана, ці прысутнічаў ён пры разборы справы і т. п. Так афармляюцца пратаколы парткомаў. Але яшчэ большае «спрашчэнне» дапускаецца пры афармленні пратаколаў агульных сходаў. Там пішуць проста тэлеграфнаю

мовай, як, напрыклад, у партарганізацыі гомельскага завода «Пролетарый»: «Слухалі: пратакол парткома. Пастанавілі: зацвердзіць». З гэтага пратакола ні ў якім разе нельга ўстанавіць, што сход разбіраў справы на двух комуністаў, невядома таксама як на іх рэагаваў агульны партсход, колькі чалавек выступіла ў спрэчках, што яны прапанавалі і інш. Тым часам фармальна партком лічыць, што не абышоў партсходу. Нядбайна казённыя адносіны да афармлення пратаколаў характэрны для абсалютнай большасці праверанах пярвічных арганізацый (завод «Пролетарый», «Сельмаш», Тлушчакамбінат—Гомель; фабрыка «Окцябр», імя Фрунзе, ТЭЦ—Менск, скурзавод імя Сталіна, шоўкавая фабрыка, аўторэмзавод—Магілеў і інш.). Парткомы і тут не зразумелі, што чоткая, правільная фармулёўка праступку і прынятага рашэння мае немалаважнае выхаваўчае значэнне для комуніста.

У паасобных выпадках справы на выключаных з партыі падоўгу затрымліваюцца ў пярвічных арганізацыях. Так, справа Чарнецкага была прадстаўлена пярвічнай арганізацыяй на зацверджанне мазырскага райкома толькі праз тры месяцы пасля таго, як было прынята рашэнне аб выключэнні.

Большасць арганізацый прапрацавала рашэнні III пленума КПК. Аднак некаторыя падышлі да справы фармальна, вынеслі толькі рэзалюцыю, а сутнасці рашэнняў не давялі да кожнага члена і кандыдата партыі. Напрыклад, партарганізацыя менскага завода «Ударнік» толькі 17 мая прыняла пастанову аб прапрацоўцы рашэнняў пленума КПК на цэхавых партсходах, але і дагэтуль не знашла часу прапрацаваць іх на агульным сходзе.

Добрых вынікаў у рабоце дабіліся кіраўнікі партарганізацый там, дзе рашэнні Пленума вывучаны як належыць. На магілеўскім аўторамонтным заводзе Егорычаў і Пагуляеў лічыліся недысцыплінаванымі комуністамі, не выступалі на сходах, не наведвалі заняткаў. Калі-ж сакратар парткома, у парадку рэалізацыі рашэнняў Пленума КПК, выклікаў іх да сябе і пагутарыў, а потым пытанне аб іх паставіў на агульным сходзе, яны пачалі працаваць над сабой і значна падцягнуліся на вытворчасці. У партарганізацыі Мазырскага райвыканкома на ўсіх сходах гаварылі аб недысцыплінаванасці і замкнутасці члена партыі Бубнова, але сапраўднай прычыны не выяснілі. Толькі пасля прапрацоўкі рашэнняў Пленума здагадаліся пайсці да Бубнова на кватэру і азнаёміцца з яго бытавымі ўмовамі. У Бубнова аказалася шасцёра дзяцей, якія часта хварэюць, сям'я матар'яльна не забяспечана. Партарганізацыя паклапацілася аб тым, каб памясціць двух дзяцей у яслі, аднаго ў санаторый. Дзякуючы гэтаму жонка атрымала магчымасць пайсці на работу. Цяпер Бубноў—адзін з актыўных і дысцыплінаваных комуністаў у арганізацыі.

* * *

Факты парушэнняў статута партыі сведчаць аб тым, што паасобныя гаркомы і райкомы не толькі слаба кіруюць разборам партспраў у пярвічных арганізацыях, але і ў сваім апараце не здолелі паставіць гэту справу так, каб служыць для іх прыкладам.

Гаворачы аб мінулай практыцы разбору партспраў, неабходна адзначыць шматлікія выпадкі зацверджання спраў без прысутнасці абвінавачанага і прадстаўніка пярвічнай партарганізацыі (віцебскі гарком—справы Баўшэвера, Пауляскай, Хоміч, Міляўскай, Шы-

каян, Ласянкова, Егорава і інш.), выключэнне або вынясенне спагнання без ведама і праз галаву пярвічнай арганізацыі (гомельскі гарком—справы Лібмана, Ягуткіна, Мейціна, Злаціна і інш.). Такога роду парушэнні мелі месца і пасля рашэнняў III пленума КПК. Так, Віцебскі гарком 15. VI. 36 года перавёў з членаў у кандыдаты партыі Левіна О. С., выключыў з партыі Іванова, Алейнікава, Шмулевіча і Рабкіна за страту партдакументаў. Аднак ні адна з гэтых спраў не абмяркоўвалася ў пярвічных арганізацыях. Такія-ж выпадкі былі ў полацкім райкоме (справа кандыдата партыі Рызгунова), у гомельскім гаркоме (справа Шур М. І.) і ў радзе іншых.

Бюро оршанскага райкома ў красавіку сумесна з прэзідыумам райвыканкома вынесла па пытанню аб ходзе веснавой сяўбы пастанову, у якой раду комуністаў—кіруючых работнікаў сельсоветаў і калгасаў—аб'яўлены суровыя вымовы і пастаўлена на від. Пастанова была апублікавана ў раённай газеце. Гэта грубое парушэнне было выпраўлена толькі пасля ўмяшання Парткалегіі, якая зрабіла адпаведнае ўказанне сакратару райкома тав. Соскіну.

Асабліва недапушчальна вялікая зацяжка з афармленнем і абавязковым прадстаўленнем на зацверджанне ў ЦК КП(б)Б усіх спраў аб выключаных па 1 і 2 катэгорыях. Некаторыя гаркомы і райкомы да апошняга часу ігнаруюць гэта элементарнейшае патрабаванне статута.

Мазырскі райком у лютым гэтага года выключыў з партыі за бытавую распушчанасць Дашкевіча—рабочага завода «Пролетарый» з вытворчым стажам 17 год—аднак і па сёння не накіраваў свайго рашэння разам са справай на зацверджанне ў ЦК.

Даманавіцкі райком 4 ліпеня мінулага года выключыў з кандыдатаў партыі Бельскага Г. Ц., па соцпаходжанню рабочага. Справу на зацверджанне не прадставіў нават і пасля таго, як Парткалегія пры ЦК КП(б)Б, атрымаўшы апеляцыю Бельскага ў ліпені 1935 года, пасылала райкому пяцікратнае напамінанне.

Глускі райком 23 лютага мінулага года выключыў з партыі Даніловіча Г. О., па соцыяльнаму паходжанню рабочага, але справы на зацверджанне ЦК не выслаў. Даніловіч апеляваў у Парткалегію. Рашэннем бюро ЦК ад 23 мая 1936 года выключэнне было адменена як беспадстаўнае. Такім чынам з-за нядбайнасці райкома няправільна выключаны Даніловіч больш года вымушан быў знаходзіцца па-за радамі партыі.

Капаткевіцкі райком таксама няправільна выключыў з партыі Ермаловіча, Жлобінскі—Раманенку Н. М., якія рашэннем бюро ЦК у партыі адноўлены.

Пры праверцы на месцы і на падставе іншых матарыялаў устаноўлена, што віцебскі, мазырскі, магілеўскі, менскі і рад іншых райкомаў абмяжоўваюцца толькі пасылкай у ЦК пратакола ў агульным парадку, а справу выключанага пакідаюць у сябе.

З іншых фактаў парушэння райкомамі і гаркомамі статута партыі неабходна ўказаць на такія, як несвоечасовае адбіранне ў выключаных партдакументаў і т. п.

Прапойскі райком у чэрвені 1934 года выключыў з партыі Федасеенку С. Я., аднак не адабраў у яго партбілет. У сакавіку 1936 года, калі Парткалегія разбірала апеляцыю Федасеенкі, узнікла пытанне аб яго партбілеце. Прапойскаму райкому былі пасланы 4 запытанні аб тым, дзе знаходзіцца партбілет Федасеенкі, аднак адказу не па-

ступала. І толькі на катэгарычнае тэлеграфнае запатрабаванне сакратар райкома Кавалёў 20 чэрвеня адказаў, што месца знаходжання партбілета № 1 302 529, які належаў раней Федасеенку, не ўстаноўлена.

Менскі гарком у 1935 годзе стварыў тройку, якая разглядала ўсе партыйныя справы і прымала па іх рашэнні, а бюро гаркома толькі зацвярджала іх, прычым са спазненнем да месяца і больш. Для разгляду сваіх спраў людзі выклікаліся толькі на парттройку. Такім чынам бюро гаркома фактычна самаўхілілася ад разбору партспраў, перадаверыўшы гэту важнейшую работу другарадным асобам.

Гомельскі гарком пры праверцы партдакументаў выявіў рад асоб, прынятых у партыю з парушэннем статута, г. зн. без зацверджання гаркома, але, замест таго каб персанальна абмеркаваць на бюро кожную такую кандыдатуру, як гэта патрабавалася ўказаннямі ЦК, бюро гаркома зацвярджала іх па спісу «пачкамі», чым толькі паглыбіла сваю старую памылку.

* * *

З усіх прыведзеных і цэлага раду іншых падобных фактаў можна зрабіць адзін вывад: груба парушаючы статут партыі, райкомы разам з тым пазбаўляюць выключаных права скарыстаць для свайго апраўдання ўсе магчымасці, якія прадастаўляе ім статут партыі. Не ўсе партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі зрабілі для сябе адпаведныя вывады з чоткіх указанняў III пленума КПК аб непарушнасці статута партыі і ў сваёй практычнай рабоце не выконваюць іх. З такімі адносінамі да важнейшай партыйнай справы трэба рашуча паканчыць.

Рашэнні III пленума КПК цалкам і поўнасцю накіраваны на захаванне непарушнасці статута—гэтага асноўнага закона партыі. Гаркомы, райкомы і ўсе пярвічныя партарганізацыі абавязаны безагаворачна і па сутнасці, а не фармальна, іх выконваць.

---

**А. М. Штэйнгарт**

Сакрэтар Копыльскага РК КП(б)Б

# Абмен партдакументаў забяспечыў далейшы ўздым партыйнай работы

Становішча, якое было выяўлена ў Копыльскай райпартарганізацыі ў час праверкі партдакументаў, вызначыла выключную адказнасць партыйнага кіраўніцтва раёна і ўсёй партарганізацыі ў падрыхтоўцы і правядзенні абмену партдакументаў—важнейшага палітычнага мерапрыемства, якое замацоўвае станоўчыя вынікі праверкі.

ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні аб выніках праверкі партдакументаў паставіў перад нашай партарганізацыяй, як пагранічнай, важнейшыя задачы: усямерна павысіць пільнасць кожнага комуніста; забяспечыць разгортванне сапраўды большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі; штодзенна ўзнімаць ідэйную ўзброенасць комуністаў, выхоўваючы іх у духу большэвіцкай непрымірымасці, выкрываючы контррэволюцыйную ролю эсэраўшчыны, меншавізма і бундызма; вырошчваць, прасоўваць і вылучаць кадры, правераныя ў барацьбе за пабудову соцыялізма.

Уся наша партыйна-арганізацыйная і палітыка-выхаваўчая работа была накіравана на ліквідацыю недахопаў, выяўленых і адзначаных у рашэнні ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі.

У цэнтры нашай увагі стаў комуніст, яго выхаванне і галоўнае—выкананне статута, падрыхтоўка адданых нам людзей да новага прыёму ў партыю. У партарганізацыі ўзнялася рэволюцыйная пільнасць і актыўнасць, патрабавальнасць комуністаў да саміх сябе і партыйнага кіраўніцтва.

Абмен партдакументаў садзейнічаў узмацненню авангарднай, арганізатарскай ролі комуністаў на вытворчасці. У трактарных брыгадах Копыльскай і Цімкаўскай МТС, у большасці соўгасаў і калгасаў раёна шырока разгарнуўся стаханаўскі рух.

Да лютага 1936 года ў нас налічвалася 16 пярвічных партарганізацый (у тым ліку 3 парткомы), 15 кандыдацкіх груп, 8 партыйна-комсамольскіх груп і 48 комуністаў-адзіночак. Такая арганізацыйная будова затрудняла кіраўніцтва кожным членам і кандыдатам партыі і асабліва тармазіла падрыхтоўку спачуваючых, як рэзерва для папаўнення радоў партыі.

Пасля праверкі партдакументаў наша партарганізацыя рэканструявана. Створана 24 пярвічныя партарганізацыі, у тым ліку 5 парткомаў, 15 парторгаў, 4 кандыдацкія групы. Комуністаў-адзіночак няма. Большасць членаў і кандыдатаў партыі знаходзіцца ў пярвічных сельскіх партарганізацыях.

У выніку перабудовы значна ўзрасла партыйная дысцыпліна і палепшылася ўся работа.

За 5 месяцаў гэтага года бюро райкома заслухала справаздачы пярвічных арганізацый соўгаса «Старыца», соўгаса імя Дзержынскага, «Дактаровічы», МТС і НКВД па пытаннях арганізацыйна-партыйнай і выхаваўчай работы, работы са спачуваючымі, разгортвання стаханаўскага руху.

Перад справаздачамі інструктары, члены бюро або пленума райкома знаёміліся з тым, як комуніст працуе над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, як вядзе партыйна-масавую работу ў калгасах, соўгасах, МТС, установе, як працуе на вытворчасці. Гэта дало станоўчыя вынікі.

Прывядзем прыклады.

Кандыдат партыі тав. Касінскі дрэнна працаваў у калгасе «Комуніст», скардзіўся на тое, што ў яго няма актыва, няма на каго абаперціся. Пасля самасправаздачы ён зразумеў сваё месца ў калгасе, стварыў вакол сябе калгасны актыў і сістэматычна з ім працуе, арганізаваў стаханаўскі рух і работу з комсамолам. У калгасе цяпер 16 стаханаўцаў і 21 комсамолец. Рэгулярна выходзіць агульна-калгасная газета, а ў брыгадах—насценныя. Тав. Касінскі добра кіруе комсамольскай школай і вучыцца ў гуртку па гісторыі партыі.

Партарганізацыя Копыльскай МТС, разгарнуўшы партыйна-масавую работу, арганізавала стаханаўскі рух. 5 лепшых стаханаўцаў уступілі ў спачуваючыя, якім сістэматычна даюцца партыйныя даручэнні, праводзіцца палітычная вучоба.

Партыйныя сходы праходзяць больш актыўна і арганізавана.

11 мая адбыўся сход Цімкаўскай тэрытарыяльнай партарганізацыі па пытанню аб выніках абмену партдакументаў. На сход сабраліся ўсе члены і кандыдаты партыі за выключэннем аднаго хворага. Прысутнічаў таксама інструктар райкома. Парторг тав. Ермалаеў у сваім дакладзе ўказаў на недахопы ў рабоце партарганізацыі, напомніў пра заўвагі, зробленыя сакратаром райкома кожнаму комуністу ў час абмену партдакументаў. Па дакладу канкрэтна і самакрытычна выказаліся ўсе комуністы.

Вось некаторыя характэрныя выступленні.

**Лаўруковіч**—«На партыйным сходзе райкома я гаварыў аб слабасці партыйна-масавай работы ў нашай партарганізацыі. Мне тады ўказалі на мае недахопы, і я пастараюся выправіцца. Найвялікшы гонар для мяне—быць членам партыі і змагацца за выкананне яе рашэнняў».

**Галецкі**—«У кандыдаты партыі я ўступіў у 1926 годзе, але на працягу 10 год пасля таго ніколі сур'ёзна не займаўся партвучобай, таму і адчуваў сябе палітычна слаба развітым. Цяпер я многаму навучыўся. Думаю, што за 2—3 месяцы падрыхтуюся да пераводу ў члены партыі і буду нядрэнным комуністам».

Сходы нізавых партарганізацый праводзяцца рэгулярна 11 і 21 чысла кожнага месяца.

Праведзены 3 агульна-раённыя партыйныя сходы па пытаннях: аб выніках студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б і праверкі партдакументаў па райпартарганізацыі; аб падрыхтоўцы да абмену партдакументаў; аб выніках работы МТС за 1935 год і задачах 1936 года; аб пастаноўцы палітычнай агітацыі ў раёне. Сходы прайшлі на высокім палітычным узроўні.

Разам з тым нельга не адзначыць, што кантроль за выкананнем рашэнняў партсходаў і партыйных даручэнняў яшчэ не пастаўлен на належную вышыню. Былі выпадкі, калі паасобныя комуністы (Зеньковіч, Торык, Шышко і інш.) не выконвалі партыйныя даручэнні.

Статут партыі стаў цяпер асноўным законам у жыцці кожнай пярвічнай партарганізацыі. Членскія партыйныя ўзносы выплачваюцца штомесяц, па рашэнню агульных партсходаў комуністы прымаюцца і знімаюцца з уліку, цвёрда выконваецца прынцып выбарнасці кіруючых партыйных органаў, пачынаючы ад нізавой партарганізацыі і канчаючы райкомам.

Аднак адзін выпадак яўнай фальсіфікацыі рашэння партсходу меў месца ў соўгасе «Цімкавічы». У час праверкі партдакументаў парторг соўгаса быў выключан з партыі. Справы прыняў начальнік палітаддзела Стасевіч. Не лічачы патрэбным паставіць на агульным партсходзе пытання аб выбарах новага партарганізатара, Стасевіч увесь час самавольна выконваў яго функцыі. Але мала таго: Стасевіч запісаў у пратакол партсходу, нібы апошні хадайнічае перад райкомам аб зняцці вымовы, вынесенай Стасевічу Камісіяй партыйнага кантроля па БССР, тым часам як такога пытання партсход наогул не разбіраў. Гэты факт грубага парушэння партыйнага статута сведчыць аб тым, што паасобныя члены партыі не ўсвядомілі яшчэ поўнасцю сутнасці ўнутрыпартыйнай дэмакратыі.

Партарганізацыя многа ўвагі ўдзяліла так званым «пасіўным» і адстаючым у вучобе комуністам. Для заняткаў з імі партгабінет адводзіў па 3—4 дні ў месяц. У апошні час з адрывам ад вытворчасці яны дадаткова прапрацоўвалі статут і праграму, асноўныя моманты гісторыі партыі і пытанні бягучай палітыкі.

Малы процант выключаных за пасіўнасць тлумачыцца іменна вялікай палітычна-выхаваўчай работай, якую правялі пярвічныя партарганізацыі з кожным членам і кандыдатам партыі.

У працэсе абмену партдакументаў былі выяўлены і выключаны з партыі 6 чалавек разлажыўшыхся, крымінальных злачынцаў. Партарганізацыі неабходна правесці яшчэ значную работу па барацьбе з элементамі разлажэння паасобных членаў партыі, за бясспрэчнае захоўванне дзяржаўнай дысцыпліны і совецкіх законаў.

* * *

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б у снежні 1935 года канстатаваў нездавальняючае становішча прапагандысцкай работы ў Копыльскім раёне і прапанаваў перабудаваць сетку партыйных гурткоў, ліквідаваць фармалізм і сезоннасць, палепшыць якасць вучобы.

Сетка партыйных гурткоў перабудавана цяпер у адпаведнасці з палітычнай падрыхтаванасцю і ўзроўнем развіцця кожнага комуніста. Створана 9 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі, якімі ахоплена 110 членаў і 65 кандыдатаў. У гуртку павышанага тыпу комуністы вывучаюць гісторыю партыі па першакрыніцах з Леніна—Сталіна. Працуюць 2 гурткі ленінізма, у якіх навучаецца 10 членаў партыі і 4 кандыдаты. Акрамя таго, 32 комуністы вывучаюць гісторыю партыі завочна. З завочнікамі штомесяц праводзяцца 3—5-дзенныя канферэнцыі і прыём залікаў. Заняткі ў партыйных гуртках адбываюцца 4 разы ў месяц па 4 гадзіны.

Сёлета ліквідавана сезоннасць у партвучобе. Ні веснавая пасеўкампанія, ні іншыя работы не перашкодзілі рэгулярным заняткам

партыйных гурткоў. Гэта сведчыць аб тым, што комуністы правільна зразумелі свой абавязак узнімаць ідэйна-палітычны ўзровень і ўзброенасць.

Партыйнымі гурткамі кіруюць найбольш падрыхтаваныя, партыйна-вытрыманыя, праверапыя комуністы. Сярод 22 прапагандыстаў, зацверджаных бюро і пленумам райкома,—19 чалавек раённага партактыва. З прапагандыстамі два разы ў месяц праводзіцца семінар для метадычнай прапрацоўкі чарговай тэмы, якая праходзіцца ў партыйнай школе.

Партгабінет забяспечвае прапагандыстаў неабходнымі дапаможнікамі і літаратурай, а таксама выпісвае цэнтральныя газеты і журналы: «Пропагандист», «В помощь партучебе», «Большевик», «Спутник агитатора» і інш.

Райком партыі заслухоўвае на бюро справаздачы прапагандыстаў, парторгаў і сакратароў парткомаў аб рабоце гурткоў партвучобы і зацвярджае канспекты. Заслуханы справаздачы прапагандыстаў: Паніматкі—гурток соўгаса «Дактаровічы», Аўхімовіча—гурток Копыльскай МТС, Атроша—гурток НКВД. Зацверджаны з унесенымі папраўкамі канспекты прапагандыстаў: Меркіна, Нядзелькі і Траяновіча.

Пярвічныя партарганізацыі пачалі ўдзяляць больш увагі партыйнай вучобе, таму якасць яе значна палепшылася, пропускі заняткаў без уважлівых прычын зведзены к нулю. Большасць комуністаў глыбока працуе над матар'ялам і на заняткі прыходзіць з канспектамі.

Палітычна няграматныя і пасіўныя таварышы за апошні час значна выраслі, узнялі сваю авангардную арганізуючую ролю на вытворчасці.

**Юрчэня** Пелагея—кандыдат партыі з партарганізацыі Быстрыцкага сельсовета была радавой калгасніцай, а цяпер сур'ёзна ўзялася за партвучобу, стала актыўнай у партыйным жыцці, добра праявіла сябе на вытворчасці і вылучана брыгадзірам.

**Жук** Алеся—кандыдат партыі Цімкаўскай партарганізацыі была радавой калгасніцай, лічылася пасіўнай. Цяпер яна рэгулярна чытае газеты, карыстаецца аўтарытэтам, стала добрым арганізатарам на вытворчасці ў калгасе, пры абмене партдакументаў вылучана намеснікам старшыні сельсовета.

* * *

Слуцкі АК КП(б)Б у сакавіку заслухаў даклад Копыльскага райкома партыі і прапанаваў рад канкрэтных мерапрыемстваў па палепшанню палітычнай агітацыі.

У пачатку красавіка мы правялі раённы партсход, прысвечаны спецыяльна пытанню палітычнай агітацыі. Пасля райпартсходу пярвічныя партарганізацыі вылучылі і зацвердзілі на агульных партсходах нізавых агітатараў і чытчыкаў з найбольш падрыхтаваных комуністаў, комсамольцаў і спачуваючых. Цяпер у раёне працуе 88 агітатараў.

У красавіку адбылася раённая нарада агітатараў і чытчыкаў сумесна з парторгамі і сакратарамі парткомаў. Пасля нарады разгарнулася вялікая агітмасавая работа для мабілізацыі палітычнай і вытворчай актыўнасці працоўных на выкананне задач веснавой сяўбы. У выніку сяўба ранніх зернавых па раёну закончана к 1 мая.

Райком пасылаў у сельсоветы партыйны актыў, які праводзіў нарады агітатараў, чытчыкаў, культработнікаў, рэдактароў насценных газет і лістаносцаў па пытаннях бальшэвіцкага друку. Некаторыя поспехі ў гэтай справе з'яўляюцца далёка недастатковымі. Пастаноўка палітычнай агітацыі ўсё яшчэ адстае ў нас ад задач, пастаўленых студзеньскім пленумам ЦК КП(б)Б.

* * *

У працэсе праверкі партыйных дакументаў мы выявілі новыя кадры комуністаў, здольных выконваць кіруючую работу. Рэзерв з 14 комуністаў пасля праверкі вылучан на адказную партыйную, совецкую, кааперацыйную работу. Так, тав. Міхайлаў—загадчык соўгаснага ўчастка вылучан кіраўніком аддзялення сельгасбанка, тав. Талдыкіна — хатняя гаспадыня вылучана інспектарам ахматмлада, тав. Кулеш—парторгам пярвічнай партарганізацыі, Міхневіч—нам. сакратара РК ЛКСМБ і т. д. На больш адказныя ўчасткі вылучаны тт. Белезяк—заг. культпропам райкома, Лаўрыковіч—дырэктарам Цімкаўскай МТС, Жук—нам. старшыні сельсовета, Шкабарын—дырэктарам акрмельтрэста.

Акрамя таго, выяўлена яшчэ 6 таварышоў, якія ў бліжэйшы час могуць быць вылучаны на больш адказныя работы. Задача партарганізацыі—штодзённа дапамагаць, вучыць і выхоўваць гэтых таварышоў.

* * *

У красавіку Копыльскі раён наведалі: старшы інструктар ЦК ВКП(б), заг. АКПО ЦК КП(б)Б і сакратар акругкома партыі. Яны звярнулі ўвагу парткіраўніцтва раёна на слабую вярбоўку і работу са спачуваючымі Тады ў нас было 15 спачуваючых.

13 красавіка бюро райкома абгаварыла пытанне аб рабоце са спачуваючымі і вынесла спецыяльнае рашэнне. Пасля правядзення адпаведнай работы цяга лепшых людзей нашага раёна ў спачуваючыя значна ўзмацнілася. Цяпер у раёне 102 спачуваючых, аб'яднаных ў 13 груп.

Перад партарганізацыяй стаіць сур'ёзная задача—выхоўваць спачуваючых у духу бальшэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны, прыцягваючы іх да ўдзелу ў закрытых і адкрытых партыйных сходах.

У 81 пярвічнай комсамольскай арганізацыі раёна налічваецца 650 комсамольцаў.

У сувязі з падрыхтоўкай да акруговай комсамольскай канферэнцыі і прапрацоўкай рашэнняў X з'езда ВЛКСМ ажывілася ўнутрыкомсамольская работа, узмацнілася дысцыпліна.

Комсамольцы ахоплены палітвучобай у 83 палітгуртках, з якіх 26 вывучаюць гісторыю партыі.

Прапагандыстамі комсамольскіх гурткоў райком зацвердзіў лепшых, палітычна развітых комсамольцаў і, акрамя таго, вылучыў 10 добра падрыхтаваных комуністаў.

Значная частка пярвічных арганізацый ЛКСМ яшчэ слаба працуе сярод моладзі, асабліва ў галіне абарончай. Пярвічныя партарганізацыі нездавальняюча кіруюць работай комсамола. Гэтыя недахопы ў рабоце комсамола павінны быць ліквідаваны ў бліжэйшыя дні.

* * *

Перыяд паміж праверкай і абменам партдакументаў характэрны вялікім прытокам у спачуваючыя лепшых людзей раёна—стаханаўцаў. Тым часам работа партарганізацыі са спачуваючымі пастаўлена далёка нездавальняюча. Сакратары парткомаў, парторгі, інструктары РК, не перадавяраючы гэту важнейшую работу, павінны самі цесна звязацца са спачуваючымі і штодзенна выхоўваць іх.

Прапагандысцкая работа таксама яшчэ моцна адстае ад павышаных патрабаванняў, асабліва ў галіне ўвязкі тэорыі з сучаснымі задачамі бальшэвіцкай практыкі. Мы павінны ўсямерна дапамагаць прапагандысту, партыйнаму актыву, адстаючым комуністам у павышэнні агульна-культурнага і тэарэтычнага ўзроўню, наладзіць партыйную прапаганду ў цеснай сувязі з бягучымі агульнапартыйнымі задачамі.

Раённы партгабінет дабіўся многага ў сваёй рабоце, аднак цалкам не выконвае яшчэ сваіх прамых функцый. Яго задача—стаць сапраўды культурным цэнтрам партыйнай асветы.

Асноўны недахоп палітычнай агітацыі—адсутнасць сістэматычнай, планавай работы ў соўгасах, калгасах, на прадпрыемствах па падрыхтоўцы і выхаванню агітатараў і чытчыкаў. Важнейшай задачай партыйнай работы ў сучасны момант з'яўляецца сістэматычная работа з беспартыйным актывам; вылучэнне на кіруючую работу тых актывістаў, якія даказалі на практычнай рабоце сваю адданасць савецкай уладзе; пастаноўка ў калгасах, соўгасах сістэматычнай палітагітацыі і палітінфармацыі, правядзенне палітдзён і штодзённай работы з агітатарамі.

Важнейшыя задачы райпартарганізацыі пасля абмену партдакументаў: замацаваць уздым партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы, палепшыць кіраўніцтва ўсім гаспадарча-палітычным жыццём раёна, як найхутчэй ліквідаваць выяўленыя недахопы, узняць узровень арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва.

---

**Фельдман**

Сакратар Асіпавіцкага РК КП(б)Б

# Да вынікаў абмену партдакументаў

На прыкладзе нашай партарганізацыі ясна віддаць тую выключную ролю абмену партдакументаў, якую ён адыграў у справе ўпарадкавання партыйнай гаспадаркі, умацавання боездольнасці, росту ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў і ўздыму ўсёй партыйнай работы на вышэйшую ступень.

Ачышчаючы свае рады ад пасіўных элементаў, якія не апраўдалі высокага звання комуніста, мы адначасова прадаўжалі ачыстку партарганізацыі ад чуждых і варожых людзей, не выкрытых у час праверкі.

У падрыхтоўчай рабоце і ў час абмену партдакументаў мы кіраваліся дырэктывай студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б:

> «Пленум абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі забяспечыць такое правядзенне абмену партыйных білетаў, каб тэта мерапрыемства яшчэ больш умацавала і згуртавала партыйную арганізацыю, узмацніла-б актыўны ўдзел комуніста ў палітычным жыцці партыі і краіны, умацавала-б арганізацыйныя прынцыпы большэвізма».

Падрыхтоўка і абмен партдакументаў замацавалі вынікі праверкі, павысілі большэвіцкую боездольнасць нашай партарганізацыі і ўзровень партыйнай работы.

Возьмем такое цэнтральнае пытанне, як выкананне статута нашай партыі.

Усе пярвічныя партарганізацыі сістэматычна заслухоўваюць самасправаздачы комуністаў аб выкананні імі статута партыі і асабліва 2 параграфа. Самасправаздачы маюць не толькі вялікае партыйна-выхаваўчае значэнне, але і садзейнічаюць лепшаму вывучэнню комуніста, арганізацыі яму своечасовай дапамогі ў выкананні партыйных даручэнняў, у павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню, агульнай асветы, тэхнічнай кваліфікацыі а таксама ў палепшанні матэрыяльна-бытавых умоў.

Так, напрыклад, партарганізацыя Дзераўцоўскага сельсовета аказала матэрыяльную дапамогу тав. Елісееву. Партарганізацыя РВК прымацавала да тав. Ждановіч, якая не магла наведваць кандыдацкую школу, члена партыі для індывідуальных заняткаў. Бюро райкома таксама ставіць самасправаздачы комуністаў аб

рабоце над павышэннем ідэйна-палітычнага і агульна-адукацыйнага ўзроўню, тэхнічнай кваліфікацыі, аб выхаванні сваіх дзяцей і т. д.

Аднак, нельга не адзначыць такіх выпадкаў, калі самасправаздачы ставяцца на партсходах без належнай сур'ёзнай падрыхтоўкі і па іх прымаюць агульныя, неканкрэтныя рашэнні. У гэтай справе вінаваты перш за ўсё інструктары райкома, якія практычна мала дапамагаюць нізавым партарганізацыям. Задача райкома, яго інструктароў, усіх сакратароў парткомаў і парторгаў—так паставіць работу, каб самасправаздачы сапраўды садзейнічалі ідэйна-палітычнаму росту і выхаванню комуністаў ў духу большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны, як у партыйным жыцці, так і на вытворчасці.

* * *

Праверка і абмен партдакументаў садзейнічалі ўзмацненню ўнутры партыйнай дэмакратыі і большэвіцкай самакрытыкі.

Значна ажывілася ўнутрыпартыйная работа. Партарганізацыі сталі лепш падрыхтоўваць партыйныя дні, падбіраць абвестку з такіх пытанняў, якія найбольш цікавяць комуністаў, своечасова паведамляць аб часе партсхода і парадку дня.

Партыйныя пытанні з'яўляюцца зараз асноўным зместам работы не толькі райкома партыі, але і пярвічных партарганізацый.

Нязмерна вырасла выхаваўчая роля партыйнага сходу, які становіцца школай ідэйнага ўзброення і выхавання комуністаў. Рад пярвічных партарганізацый (шклозавода «Окцябр», РВК, РК КП(б)Б і інш.) ставяць на партсходах паасобныя тэарэтычныя пытанні, галоўным чынам аб арганізацыйных прынцыпах большэвізма, ролі партыі і т. д., а таксама пытанні статута і праграмы партыі, агульна-палітычныя пытанні.

Да партсходаў арганізуецца папярэдняя падрыхтоўка комуністаў. Напрыклад, партарганізацыя РВК паставіла ў парадак дня партсходу пытанне «Аб арганізацыйных прынцыпах большэвізма». Комуністы былі паведамлены за 10 дзён да сходу, была ўказана літаратура, вылучаны некалькі дакладчыкаў, арганізавана дапамога слаба падрыхтаваным таварышам і т. д. Партарганізацыя РК КП(б)Б такім-жа чынам прапрацавала на партсходзе ліст таварыша Сталіна ў часопісе «Пролетарская революция» і намеціла ў бліжэйшы час прапрацаваць пытанне аб значэнні «Комуністычнага маніфеста» Маркса—Энгельса.

Аднак, нам яшчэ трэба шмат папрацаваць над далейшым павышэннем выхаваўчай ролі партыйнага сходу, палепшаннем падрыхтоўкі партыйных дзён, перадачай лепшага вопыту ў гэтай справе ўсім пярвічным партарганізацыям, тым больш, што частка іх (праўда, невялікая) яшчэ дрэнна рыхтуецца і праводзіць партсходы па-старынцы.

Некаторыя пярвічныя партарганізацыі сталі практыкаваць сістэматычную самасправаздачу выканання сваіх рашэнняў. На кожным партсходзе сакратар парткома ці парторг дакладвае аб ходзе выканання рашэнняў папярэдняга партсходу. Бюро райкома прапанавала ўсім партарганізацыям прымяняць гэту практыку, якая цалкам сябе апраўдала.

Мы пачалі часцей склікаць раённыя партыйныя сходы і лепш іх падрыхтоўваць. Таксама часта склікаем сходы райпартактыва.

* * *

Партыйная вучоба стала ў цэнтры ўсёй нашай унутры-партыйнай работы. Не толькі райком, але і пярвічныя партарганізацыі ўдзяляюць ёй выключную ўвагу. Комуністы цяпер сістэматычна працуюць над сабою, рэгулярна наведваюць партыйныя заняткі, добра рыхтуюцца да іх, складаюць канспекты. Усе комуністы без выключэння ахоплены той ці іншай формай партвучобы. Сезоннасць поўнасцю ліквідавана. У выніку значна ўзрос ідэйна-палітычны ўзровень членаў і кандыдатаў партыі. Прывядзем некалькі прыкладаў.

Тав. Штабной у час праверкі партдакументаў быў палітычна няграматны. Сур'ёзна ўзяўшыся за вучобу, ён значна павысіў свой палітычны ўзровень і цяпер па даручэнню пярвічнай партарганізацыі прапрацоўвае са спачуваючымі статут і праграму партыі. З гэтай работай спраўляецца добра.

Тав. Кастусік раней не працаваў над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, не чытаў мастацкай літаратуры, і нават газет. Зараз ён з'яўляецца завочнікам БІМЗО і здае тэмы на добра. З мастацкай літаратуры прачытаў «Паднятую цаліну» Шолахава, «Дрыгву» Я. Коласа і інш.

Член партыі тав. Пагалаеў і кандыдат партыі тав. Крэўчык (старшыня калгаса) з-за сваёй палітычнай няграматнасці адарваліся было ад партыйнага жыцця. Зараз яны рэгулярна займаюцца ў партшколе, чытаюць газеты, сталі лепш працаваць у сваіх калгасах.

Членаў партыі тт. Адынца, Драчова, Пігулеўскага, Аксельрода, Сакалова, Арэхава, Садоўскага і інш. проста не пазнаць: яны павысілі свой ідэйна-палітычны ўзровень, добра рыхтуюцца да заняткаў.

Пачалі мы арганізацыю партвучобы з камплектавання партыйных школ, улічваючы палітычную падрыхтаванасць комуністаў і ўзяўшы курс на тое, каб усе комуністы вывучалі гісторыю партыі за выключэннем слухачоў кандыдацкіх школ. З 14 партыйных школ, не лічачы чыгуначных партарганізацый, 10 школ паніжанага і павышанага тыпу вывучаюць гісторыю партыі. 4 кандыдацкія школы, у тым ліку адна раённая, працуюць 3 дні ў месяц з адрывам ад вытворчасці. Акрамя таго, працуюць 3 палітшколы для спачуваючых, рад палітшкол і школ па гісторыі партыі для настаўнікаў і сетка комсамольскай палітвучобы.

Пры камплектаванні мы праверылі палітычны ўзровень комуністаў, улічылі іх асабістае жаданне пры выбары школы. Малападрыхтаваных членаў партыі прышлося залічыць у кандыдацкія школы, каб яны раней добра засвоілі асновы па гісторыі партыі.

Устанавіўшы сталыя дні партвучобы, мы патрабавалі строгага іх захавання. Узнялі адказнасць прапагандыстаў і слухачоў за паспяховае правядзенне заняткаў. У гэтым годзе выпадкаў зрыву заняткаў амаль не было.

Бюро райкома сістэматычна заслухоўвае справаздачы парторгаў і прапагандыстаў аб рабоце школ і самасправаздачы партактыва аб павышэнні свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню. Такія-ж самасправаздачы ставяцца ўсімі пярвічнымі партарганізацыямі. Слаба падрыхтаваным комуністам арганізуецца дапамога.

Выключнае значэнне мае падбор прапагандыстаў і работа з імі. Кожная кандыдатура прапагандыста абмяркоўвалася і зацвярджалася на бюро райкома. Кіруюць партыйнымі школамі найбольш падрыхтаваныя, большэвіцкі вытрыманыя таварышы: намеснік сак-

ратара райкома, інструктары і інш. З 13 прапагандыстаў 4 вучыліся ў комвузах і на курсах марксізма-ленінізма, 2 скончылі курсы прапагандыстаў. Па стажу прапагандысцкай работы: ад 1 да 2 год—30 проц., звыш 2 год—70 проц. Семінар прапагандыстаў збіраецца 2 разы ў месяц і прапрацоўвае як пытанні праграмы партыйных школ, так і паасобныя агульна-палітычныя і тэарэтычныя пытанні. Працуе таксама і семінар прапагандыстаў комсамольскіх палітшкол.

Значнае месца ў нашым раёне займае завочная партвучоба і калектыўнае слуханне радыёлекцый. Завочнай партвучобай ахоплены 43 члены партыі, 4 кандыдаты, 11 комсамольцаў і 59 чал. беспартыйнага актыва. Усе завочнікі рыхтуюцца па праграме і раз у месяц збіраюцца на 3 дні пры райпартгабінеце для здачы тэм. Акрамя таго 77 чал. ахоплены курсамі калгаснага актыва.

Райпартгабінет змяшчаецца ў былым памяшканні РВК—адным з лепшых будынкаў горада. Для заняткаў гурткоў абсталяваны прасторныя, утульныя пакоі. Адзін з лепшых пакояў адведзен пад радыёпартаўдыторыю, дзе слухачы партшкол і завочнікі калектыўна слухаюць радыёлекцыі. У партгабінеце ёсць патэфон, більярд, шашкі, шахматы, даміно. Акрамя семінара для прапагандыстаў, партгабінет перыядычна праводзіць лекцыі і даклады для райпартактыва, а таксама дае кансультацыі дакладчыкам, якія выязджаюць на раён для палітмасавай работы.

У рабоце нашага партгабінета ёсць яшчэ рад недахопаў. Неабходна лепш паставіць метадычную дапамогу партыйным школам на перыферыі, вывешваць рэкамендацыйныя спісы літаратуры па важнейшых пытаннях, арганізоўваць выстаўкі навейшай літаратуры, у тым ліку мастацкай, выстаўкі апошніх нумароў розных часопісаў і т. д.

З ажыўленнем унутрыпартыйнай работы і ростам ідэйна-палітычнага ўзроўню ўзрасла актыўнасць комуністаў у партыйным жыцці. Тт. Метнер, Гоман, Грынфельд і інш., аддана працуючы на сваім участку, амаль ніколі не выступалі на партыйных сходах, цяпер яны прымаюць актыўны ўдзел ва ўсім партыйным жыцці.

Падрыхтоўчая работа і абмен партдакументаў, самасправаздачы комуністаў, палепшанне якасці партвучобы—усё гэта дало нам магчымасць стварыць новы партыйны рэзерв з 24 таварышоў, з якіх 13 чал. ужо вылучаны на больш адказную работу. Тав. Гальвас—работнік райсаюза спажывецкай кааперацыі вылучан старшынёй райсаюза, тав. Фрыдман—старшыня сельсовета вылучан старшынёй райсовета Асоавіяхіма і т. д.

Побач з дасягненнямі, у рабоце нашай партарганізацыі ёсць яшчэ рад буйных недахопаў. Недастаткова разгорнута падрыхтоўка да новага прыёму ў партыю, работы з кандыдатамі, спачуваючымі, комсамолам, стаханаўцамі. Слаба таксама працуем з вылучэнцамі, што адзначыла бюро ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні аб выніках абмену па нашай партарганізацыі.

Паасобныя пярвічныя партарганізацыі дабіліся ў гэтай справе значных поспехаў: расце ідэйна-палітычны ўзровень кандыдатаў партыі, іх удзел у партыйным жыцці.

Тав. **Муміловіч,** пераведзеная ў кандыдаты пры чыстцы ў 1933 г. за палітычную няграматнасць, зараз паспяхова займаецца ў кандыдацкай школе, вывучае статут партыі, рэгулярна чытае газеты. Тав. **Варабей** Матрона скончыла кандыдацкую школу і цяпер вывучае гісторыю і статут партыі, чытае мастацкую літаратуру і газеты, вядзе палітмасавую работу ў калгасе. Тав. **Бурганскі** скончыў кан-

дыдацкую школу, з'яўляецца завочнікам БІМЗО і займаецца ў групе па вывучэнню праграмы і статута партыі. Рэгулярна чытае газеты. Прачытаў ужо рад мастацкіх твораў: «Як гартавалася сталь», «Цусіма», «Ціхі Дон» і інш. Пераведзеныя ў свой час у кандыдаты тт. Пікулін, Грынфельд і Глебаў зараз узмоцнена рыхтуюцца да пераводу ў члены партыі.

Аднак, у радзе пярвічных партарганізацый (шклозавода «Окцябр», торфзавода «Свабода» і інш.) работа з кандыдатамі партыі пастаўлена слаба. Тут мы маем на ўвазе не толькі партвучобу, але і штодзенную работу з кандыдатамі партыі, выхаванне ў іх жалезнай партыйнай дысцыпліны і большэвіцкай вытрыманасці, уцягненне ў актыўную партыйна-грамадскую работу, кантроль за выкананнем даручэнняў і т. д.

Перад намі стаіць адказнейшая задача—палепшыць работу са спачуваючымі і дабіцца росту іх за лік лепшых стаханаўцаў і беспартыйнага актыва. Спачуваючых мы ахапілі палітвучобай, а для адзіночак, пераведзеных з кандыдатаў у час чысткі 1933 г., арганізуем раённую палітшколу, дзе яны будуць займацца 3 дні ў месяц з адрывам ад вытворчасці. Раз у месяц склікаюцца раённыя сходы спачуваючых, часта з удзелам сакратароў парткомаў і парторгаў. Сходы абмяркоўваюць пытанні выхаваўчай работы са спачуваючымі, абмену вопытам у гэтай галіне, работы спачуваючых над сабою, паасобныя пытанні статута і праграмы партыі, міжнароднага жыцця і т. д. Але ўсё гэта—мерапрыемствы раённага парадку. Большасць пярвічных партарганізацый яшчэ слаба працуе як над выхаваннем спачуваючых на практычнай грамадскай рабоце, набліжэннем іх да партыйнага жыцця, павышэннем ідэйна-палітычнага і агульна-адукацыйнага ўзроўню, так і над арганізацыяй росту груп спачуваючых за лік стаханаўцаў прадпрыемстваў і калгасаў.

Больш увагі партарганізацыя павінна звярнуць на кіраўніцтва і дапамогу комсамолу ў ажыццяўленні рашэнняў X з'езда ВЛКСМ, асабліва ў галіне палітычнай і тэхнічнай асветы моладзі, работы школ і т. д.

Недастаткова разгорнуты ў нашым раёне і стаханаўскі рух, асабліва ў сельскай гаспадарцы. Тэарэтычны ўзровень партактыва ўсё яшчэ не адпавядае ўзросшым задачам партарганізацыі.

Толькі першыя крокі зроблены ў галіне палепшання палітычнай агітацыі. Некаторыя партарганізацыі вылучылі групы чытачоў-агітатараў, наладзілі для рабочых і калгаснікаў сістэматычныя палітінфармацыі, галосную чытку газет, радыёслуханне і т. д. Шырокая пастаноўка палітычнай агітацыі сярод беспартыйных мас—важнейшая задача нашай партарганізацыі.

Замацаваўшы вынікі праверкі і абмену партыйных дакументаў, поўнасцю ўпарадкаваўшы партыйную гаспадарку, мабілізуючы партарганізацыю на далейшае павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню сваіх членаў, на вывучэнне, падбор і вырошчванне партыйных кадраў,—асіпавіцкая партарганізацыя пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і таварыша Гікало выйдзе ў рады перадавых арганізацый КП(б)Б.

---

**Кацнельсон**

Загадчык Культпропа Слуцкага
Акруговага Камітэта КП(б)Б

# Забяспечыць штодзённае і канкрэтнае кіраўніцтва партыйнай вучобай[1])

Больш высокі ўзровень партасветы зараз мы маем ва ўсіх партыйных арганізацыях. Асабліва важна тое, што мы маем паварот да пытанняў партасветы саміх камуністаў і кіруючых партыйных работнікаў.

На апошніх раённых партсходах, якія мы правадзілі ў сувязі з падрыхтоўкай да акруговай канферэнцыі, пытанні партыйнай прапаганды займалі вялікае месца. У Любані і іншых раёнах на партсходах выступала па 30 чалавек і амаль усе гаварылі аб партыйнай прапагандзе. Комуністы прад'яўлялі да райкома рад патрабаванняў аб палепшанні партыйнай вучобы.

У Чырвонаслабодскім раёне партвучоба была пастаўлена раней дрэнна. Цяпер-жа ўведзена ў сістэму заслухоўванне дакладаў комуністаў на бюро райкома партыі аб іх вучобе і рабоце над сабой па падвышэнню свайго палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню.

Вельмі важна, каб да прапагандысцкай работы прыцягнуты былі асноўныя кадры партыйных работнікаў. У нашай акрузе школамі і гурткамі кіруюць усе інструктары райкомаў, а таксама 5 сакратароў райкомаў.

Аднак, узровень тэарэтычнай падрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў у нас яшчэ нізкі, што прымушае нас вельмі сур'ёзна заняцца гэтым пытаннем. Мы павінны дабіцца таго, каб прапагандысты працавалі над сабой, павышалі свой агульна-тэарэтычны ўзровень.

Асноўнае—гэта падрыхтоўка прапагандыста да заняткаў. Прапагандыст павінен ведаць, якімі матэрыяламі карыстацца, павінен спачатку сам прапрацаваць пытанні той або іншай тэмы і ўмець скласці план заняткаў. У гэтай рабоце кожны прапагандыст павінен атрымаць дапамогу і кансультацыю.

Значную ролю ў аказанні дапамогі прапагандыстам і слухачам павінны адыграць партыйныя габінеты. Партгабінет павінен з'яўляцца тым месцам, дзе слухачы, а таксама і прапагандысты маглі-б знайсці не толькі параду аб патрэбнай літаратуры да той або іншай тэмы, але і адпаведную кансультацыю. Таму на работу ў якасці загадчыкаў партгабінетаў трэба падбіраць добра падрыхтаваных комуністаў.

---

1) Скарочаная стэнаграма выступлення на нарадзе пры ЦК КП(б)Б.

На практыцы часам наглядаецца адваротная з'ява. Так, аддзел партыйнай прапаганды ЦК прыслаў нам у якасці загадчыка партгабінетам комуніста, якога не прынялі на курсы прапагандыстаў у Менску з-за яго непадрыхтаванасці. Які-ж з яго загадчык партгабінетам і якую дапамогу ён можа аказаць прапагандыстам, гурткам і паасобным комуністам ў пытаннях партыйнай вучобы? Ад такога загадчыка партгабінету карысці вельмі мала.

Такім адносінам да падбору загадчыкаў партгабінетаў трэба паклажыць канец. Наша задача дабіцца таго, каб партгабінеты сталі сапраўднымі памочнікамі партыйных арганізацый у справе палепшання якасці партыйнай вучобы.

Праверка работы партыйных школ паказала, што якасць вучобы ў значнай частцы гурткоў і школ яшчэ дрэнная. Гэты прабел у рабоце райкомаў, гаркомаў і парткомаў павінен быць неадкладна ліквідаваны. Толькі тады, калі райкомы, гаркомы і кіраўнікі нізавых партыйных арганізацый забяспечаць штодзённы кантроль і непасрэднае кіраўніцтва работай школ і гурткоў, мы зможам выправіць маючыяся недахопы і палепшыць якасць партыйнай вучобы і прапаганды.

Адным з буйнейшых недахопаў у партвучобе з'яўляецца тое, што сакратары райкомаў у нас не вучацца. Я лічу, што да кожнага сакратара райкома трэба прымацаваць кваліфікаванага настаўніка па прыкладу работнікаў прамысловасці. Такое мерапрыемства садзейнічала-б значнаму росту агульнага ўзроўню сакратароў райкомаў.

---

**Гутман**

Загадчык культпропа Магілеўскага РК КП(б)Б

# Як Магілеўскі райком працуе з прапагандыстамі [1])

Магілеўскі райком партыі за апошні час удзяляе шмат увагі рабоце з прапагандыстамі. За перыяд абмену партдакументаў адхілена ад прапагандысцкай работы звыш 20 чалавек, якія не спраўляліся са сваімі абавязкамі.

На сёнешні дзень склад прапагандыстаў нашай партарганізацыі нядрэнны. У нас 118 прапагандыстаў, з іх 45 маюць вышэйшую адукацыю, а астатнія скончылі або соўпартшколу або курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандыстаў.

У гэтым годзе намечана прапусціць праз курсы па перападрыхтоўцы прапагандыстаў 80 чалавек, у далейшым праз гэтыя курсы мяркуецца прапусціць у асноўным увесь склад прапагандыстаў, за выключэннем маючых вышэйшую адукацыю.

У часе абмену партдакументаў вылучана на работу ў якасці прапагандыстаў каля 40 чалавек. Праз перападрыхтоўчыя курсы намечана прапусціць іх у першую чаргу. Зараз ужо пачата работа па ўкамплектаванню 6-месячнай школы прапагандыстаў на 60 чалавек.

Як мы працуем з прапагандыстамі?

Два разы ў месяц праводзіцца пропсемінар, на якім распрацоўваюцца пытанні бягучай палітыкі, гісторыі партыі, філасофскія пытанні і т. п. Так, мы прапрацавалі даклад тав. Берыя: «Партыя большэвікоў у гады імперыялістычнай вайны» і інш. Усяго на пропсемінары мы прапрацавалі 12—13 пытанняў, прычым для кіраўніцтва заняткамі прыцягвалі кваліфікаваных таварышоў.

Тры дні ў месяц прапагандысты рыхтуюцца да заняткаў (з адрывам ад работы) у доме партактыва. Тут яны прапрацоўваюць матэрыялы па першакрыніцах і атрымліваюць адпаведную кансультацыю.

Кансультацыі для прапагандыстаў праводзяцца таксама на шоўкавай фабрыцы, да якой прымацован для гэтай работы кваліфікаваны таварыш.

Апрача кансультацыі, райком практыкаваў у апошні час абследванне работы гурткоў і школ, што значна павысіла якасць партыйнай вучобы. Актывам прапагандыстаў былі абследваны амаль усе школы і гурткі, а некаторыя нават па некалькі разоў. Прысутнічаючы на занятках, вылучаныя для абследвання таварышы выяўлялі недахопы, выклікалі пасля гэтага прапагандыста ў культпроп, раз-

[1]) Скарочаная стэнаграма выступлення на нарадзе пры ЦК КП(б)Б.

біралі з ім выяўленыя недахопы і давалі ўказанні, як іх выправіць. Рад прапагандыстаў пасля абследвання сталі лепш рыхтавацца да заняткаў (тт. Чыж, Фёдарава і інш.).

Цяпер мы падбіраем прапагандыстаў па прапрацоўваемых імі тэмах і прымацоўваем да кожнай такой групы таварыша, які павінен увесь час з імі працаваць: прысутнічаць на занятках, даваць кансультацыі і т. п.

Апрача таго, мы правялі некалькі нарад па абмену вопытам прапагандысцкай работы, якія далі прапагандыстам вельмі многа ў сэнсе метадычнай дапамогі. Такіх нарад у нас было праведзена 5.

Пленум райкома партыі, які адбыўся 5-VI, быў прысвечан пытанню партыйнай прапаганды. Пленум заслухаў рад інфармацый партыйных арганізацый аб ходзе партвучобы. Асноўным недахопам выступаўшыя на пленуме прапагандысты і партыйныя работнікі лічаць тое, што пропсемінар пакуль што працуе дрэнна.

У сваёй рабоце з прапагандыстамі райком дабіўся за апошні час некаторых поспехаў. Аднак трэба сказаць, што работа з прапагандыстамі на сёнешні дзень з'яўляецца яшчэ адным з слабых участкаў партыйнай прапаганды. Гэта абавязвае нас яшчэ больш сур'ёзна ўзяцца за падрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі прапагандыстаў і дабіцца таго, каб кваліфікацыя, веды і метады прапагандысцкай работы адпавядалі патрабаванням партыйнай вучобы.

---

**Пояркаў**

**Загадчык культпропа Бабруйскага райкома КП(б)Б**

# Палепшылась якасць партыйнай прапаганды [1]

Праверка і абмен партыйных дакументаў сказаліся на палепшанні арганізацыйна-партыйнай работы і асабліва на арганізацыі партыйнай асветы.

У працэсе праверкі мы выявілі растучыя кадры, якіх не заўважалі раней. Адных толькі прапагандыстаў мы вылучылі значную колькасць. І зараз, падводзячы вынікі абмену, мы можам адзначыць, што наша партарганізацыя моцна падцягнулася ў сэнсе ідэйна-палітычнага росту.

Значна выраслі паасобныя комуністы. Возьмем тав. Гушча. Яна да праверкі партыйных дакументаў была зусім непісьменнай, нават не ўмела падпісацца. Мы прымацавалі да яе настаўніка і цяпер яна ўжо ўмее чытаць і пісаць. Калі на бюро райкома ставілася пытанне аб яе паспяховасці, яна заявіла: «Я вам на бюро райкома напішу заяву, што будзе лепшым паказчыкам маіх поспехаў». І яна сапраўды напісала тэкст заявы добра і граматна.

Возьмем тав. Бурдзіна з лесакамбіната. Член партыі з 1920 г. У перыяд грамадзянскай вайны ён вадзіў бронепоезд на ўсходнім і паўднёвым франтах, геройскі біўся з ворагамі. Чалавек надзвычай каштоўны, але крыху спіўся і таму адарваўся ад грамадскага і партыйнага жыцця. Пад уплывам райкома і партарганізацыі завода ён кінуў піць, уцягнуўся актыўна ў грамадскую і партыйную работу.

Зусім правільна пастаўлена цяпер пытанне аб падняцці ўзроўню агульнаадукацыйнага развіцця комуністаў, бо апошні ў многіх комуністаў надзвычайна нізкі. Неабходна ўдумліва падыйсці да вырашэння гэтага пытання. У нашай партарганізацыі зусім непісьменных было выяўлена 4 чалавекі. Мы арганізавалі ім дапамогу, для чаго рэарганізавалі нашу соўпартшколу ў вячэрнюю партыйную школу і ўключылі ў яе праграму значную частку агульнаадукацыйных прадметаў—мову, матэматыку, геаграфію і інш.

Потым мы стварылі агульнаадукацыйную школу з палітычным ухілам і школу для малапісьменных. Усяго гэтымі школамі ахоплена ў нас 398 комуністаў, прычым колькасць навучаючыхся ўвесь час расце.

Асноўным звяном у падняцці якасці вучобы з'яўляюцца, безумоўна, прапагандысты. З года ў год мы арганізоўваем курсы прапагандыстаў.

---

[1] Скарочаная стэнаграма выступлення на нарадзе пры ЦК КП(б)Б.

Але, нажаль, на гэтыя курсы прымалі людзей з такой падрыхтоўкай, што пасля вучобы многія з іх аказваліся не здольнымі для вядзення прапагандысцкай работы. Мы ўлічылі гэта ў бягучым годзе і дабіліся лепшых вынікаў. З агульнай колькасці курсантаў у 27 чалавек мы атрымалі 25 прапагандыстаў, з іх большасць—для гурткоў па гісторыі партыі.

У нас ёсць і майстры партыйнай прапаганды, вопыт якіх мы, праўда, мала пашыраем. Напрыклад, т. Брайман, прапагандыст школы спачуваючых на швейнай фабрыцы. У мінулым годзе ён кіраваў кандыдацкай школай і ўсе яго слухачы паспяхова займаліся. Выдзяляецца сваёй прапагандысцкай работай таксама тав. Шміт (Фанерны завод імя Кірава).

Нядаўна ў нас была праведзена раённая тэарэтычная канферэнцыя сакратароў парткомаў і парторгаў. Пярвічныя партарганізацыі правялі 8 такіх канферэнцый. Трэба сказаць, што ўсе гэтыя канферэнцыі былі праведзены нядрэнна.

На лесакамбінаце канферэнцыя прапрацоўвала пытанне аб статуце партыі. Было падрыхтавана да 10 дакладчыкаў і ўвесь партыйны актыў спецыяльна рыхтаваўся да гэтай канферэнцыі. Для ўдзельнікаў канферэнцыі была арганізавана кансультацыя. Асабліва характэрна тое, што, апрача асноўных дакладчыкаў, на канферэнцыі выступала многа комуністаў.

Цяпер мы рыхтуем тэарэтычную канферэнцыю па рабоце Леніна: «Дзяржава і рэволюцыя».

Вялікім недахопам у нашай рабоце з прапагандыстамі з'яўляецца тое, што мы дрэнна арганізоўваем абмен вопытам работы. Недастаткова гэтым пытаннем займаецца таксама бюлетэнь «У дапамогу партработнікам».

Адным з слабых месц вывучэння гісторыі партыі з'яўляецца адсутнасць матэрыялаў па гісторыі КП(б)Б, што пазбаўляе нас магчымасці ўвязваць вывучэнне гісторыі партыі з канкрэтнымі матэрыяламі барацьбы партыі ў Беларусі. Гэтымі матэрыяламі павінен снабжаць нас Інстытут гісторыі КП(б)Б. Але, нажаль, ён да гэтага часу сваю задачу не выконвае, бо за ўвесь час не выпусціў ніводнага вучэбніка па гісторыі КП(б)Б. Уся партыйная сець прад'яўляе інстытуту патрабаванне—даць у бліжэйшы час для партыйных школ і прапагандыстаў матэрыялы па гісторыі КП(б)Б.

**Роговой**

рапагандыст гуртка па вывучэнню гісторыі партыі Старадарожскага райкома КП(б)Б

# Мой метад кіраўніцтва гуртком[1]

Я кірую гуртком па вывучэнню гісторыі партыі. У маім гуртку 12 чалавек: 9 членаў партыі, 2 беспартыйных і 1 комсамолец. Узровень ведаў усіх слухачоў амаль аднолькавы, толькі адзін крыху адстае.

Гурток працуе з студзеня 1935 г. Цяпер мы закончылі прапрацоўку 14-й тэмы: «Барацьба партыі з трацкісцка-зіноўеўскім блокам і яго разгром». Апрача таго, у гэтым годзе мною было праведзена 6 заняткаў па пытаннях бягучай палітыкі. Мы прапрацавалі матэрыялы снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), сесіі ЦВК і пастановы III пленума камісіі партыйнага кантролю.

Да кожнай тэмы я даю слухачам вузлавыя пытанні, указваю літаратуру, паасобныя артыкулы з першакрыніц і спасылаюся на адпаведныя месцы ў вучэбніках Кнорына і Яраслаўскага. Мінут 40 я чытаю ўступную лекцыю, спыняючыся на асноўных пытаннях тэмы. У працэсе прапрацоўкі тэмы я цікаўлюся, як кожны слухач рыхтуецца да заняткаў. Партгабінет у большасці выпадкаў дапамагае нам падборам літаратуры і кансультацыямі.

На заключнай канферэнцыі я мінут 15—20 аддаю ўступнаму слову, увязваю прапрацаваны матэрыял з папярэдняй тэмай, а потым вяду жывую гутарку. У гутарцы прымаюць удзел усе слухачы, адзін аднаго папраўляюць і дапаўняюць, і таму яны праходзяць ажыўлена.

У часе гутаркі я намячаю пытанні, на якіх трэба спыніцца пасля выступленняў слухачоў. Калі вычарпан увесь матэрыял, я падводжу вынікі прапрацаванай тэмы. Гэта займае мінут 20—30. Такім чынам, з 4-х гадзін заняткаў я займаю толькі 1 гадзіну, а астатнія 3 гадзіны выступаюць самі слухачы. Няма ніводнага слухача ў маім гуртку, які не выступаў-бы па якому-небудзь пытанню. Такі метад актывізуе слухачоў і прымушае іх глыбока прапрацоўваць матэрыялы па кожнай тэме.

Пасля кожных заняткаў або перад заняткамі я правяраю канспекты.

Кожную тэму я ўвязваю з мясцовым матэрыялам і міжнародным становішчам. Напрыклад, калі мы прапрацоўвалі пытанне аб барацьбе партыі з апазіцыяй на XV з'ездзе, я ўвязаў яго з сучасным стано-

---

[1] Скарочаная стэнаграма выступлення на нарадзе пры ЦК КП(б)Б.

вішчам барацьбы партыі з рэшткамі трацкісцка-зіноўеўскай контррэвалюцыйна-белагвардзейскай банды.

Адначасова з работай па вывучэнню гісторыі партыі я праводжу 6 раз у месяц агульнаадукацыйныя заняткі. Кожнаму слухачу выдан спіс рэкамендуемай мастацкай літаратуры, і многія з іх прачыталі паказаную ў спісе літаратуру.

За гэты год многія слухачы майго гуртка значна падмацавалі свае палітычныя веды. Тры таварышы з майго гуртка могуць ужо кіраваць нізавымі партыйнымі школамі.

Адзін раз я правёў паказальныя заняткі, на якіх прысутнічаў інструктар па прапагандзе з райкома і чатыры прапагандысты. Яны далі вельмі добры водзыў аб рабоце гуртка. Я сам таксама прысутнічаў на занятках другіх гурткоў і знаёміўся з метадамі іншых прапагандыстаў. Гэта прынесла мне, як і іншым прапагандыстам, вялікую карысць.

**Жолнер**

**Кіраўнік гуртка па гісторыі партыі Чырвона-Слабодскага раёна**

# Мой метад кіраўніцтва работай гуртка [1]

Усяго ў нашай партарганізацыі 9 партшкол: 3—у мястэчку і 6—на перыферыі. Кожная з перыферыйных школ мае свой партгабінет.

У гуртку па вывучэнню гісторыі партыі, якім я кірую, займаюцца 23 таварышы: 8 комсамольцаў, 3 кандыдаты партыі і 12 членаў партыі. Гэта, галоўным чынам, райпартактыў—нарсуддзя, пракурор, намеснік старшыні РВК, загадчык райфінаддзелам, загадчык зямельным аддзелам і т. д. У большасці сваёй гэтыя таварышы вылучаны на адказную раённую работу за час праверкі партдакументаў і падрыхтоўка іх не вельмі высокая.

Апрача іх у гуртку займаюцца комсамольскі актыў, частка з апарата райкома комсамола і комсамольцы, якія працуюць у раённым цэнтры.

Гурток займаецца тры разы ў месяц (з адрывам ад вытворчасці) па 8 гадзін у дзень.

Як я кірую заняткамі гуртка? Я не абмяжоўваюся ўводнай лекцыяй і ўказаннем літаратуры. Спачатку праводжу гутарку па тэме, а потым ідзе прапрацоўка матэрыялаў, галоўным чынам па першакрыніцах. Пасля прапрацоўкі даю ўводную лекцыю на наступную тэму і ўказваю вузлавыя пытанні.

Вельмі часта я практыкую індывідуальную і групавую кансультацыю, а часам збіраю таварышоў у партгабінет для таго, каб прачытаць ім той або іншы матэрыял: рэзалюцыі з'ездаў, канферэнцый і інш. Апрача таго я цікаўлюся работай кожнага слухача, высняю, як хто працуе, што чытае і т. д. Да больш адстаючых хаджу на дом і аказваю неабходную дапамогу.

Напрыклад тав. Галоўчанка. Да апошняга года ён адставаў у вучобе. Пасля таго, як я з ім некалькі разоў пагутарыў і навучыў як працаваць над кнігай, ён паказаў значныя поспехі і цяпер нават самастойна складае добрыя канспекты.

Тав. Солін (кандыдат партыі, працуе ў шавецкай арцелі) таксама да апошняга часу не цікавіўся вучобай. Цяпер-жа з'яўляецца адным з перадавікоў у партшколе і праводзіць палітгутаркі ў сваей арцелі.

Нядаўна былі ў нас праведзены ўзорныя заняткі па тэме: «Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя». Рыхтавацца да гэтых заняткаў пачаў я за 10—15 дзён. Прачытаў першы том «Гісторыі гра-

---

1) Скарочаная стэнаграма выступлення на нарадзе пры ЦК КП(б)Б.

мадзянскай вайны», XX том твораў Леніна, склаў канспект, а таксама скарыстаў і мастацкую літаратуру. Прачытаў «Успаміны» Н. К. Крупскай, «Хождение по мукам» А. Талстога і некаторыя іншыя мастацкія творы. Для нагляднай ілюстрацыі паасобных момантаў лекцыі, я падрыхтаваў некалькі дыяграм: аб нарастанні рэвалюцыйнага руху на Беларусі, у арміі, аб росце палітычных стачак, аб дэманстрацыях з студзеня па сакавік 1917 г.

Усе нашы прапагандысты і члены райкома прысутнічалі на занятках, і яны прайшлі вельмі жыва і цікава. Пасля заняткаў мы сабралі прапагандыстаў і выявілі дадатныя і адмоўныя моманты ў лекцыі. Усе ўказвалі, што нагляднага матэрыялу было недастаткова, што з'яўляецца нашым агульным недахопам.

Комуністы майго гуртка маюць сваю . бібліятэчку, набытую імі толькі ў гэтым годзе. У кожнага ёсць свае вучэбнікі: Яраслаўскага, Кнорына, «Пытанні ленінізма» Сталіна, першы том трохтомніка Леніна—Сталіна. Усе комуністы выпісваюць газеты. Большасць з іх мае ў сваёй бібліятэцы «Як гартавалася сталь» Астроўскага, «Маці» Горкага, «Ціхі дон» і «Паднятую цаліну» Шолахава і іншыя мастацкія творы.

Побач з комуністамі-слухачамі, якія займаюцца і вучацца добра, у гуртку ёсць і некаторыя комуністы, якія дрэнна працуюць над сабой. Напрыклад Грыгаровіч, намеснік старшыні райвыканкома. Ён мае здольнасць, мог-бы працаваць, але ўхіляецца ад заняткаў. Некаторыя-ж таварышы прыходзяць на заняткі непадрыхтаванымі.

Я паставіў пытанне аб гэтых таварышах на партыйным сходзе, пасля чаго яны пачалі працаваць лепш. Рад комуністаў, слаба працуючых у гуртку, былі выкліканы на бюро райкома для самасправаздачы.

Нядрэнна ў нас арганізавана работа з малаграматнымі таварышамі. Гэтых таварышоў мы вызначылі ў асобную школу і праводзім з імі рэгулярныя заняткі: 6 гадзін праходзім агульнаадукацыйныя прадметы, 2 гадзіны—палітграмату.

Вынікі атрымаліся вельмі добрыя. Тт. Янушкевіч і Гарбачоў раней не чыталі газет, бо не разбіраліся ў напісаным, цяпер яны выпісваюць газеты, чытаюць і добра разбіраюцца. Гэта наглядна паказвае, што пры добрай арганізацыі партыйнай вучобы, дастатковай ўвазе да справы партпрапаганды можна дабіцца значных поспехаў.

**Вольфсон**

**Загадчык партгабінета**
**Гомельскага шклозавода**
**імя Сталіна**

# Як я кірую работай гуртка [1)]

Працуючы загадчыкам партгабінета, я разам з тым кірую і гуртком па вывучэнню гісторыі партыі. У гуртку займаюцца 21 чалавек: 13 членаў партыі, 5 кандыдатаў, 1 комсамолец і 2 спачуваючых. З іх рабочых ад станка—2, на кіруючай партыйнай, профсаюзнай і гаспадарчай рабоце—12, інжынерна-тэхнічных работнікаў—7 чалавек.

Не гледзячы на рознастайнасць прафесіянальнага складу гуртка, палітычнае развіццё слухачоў амаль аднолькавае, але нельга сказаць, што ўсе ідэальна падабраны. З таварышы адстаюць. Я іх падцягваю і дапамагаю больш, чым усім астатнім.

Гурток працуе па плану і зараз канчае тэму «Партыя большэвікоў у гады ўздыму».

У сваім гуртку я паставіла асноўнай задачай навучыць таварышоў працаваць над першакрыніцамі і правільна запісаць прапрацаванае. Я вывучаю з імі асобныя артыкулы Леніна, падкрэсліваю галоўнае і дапамагаю скласці канспект. Сказаць аднак, што ўсе ў дастатковай меры ўмеюць ужо разбірацца ў першакрыніцах, нельга.

Галоўны ўпор у рабоце я раблю на тое, каб людзі ўмелі чытаць не толькі вучэбнікі, але і першакрыніцы, канспектаваць, схватваць асноўныя моманты і вузлавыя пытанні той або іншай тэмы.

Уступную лекцыю, на маю думку, трэба даваць дастаткова глыбокую і разгорнутую, і таму я многа рыхтуюся да яе. Самі заняткі праводжу так: спачатку чытаю ўступную лекцыю, затым указваю літаратуру, якую трэба прачытаць. У наступныя дзве гадзіны я прапрацоўваю разам з слухачамі больш трудныя матэрыялы. Такім чынам, дзве гадзіны я трачу на ўступную лекцыю, а дзве—на работу са слухачамі. Пасля гэтага яны прапрацоўваюць самастойна матэрыял дома. На наступных занятках я праводжу заключную канферэнцыю.

На заключнай канферэнцыі я сама гавару вельмі мала, стараюся, каб больш за ўсё гаварылі самі слухачы, прычым спачатку выклікаю слабых таварышоў, каб яны навучыліся выступаць і правільна фармуляваць свае думкі.

Некалькі слоў аб пасняховасці паасобных слухачоў. Добра ў маім гуртку працуюць Еўстраценка—дырэктар няпоўнай сярэдняй школы,

---

1) Скарочаная стэнаграма выступлення на нарадзе пры ЦК КП(б)Б.

Калешка—інжынер і Когальман. Не гледзячы на тое, што гэтыя таварышы нядрэнна падрыхтаваны, яны многа працуюць над сабой. Наведванне гуртка добрае. У сярэднім яго наведваюць 95% слухачоў.

Як я дапамагаю адстаючым? Тры разы ў месяц я выклікаю ў партгабінет адстаючых таварышоў і працую з імі над тэмамі, па якіх яны адсталі, прычым мне прыходзіцца працаваць не толькі з слухачамі майго гуртка, але і з усімі адстаючымі таварышамі, бо я з'яўляюся загадчыкам партгабінета.

Недахопам у рабоце гуртка з'яўляецца адсутнасць наглядных дапаможнікаў: карт, глобусаў і т. д., што мае месца не толькі ў маім гуртку, але і ў іншых гомельскіх школах.

Гарком партыі павінен звярнуць на гэта сур'ёзную ўвагу.

**Новікава**

Загадчык партгабінетам Віцебскай фабрыкі імя Кагановіча

# Канкрэтная дапамога партвучобе забяспечыла палітычны рост слухачоў [1])

Камплектаванню партыйнай сеткі мы ўдзялілі ў гэтым годзе асаблівую ўвагу. Была створана камісія, у якую ўвайшлі загадчык домам партактыва, культпроп райкома, сакратар партыйнага камітэта і я. Мы выклікалі кожнага комуніста, гутарылі з ім, высвятлялі, што ён скончыў, колькі гадоў вучыўся і т. д. Гэтыя гутаркі далі нам магчымасць вызначыць, каго ў які гурток залічыць, адпаведна ўзроўню яго ведаў.

Раней прапагандысты мяняліся ў нас вельмі часта. Былі гурткі, у якіх за адзін год мянялася 4—5 прапагандыстаў. Цяпер гэтага няма. У бягучым годзе партыйны камітэт вельмі ўважліва адбіраў прапагандыстаў, прычым кожнага ў паасобку зацвярджаў гарком партыі. Рад таварышоў быў адхілен ад прапагандысцкай работы з прычыны сваёй палітычнай непадрыхтаванасці.

У выніку якасць прапагандысцкай работы значна павысілася. Мы маем шмат таварышоў, вылучаных на прапагандысцкую работу нядаўна, якія добра спраўляюцца з гэтай работай. Вось некаторыя з іх.

Тав. Рубнік—галоўны механік нашай фабрыкі, кіруе гуртком па гісторыі партыі. У Віцебску ён лічыцца адным з лепшых прапагандыстаў.

Тав. Талкачоў кіруе гуртком па вывучэнню класікаў марксізма-ленінізма. У яго гуртку займаюцца інжынерна-тэхнічныя работнікі.

Як партгабінет фабрыкі дапамагае прапагандыстам у іх рабоце?

Вучэбнікаў і мастацкай літаратуры наш партгабінет мае каля 2 тысяч экземпляраў, у тым ліку тры экземпляры поўнага збору твораў Леніна. Я асабіста падбіраю літаратуру для прапагандыстаў па кожнай тэме.

Партгабінет часта арганізуе кансультацыі для слухачоў, для гэтага ў партгабінеце па чарзе спецыяльна дзяжураць прапагандысты. З кансультацыямі для саміх прапагандыстаў справа абстаіць горш, бо партгабінет не мае для гэтага адпаведных работнікаў. Большасць з прапагандыстаў звяртаецца за кансультацыяй у дом партактыва.

---

1) Скарочаная стэнаграма выступлення на нарадзе пры ЦК КП(б)Б.

Геаграфічнымі карткамі ўсе нашы гурткі забяспечаны. Ёсць шмат гатовых дыяграм, частка якіх складзена самімі прапагандыстамі.

Я асабіста, як загадчыца партгабінета, аддаю штодзённа дзве гадзіны для дапамогі адстаючым, паказваю, як складаць канспект, як падбіраць матэрыял з кнігі і т. п.

Усё гэта, безумоўна, сказалася на палітычным росце нашых камуністаў. Аднак, трэба адзначыць, што культпроп гаркома мала нам дапамагае. За 7 месяцаў не было ніводнай нарады загадчыкаў партгабінетаў ні ў культпропе, ні ў доме партактыва. А такія нарады далі-б вельмі многа ў сэнсе абмену вопыта і палепшання работы партгабінетаў.

---

**Шнеерава**

Загадчык партгабінета
друкарні імя Сталіна (Менск)

# Як партгабінет абслугоўвае прапагандыстаў і слухачоў [1])

У партгабінеце мы падбіраем літаратуру да кожнай тэмы. Пры падборы літаратуры прыходзіцца ўлічваць узровень ведаў слухачоў і дапамагаць кожнаму разабрацца ў матэрыяле.

Апрача асноўнай літаратуры мы падбіраем таксама і мастацкую літаратуру. Калі прапрацоўвалася ў нашым гуртку тэма «1905 год», мы скарысталі кнігу «Цусіма» Новікава-Прыбоя, «9 студзеня» і «Маць» Горкага. Гэта вельмі ажыўляе заняткі і прывучае слухачоў чытаць мастацкую літаратуру.

Нядаўна ў нас быў праведзены дыспут па кнігах «Як гартавалася сталь» Астроўскага, «Дрыгва» Коласа і «Паднятая цаліна» Шолахава. Дыспут вельмі зацікавіў слухачоў.

Для прапагандыстаў праводзяцца часам кансультацыі па мастацкай літаратуры, для чаго запрашаюцца таварышы з Дому пісьменніка.

З наглядных дапаможнікаў у нас ёсць палітычная карта свету, карты Еўропы, СССР, Афрыкі, Азіі, Абісініі, якімі карыстаюцца не толькі прапагандысты, але і ўсе агітатары ў цэхах. Для прапагандыстаў мы падбіраем таксама мясцовы матэрыял аб стаханаўскім руху, паказчыкі па выкананню плана і розныя дыяграмы. Усё гэта мы сабралі ў спецыяльны вытворчы альбом, якім перад заняткамі карыстаюцца прапагандысты і слухачы.

З слухачоў нашых гурткоў выраслі вельмі добрыя палітагітатары, якія праводзяць усю палітработу ў цэхах. Асабліва выдзяляюцца: т. Каган, намеснік начальніка наборнага цэху, Шэйнін, парторг машыннага цэху, Чыпчын, начальнік наборнага цэху, Гольдман, Егудкін і інш. Іх налічваецца да 15 чалавек. Выраслі і рабочыя—прапагандысты,—Струнскі, Фідлер і інш.

Гэта наглядна паказвае, што пры добрай пастаноўцы партыйнай вучобы і партыйнай прапаганды, пры сур'ёзнай штодзеннай дапамозе з боку партгабінета і ўсёй партыйнай арганізацыі можна падрыхтаваць свае кадры прапагандыстаў і палітагітатараў. А вырошчванне і выхоўванне новых партыйных кадраў—першы абавязак кожнай партыйнай арганізацыі.

---

[1]) Скарочаная стэнаграма выступлення на нарадзе пры ЦК КП(б)Б.

**Кацман**

Сакратар парткома
завода „Гомсельмаш"

# Аб рабоце гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі

Партыйная арганізацыя завода «Гомсельмаш» імя Кагановіча налічвае 83 члены партыі, 30 кандыдатаў і 36 спачуваючых.

У кастрычніку 1935 года на заводзе былі створаны 4 гурткі па вывучэнню гісторыі партыі. У гэтых гуртках займаюцца 32 члены партыі, 19 кандыдатаў, 10 спачуваючых і 1 комсамолец, з якіх 17 таварышоў у мінулым годзе вучыліся ў кандыдацкай школе і 17 у гуртках гісторыі партыі паніжанага тыпу.

Гурткі камплектаваліся на падставе грунтоўнага вывучэння паспяховасці, якую комуніст аказаў у партыйнай сетцы, яго агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі, умення самастойна працаваць над матэрыялам. Гурткі ў асноўным аднародныя і колькасна невялікія: 13—17 слухачоў.

У гуртку павышанага тыпу, дзе вывучаюцца паасобныя творы Леніна—Сталіна і партыйныя рашэнні,—12 членаў партыі, 3 кандыдаты, 1 спачуваючы і 1 комсамолец. Кіруе гуртком тав. Суражская—загадчык партгабінета. Слухачы навучыліся самастойна працаваць над матарыяламі. Зараз гурток прапрацоўвае тэму: «Партыя большэвікоў у гады імперыялістычнай вайны».

У другім гуртку налічваецца 6 членаў партыі, 5 кандыдатаў і 2 спачуваючых. Працуе гурток галоўным чынам па падручніку Яраслаўскага. Зараз гурток працуе над тэмай: «Партыя большэвікоў у перыяд заваявання дыктатуры пролетарыята». Па гэтай тэме слухачы прапрацавалі ўжо артыкулы Леніна: «Пісьмы здалёку», «Аб задачах пролетарыята ў данай рэволюцыі», «Аб двоеўладдзі», «Да лозунгаў «марксізм і паўстанне». Выкарыстан таксама і першы том «Гісторыі грамадзянскай вайны».

Трэці гурток складаецца пераважна з таварышоў, якія ў мінулым годзе займаліся ў кандыдацкай школе. У гуртку 7 членаў партыі, 5 кандыдатаў і 5 спачуваючых. Да апошняга часу кіраваў гуртком тав. Сінельнікаў—інжынер дрэваапрацоўчага цэха, перакінуты на другі завод. Цяпер будзе кіраваць тав. Кацман—сакратар парткома. Слухачы працуюць выключна па падручніку Кнорына і вывучаюць толькі паасобныя невялікія артыкулы Леніна—Сталіна.

Чацверты гурток (пазменны) налічвае 7 членаў партыі, 6 кандыдатаў, 2 спачуваючых. Кіруе гуртком тав. Курас—парторг ліцейнага

цэха. У мінулым годзе тав. Курас упершыню быў вылучаны на прапагандысцкую работу. Першы год працаваў у кандыдацкай школе, потым скончыў двухмесячныя курсы прапагандыстаў. Тав. Курас палюбіў прапагандысцкую работу, добрасумленна рыхтуецца да заняткаў, таму партком вылучыў яго прапагандыстам гуртка па гісторыі партыі. У рабоце тав. Кураса яшчэ не мала недахопаў метадычнага характару. Партыйны габінет аказвае яму вялікую дапамогу. Тав. Курас безумоўна расце, як прапагандыст.

Побач з праграмным матэрыялам прапагандысты праводзяць гутаркі па пытаннях палітыкі партыі, міжнароднага становішча, растлумачваюць слухачам няясныя і цікавячыя іх пытанні.

У гэтым годзе партком узяў курс на вырошчванне прапагандыстаў са складу заводскай партарганізацыі. Такім чынам усе нашы прапагандысты звязаны са слухачамі не толькі ў часе вучобы, але і ў час работы, што дае магчымасць лепш ведаць удзел слухачоў у партыйным жыцці і ўплываць на іх палітычны і культурны рост.

Усе гурткі працуюць па плану, зацверджанаму парткомам. Гурток тав. Хрaмёнка павінен закончыць праграму 1 лістапада, гурток тав. Суражскай—25 снежня.

Метад заняткаў: уводная лекцыя, прапрацоўка тэмы шляхам разгорнутай гутаркі і заключная канферэнцыя, да якой слухачы рыхтуюць даклады па асобных раздзелах тэмы. Добра склалі канспекты тт. Кобыш к дакладу пра абстаноўку напярэдадні Лютаўскай рэвалюцыі, Пушнегін—аб характары і асаблівасцях Лютаўскай рэвалюцыі, Шагал—аб красавіковых тэзісах Леніна. У абмеркаванні дакладаў прынялі актыўны ўдзел усе слухачы, якія загадзя прывучаюцца да абдуманых выступленняў.

Побач з паспяваючымі ў вучобе ў нас ёсць яшчэ не мала такіх таварышоў, якія па некалькі год толькі фармальна наведваюць партыйныя гурткі і школы. Так, пры партыйнай праверцы выявілася палітычная няграматнасць тт. Малеева, Берковіча, Іоффэ, Цыпіса, Яромы і інш.

У мінулым годзе партыйны камітэт усю сваю ўвагу сканцэнтраваў на наведванні і мала сачыў за якасцю вучобы. Галоўны вывад, які партком зрабіў з праверкі партыйных дакументаў,—гэта неабходнасць сачыць з дня ў дзень за тым, як комуністы рыхтуюцца да заняткаў, як чытаюць газеты і мастацкую літаратуру, як арыентуюцца ў пытаннях бягучай палітыкі.

Цяпер значна палепшылася паспяховасць комуністаў, павысіўся іх палітычны і культурны ўзровень. Таварышы Берковіч, Малееў, Цыпіс самі гавораць, што толькі ў гэтым годзе яны па-сапраўднаму ўзяліся за вучобу, узброіліся ведамі гісторыі большэвіцкай партыі.

Пашырэнне палітычнага і культурнага светапогляду комуністаў спрыяла росту іх аўтарытэту, іх вядучай ролі на вытворчасці і ў партыйным жыцці (Гаранскі, Піліпёнак, Кобыш, Гук, Якушэнка—ініцыятары стаханаўскага руху на заводзе).

Са складу слухачоў гуртка павышанага тыпу вылучаны прапагандыстамі комсамольскіх школ тт. Кастроў, Ланкін і Мейлехаў. Лепшымі палітбяседчыкамі на заводзе з'яўляюцца слухачы гурткоў па гісторыі партыі: Дэйч, Зарэцкі, Піліпёнак, Гук, Пушнегін і інш. У бліжэйшы час будзе вылучан палітбяседчыкамі яшчэ цэлы рад слухачоў: Шагал, Ладыгін, Хатулёў, Шчэмелеў і Гурэвіч.

Ёсць у нас яшчэ некалькі адстаючых у вучобе таварышоў (Палонскі С., Шахаў, Сямёнаў, Канавалаў і інш.), якія па матывах «перагружанасці» іншы раз прыходзяць на заняткі непадрыхтаванымі. Партгабінет дапамагае ім нагнаць упушчанае.

Партыйны камітэт паставіў цяпер за правіла на другі дзень пасля вучобы падводзіць яе вынікі не толькі з пункту погляду наведвання, а галоўным чынам—якасці падрыхтоўкі кожнага слухача да заняткаў. Калі на частку слухачоў можна ўздзейнічаць заўвагай, то некаторых прыходзіцца выклікаць у партком і нават ставіць пытанне на абгаварэнне сходу партыйнай арганізацыі.

Вялікім недахопам з'яўляецца тое, што парторгі цэхаў мала цікавяцца паспяховасцю вучобы камуністаў, рэдка ставяць іх самаспраздачы аб рабоце над сабой. Прапагандысты гурткоў дапускаюць яшчэ схематызм у вучобе, завучванне фармулёвак без дэталёвага высвятлення, якімі метадамі на паасобных этапах партыя вяла барацьбу з ворагамі, у якой абстаноўцы яна дзейнічала. Курс гісторыі ВКП(б) недастаткова ўвязваецца з гісторыяй КП(б)Б. Гэта часткова тлумачыцца адсутнасцю сістэматызаванага матэрыялу па гісторыі КП(б)Б. а таксама аб рабоце Палескага камітэта. Наогул з прапрацоўкай мясцовага матэрыялу нашы магчымасці вельмі абмежаваны.

Значна палегчылася наша работа з выпускам трохтомніка па гісторыі партыі Леніна—Сталіна, а таксама новага выдання «ВКП(б) у рэзалюцыях» і «Гісторыі грамадзянскай вайны».

З наглядных дапаможнікаў мы поўнасцю выкарысталі ўсё, што мелі ў сваім распараджэнні. Па тэме «Гісторыя партыі ў пасляоктябрскі перыяд» дапаможнікаў амаль не было. Нельга не адзначыць, што наглядныя дапаможнікі па тэме «Партыя ў рэвалюцыю 1905 года», выпушчаныя Музеем рэвалюцыі ў Менску, зроблены неахайна.

У гэтым годзе на занятках шырока выкарыстоўвалася мастацкая літаратура. Пры праходжанні тэмы «Рэвалюцыя 1905 г.» запатрабаванні слухачоў на «Цусіму» Новікава-Прыбоя і «Маці» Горкага былі настолькі вялікімі, што наша бібліятэка не магла іх цалкам задаволіць. Па тэме «Партыя ў гады імперыялістычнай вайны» была выкарыстана кніга Анры Барбюса «У агні», многія слухачы яе прачыталі.

* * *

Добра адрамантаваны партыйны габінет набыў у гэтым годзе культурны, утульны выгляд. Ён аказвае сур'ёзную дапамогу прапагандыстам як партыйнай, так і комсамольскай сеткі, у метадычнай прапрацоўцы тэмы, складанні планаў і канспектаў. Не было выпадку, каб прапагандыст пашоў на заняткі, не прапрацаваўшы тэмы ў партгабінеце. Партгабінет дапамагае таксама бяседчыкам у авалодванні майстэрствам агітацыі. Многія бяседчыкі, рыхтуючыся да гутаркі па плану, здолелі зацікавіць рабочых, выклікаць у іх рад пытанняў і даваць правільныя адказы. На высокім палітычным узроўні бяседчыкі правялі абмеркаванне праекта новай сталінскай Канстытуцыі СССР. Лепшымі бяседчыкамі з'яўляюцца тт: Гольдзін, Піліпёнак, Гаваруноў, Дэйч, Ланкін, Рыхцікаў і інш.

Многа ўвагі ўдзяляе партгабінет і рабоце са слухачамі. Сюды прыходзяць слухачы са сваімі рабочымі запісамі, няяснымі пытаннямі і заўсёды атрымліваюць кансультацыю, неабходную літаратуру і дапамогу.

Партыйны камітэт сістэматычна займаецца пытаннямі якасці ра-

боты паасобных гурткоў, заслухоўвае справаздачы прапагандыстаў. Партыйныя школы ўзмоцнена рыхтуюцца да гарадской тэарэтычнай канферэнцыі па тэме «Ад Лютага да Окцябра».

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 26 мая 1936 года нас абавязвае:

> «... Арганізаваць прапаганду гісторыі так, каб комуністы знаёміліся з гістарычнай абстаноўкай, у якой працавала партыя, з дзейнасцю віднейшых яе кіраўнікоў і арганізатараў, з фактамі і падзеямі з жыцця і барацьбы партыі ў іх храналагічнай паслядоўнасці, без чаго нельга зразумець і засвоіць палітыку партыі, развіццё і змену тактычных і арганізацыйных прыёмаў, змену лозунгаў, форм і метадаў работы партыі на розных этапах яе гісторыі».

Уся ўвага партарганізацыі накіравана на ажыццяўленне гэтай пастановы. Узмоцнена праверка якасці заняткаў, прапагандысты больш працуюць над фактычным матарыялам, вывучаюць гісторыю народаў СССР і абстаноўку, у якой партыя працавала на розных этапах свайго развіцця, намечан рад лекцый для паўтарэння пройдзеных тэм, арганізавана дапамога адстаючым.

---

**З. Кофман**

Сакратар парткома
Добрушскай папяровай фабрыкі

# Партыйная работа ў паккамерным цэху фабрыкі

У паккамерным цэху папяровай фабрыкі «Герой працы» сярод 658 рабочых—511 жанчын. Большасць іх мае стаж работы на фабрыцы—дзесяць, дваццаць, трыццаць год. Некаторыя сем'і працуюць на фабрыцы ўжо некалькі пакаленняў і добра памятаюць усю «асалоду» работы пры старых уласніках фабрыкі на працягу пяці дзесяткаў год.

Толькі за гады рэвалюцыі значная частка работніц, а таксама кіруючага персаналу навучыліся грамаце. Рабочыя настойліва імкнуцца навярстаць упушчанае, як мага больш ведаць, яшчэ культурней жыць.

У партыйнай арганізацыі цэха шэсць членаў і пяць кандыдатаў партыі. Гэта жменька комуністаў упэўнена вядзе за сабою ўвесь калектыў работніц. Комуністы з поспехам працуюць на вядучых участках вытворчасці, з'яўляючыся пераважна вылучэнцамі перыяду праверкі і абмену партдакументаў.

Партыйны арганізатар цэха—Елена Алексееўна **Крывашэева**—пару месяцаў таму назад прызначана намеснікам начальніка паккамернага цэха і добра спраўляецца з новай работай

Ольга Пракопаўна **Каранцова** працавала ў паккамерным цэху больш трох дзесяткаў год і з'яўляецца цяпер намеснікам старшыні фабрычнага камітэта профсаюза папернікаў. **Цімошкіна** Екацерына Фёдараўна—член ЦК КП(б)Б—вылучана ў майстры змены. **Трэцякова** Елізавета Кандрацьеўна вылучана старшынёю жакта. Комуністкі **Васількова** Харыціна, **Талкачова** Ефрасіньня, **Цыганкова** Марыя, **Грышачкіна** Екацерына, **Дзергачова** Соф'я—людзі, якіх гадавала і выхавала наша партыя—кіруюць цяпер атрадам стаханаўцаў цэха ў дзвесце сорак чалавек.

* * *

Спынімся на трох асноўных участках работы партарганізацыі: партыйныя сходы, палітычная агітацыя і работа са спачуваючымі.

Партыйныя сходы праводзяцца асобна для дзеннай і вячэрняй змены. Абвестка дня ахапляе ўсе ўчасткі вытворчасці і партыйнага жыцця.

23 чэрвеня на сходзе партыйнай арганізацыі паккамернага цэха парторг тав. Крывашэева зрабіла справаздачу аб тым, як выконваецца рашэнне бюро райкома аб выніках абмену партдакументаў на фабрыцы. За пяць дзён да сходу яна сабрала ўсіх комуністаў і даручыла ім падрыхтаваць наступныя пытанні: аб авангарднай ролі

комуністаў у стаханаўскім руху, работа з беспартыйным актывам, работа са спачуваючымі, партыйнае кіраўніцтва і дапамога комсамольскай арганізацыі цэха, работа насценгазеты, работа з рабкомамі, палітвучоба і партдысцыпліна.

Комуністы ўзаемна падрабязна азнаёміліся з удзелам кожнага ў партыйным жыцці і роллю на вытворчасці.

У выніку выступленні на сходзе былі насычаны багатым фактычным матар'ялам, завострана ўвага аб неабходнасці больш чулых адносін да спачуваючых, каб кожны з іх адчуваў таварыскую дапамогу і клопаты як у рабоце і вучобе, так і ў бытавых пытаннях. Сход заслухаў таксама інфармацыю парторга аб тым, як выконваецца пастанова папярэдняга сходу па пытанню рашэнняў пленума Камісіі совецкага кантроля аб скаргах рабочых.

* * *

Спачуваючых у паккамерным цэху 11 чалавек. Акрамя таго, 19 беспартыйных таварышоў уцягнуты ў гурток па вывучэнню статута партыі, жыцця і дзейнасці Леніна—Сталіна і агульнай палітграматы. З гэтай групы таварышоў чатыры чалавекі падала заявы аб уступленні ў групу спачуваючых. Гэтыя лічбы, бясспрэчна, не могуць нас задаволіць.

Парторг і актыў цэхавай партарганізацыі вядуць крапатлівую работу па вырошчванню актыва і набліжэнню яго да партыйнага жыцця.

Стаханаўка **Леўкова** Соня з'яўляецца лепшай сартоўшчыцай у цэху. Яна з вялікім інтарэсам наведвае адкрытыя партыйныя сходы, займаецца ў гуртку палітграматы і рыхтуецца да ўступлення ў групу спачуваючых.

Стаханаўка Тацяна **Чуясава** заўсёды выступае на цэхавых сходах як сапраўды перадавая работніца. У сваіх выступленнях, пры абмеркаванні праекта закона аб абортах, праекта новай Сталінскай Канстытуцыі, з поваду смерці Алексея Максімавіча Горкага яна з выключнай паўнатою здолела выразіць думкі і пачуцці рабочых. Чуясава таксама падала заяву аб уступленні ў спачуваючыя.

Работа з актывам у значнай ступені тармозіцца тым, што ўзровень агульнага і палітычнага развіцця комуністаў вельмі нізкі. Даволі сказаць, што з 11 комуністаў цэха восем наведваюць школу малаграматных.

Спачуваючыя ахоплены гурткамі палітвучобы, з імі праводзяцца індывідуальныя гутаркі, даюцца партыйныя даручэнні. Сярод спачуваючых ёсць таварышы, якія вельмі актыўна выконваюць работу чытчыкаў-бяседчыкаў, як Баннікава Елена, Драбадзёнава Марфа. Аднак нярэдкі яшчэ выпадкі, калі спачуваючыя, пераведзеныя па чыстцы партыі, не разумеюць, што ім неабходна ўпарта працаваць над павышэннем узроўню сваіх ведаў (Жэлдакова, Саладкова, Шараева).

Са спачуваючымі рэгулярна праводзяцца спецыяльныя сходы, гутаркі, ставяцца самасправаздачы аб рабоце, вучобе, выкананні даручэнняў і т. д. Кожная самасправаздача падрыхтоўваецца загадзя пры дапамозе парторга, які таксама сочыць і за яе рэзультатамі. Нядаўна была заслухана самасправаздача спачуваючай Ільчышынай аб тым, чаму яна не з'яўляецца стаханаўкай. Гэта справаздача мела для Ільчышынай рашаючае значэнне. Цяпер Ільчышына пачынае наблі-

жацца да паказчыкаў прадукцыйнасці працы стаханаўцаў свайго цэха.

Са спачуваючымі і беспартыйным актывам праведзена гутарка аб выніках праверкі партдакументаў, аб статуце і праграме партыі. Спачуваючыя прымаюць удзел у адчыненых партыйных сходах.

* * *

Патрэбнасць у кадрах агітатараў для паккамернага цэха вельмі вялікая. Цэх шматлікі не толькі па колькасці работніц. Ён мае восем аддзяленняў, з якіх некаторыя працуюць у дзве і тры змены пры непарыўцы. Сярод дзесяці агітатараў і чытчыкаў-бяседчыкаў цэха толькі чацвёра параўнаўча нядрэнна могуць спраўляцца са сваёй работай. Над астатнімі трэба яшчэ многа папрацаваць, каб вырасціць з іх добрых агітатараў. Усе яны прыцягваюцца да заняткаў агіткалектыва, прашлі кароткатэрміновыя курсы.

Някепска працуе агітатарам тав. Вольская. У сваіх гутарках яна ахапляе рознастайныя тэмы: пытанне аб вайне Італіі з Абісініяй, аб X з'ездзе комсамола, аб Першым мая, аб нарадзе жонак гаспадарнікаў і ІТР. Яна ўмела ўвязвае тэму з пытаннямі разгортвання стаханаўскага руху і культуры ў цэху, шырока карыстаецца ўрыўкамі з мастацкай літаратуры. К Першаму мая прачытала ўрывак з кнігі Горкага «Маці», з кнігі Барбюса «Сталін—гэта Ленін сёння». Выключны інтарэс выклікалі чатыры чыткі кнігі Нікалая Остроўскага «Як гарталася сталь». Вольская здолела так паставіць гэтыя чыткі, што слухачы ілюстравалі правільнасць кнігі фактамі з свайго жыцця.

25-годдзе большэвіцкай дзейнасці Дзем'яна Беднага таксама не прайшло міма тав. Вольскай. Акрамя гутаркі аб юбілеі, яна прачытала работніцам «Павукі і мухі» Беднага. Чытка мела вялікі поспех.

Шматлікая брыгада Вольскай з вялікім уздымам абмяркоўвала праект закона «Аб забароне абортаў». Работніцы вынеслі пажаданне запрасіць раённага пракурора для гутаркі, тым больш, што пры абмеркаванні праекта выявіўся рад канкрэтных пытанняў, вырашэнне якіх залежыць ад садзейнасці органаў улады. Праз дзень пракурор правёў такую гутарку.

Асабліва шырока і з вялікім энтузіязмам брыгада Вольскай абмяркоўвала праект новай сталінскай Канстытуцыі.

Прыклады работы тав. Вольскай пераймаюць агітатары тт. Талкачова і Васіленка.

У рабоце партарганізацыі паккамернага цэха яшчэ шмат недахопаў. Парторг тав. Крывашэева ўсю сваю ўвагу накіроўвае на тое, каб гэтыя недахопы выкараніць. На кожны дзень яна складае план дзеяння і выкананне сваіх даручэнняў правярае з вялікай пільнасцю. Хоць паасобныя комуністы часам і бываюць нездаволены настойлівасцю парторга, аднак на сходах і ў прыватнай гутарцы падкрэсліваюць, што патрабавальнасць—каштоўная якасць Крывашэевай, неабходная кожнаму комуністу.

Цэх з'яўляецца паказчыкам агульнага росту дабрабыту і культуры. З вялікім самадзейным хорам работніцы выступаюць на сходах і дэманстрацыях. Задача комуністаў—дабіцца далейшага ўздыму і палепшання ўсёй арганізацыйна-партыйнай і палітычна-выхаваўчай работы як сярод комуністаў, спачуваючых, так і сярод усёй масы рабочых паккамернага цэху і ўсяго прадпрыемства.

**М. Бальшакоў**

Інструктар добрушскага РК КП(б)Б

# Падрыхтоўка і правядзенне партыйнага сходу

У большэвіцкім ідэйна-палітычным выхаванні комуністаў многа дапамагла нам сур'ёзная падрыхтоўка і арганізаванае правядзенне партдня.

Для характарыстыкі зрухаў, што адбыліся ў пярвічных партарганізацыях Добрушскага раёна, прывядзем некаторыя факты з практыкі работы міжкалгаснай партгрупы Пераростаўскага сельсовета.

У гэтай партгрупе 3 члены, 4 кандыдаты партыі і 6 спачуваючых, уступіўшых у 1936 г. Да праверкі партдакументаў партгрупа лічылася адной з адстаючых. Тт. Аксенчыкаў, Падрэзнікава і Бамонаў пасіўна адносіліся да вучобы, не заўсёды наведвалі заняткі ў партшколе, дрэнна плацілі членскія ўзносы. Партыйныя заданні даваліся выпадкова і ніколі не выконваліся. Да партсходаў не рыхтаваліся, і яны праходзілі нецікава. Пры абмене партыйных дакументаў сакратар райкома т. Бангайціс указаў на гэтыя недахопы работы парторгу групы тав. Мазычаву.

Вынікі хутка сказаліся. Тав. Мазычаў пачаў кіраваць комуністамі па-большэвіцку, узяўшы ў аснову статут ВКП(б). Інтарэс да партыйных пытанняў і актыўнасць членаў партгрупы адразу павысіліся. Калі раней на партсходах у спрэчках выступалі 1—2 комуністы, прычым вельмі часта баяліся папсаваць крытыкай свае ўзаемаадносіны, то зараз літаральна ўсе члены партыі сталі выступаць на сходах з практычнымі прапановамі і выкрываўчым матэрыялам.

За апошні час удалося выявіць, што Падрэзенкава не выконвае партыйныя заданні, абараняе свайго мужа—у мінулым актыўнага эсэра, які зрывае работу калгаса. Падрэзенкава з партыі выключана. Выяўлен таксама цэлы рад фактаў парушэння калгаснай дэмакратыі, калі без ведама агульнага сходу выключаліся калгасніцы толькі за тое, што іх муж'я без ведама праўлення пашлі на адыходную работу.

Правільная падрыхтоўка і правядзенне партдня ў міжкалгаснай партгрупе далі вялікі зрух у рабоце. Партгрупа ахапляе 3 калгасы. Вузкім месцам яе работы было социялістычнае спаборніцтва. Паўстала пытанне аб тым, што трэба падвесці вынікі соцспаборніцтва брыгад, заключанага ў працэсе ўключэння БССР у спаборніцтва з Кіеўскай і Чарнігаўскай абласцямі.

Парторг тав. Мазычаў 20 мая паведаміў усіх комуністаў аб тым, што праз 8 дзён адбудзецца партсход. У той-жа дзень ён правёў

нараду брыгадзіраў і звеннявых у калгасе «Чырвоны хутар», дзе выявіў ударнікаў веснавой сяўбы. 22 мая была праведзена нарада комуністаў сумесна з комсамольцамі, спачуваючымі і настаўнікамі, на якой стаяла адно пытанне—падрыхтоўка да партдня. Удзельнікі нарады ўзялі на сябе пэўныя абавязацельствы. Так, член партыі тав. Сідарэнка абавязаўся папулярызаваць у жаночых брыгадах калгаса «Трэці рашаючы» ўзоры работы ўдарнікаў і прачытаць папулярны нарыс Ф. Малога «Марыя Дземчэнко», апублікаваны ў журнале «Калгаснік». Комуніст Арцюхоў—старшыня сельсовета—узяў на сябе ініцыятыву правесці нараду брыгадзіраў і актыва ў калгасе «Чырвоны молат». Комсамольцы абавязваліся яшчэ раз прапрацаваць дагавор, заключаны паміж Добрушскім і Церахоўскім раёнамі, з дапамогай настаўнікаў ажыццявіць наглядную агітацыю ў хаце-чытальні, шырока папулярызуючы ўжо выяўленых ударнікаў, і прачытаць апублікаванае ў журнале «Калгаснік» апавяданне Калеснікава «Возвращение».

Тав. Мазычаў падхапіў гэту цікавую ініцыятыву. На нарадзе быў складзен план работы. Комуністы патрабавалі ад таварыша Мазычава, каб ён рэгулярна правяраў ход выканання ўзятых абавязацельстваў. Урэшце план быў выканан поўнасцю з некаторымі жыццёвымі папраўкамі.

На працягу 6 дзён падрыхтоўкі да партдня брыгадзіры і радавыя калгаснікі заключылі звыш 120 соцдагавароў. Ход праверкі дагавароў асвятляўся ў калгасным друку, у лозунгах, на мітынгах. Павысілася актыўнасць усіх калгаснікаў на вытворчасці, умацавалася працоўная дысцыпліна, выявіліся стаханаўцы сельскай гаспадаркі. Так, у калгасе «Чырвоны молат» Старажэнка, Раман Ягоравіч, узорваў 0,9 **га** замест нормы 0,5 **га**, засяваў 2,5 **га** замест 1,5 **га**. Краснікавая Прося Васілёва, якая раней выходзіла на работу а 7—8 гадзіне, пачала працаваць з 5 гадзіны раніцы і выдатна выконвала ўсе даручэнні брыгадзіра. У калгасе «Чырвоны хутар» Давідулін Фёдар Пахомавіч узорваў 0,95 **га** замест нормы 0,65 **га**, засяваў 4,5 **га** замест 3 **га**, за што два разы атрымаў прэмію. У калгасе «Трэці рашаючы» Рудзенкоў Іван Захаравіч, Разуменка Сідар Захаравіч узорвалі 1,05 **га** замест 0,6 **га**, баранавалі і засявалі 4 **га** замест 2 **га**. На лесавывазках яны выканалі заданне на 200 проц.

Уцягненне ў падрыхтоўку да партдня не толькі комуністаў, комсамольцаў і спачуваючых, але і беспартыйнага актыва спрыяла таму, што адчыненыя партсходы праходзяць жыва, цікава, насычаны канкрэтным жыццёвым матэрыялам. Такія сходы дапамагаюць больэвіцкаму выхаванню і загартоўцы людзей у соцыялістычнай працы.

Партыйны дзень прайшоў з вялікай актыўнасцю прысутных, была абмеркавана работа паасобных таварышоў і вынесены практычныя прапановы. Так да кандыдата партыі тав. Святло, які слаба разбіраўся ў стаханаўскім руху, прымацавалі парторга для прапрацоўкі адпаведных матэрыялаў стаханаўскага руху. Для канкрэтнай дапамогі ў разгортванні масавай работы ў перыяд праполачнай кампаніі да ўсіх калгасаў былі прымацаваны комуністы і комсамольцы.

Цяпер амаль на кожным сходзе заслухоўваюцца самасправаздачы комуністаў і спачуваючых аб масавай рабоце з аднаасобнікамі, аб выкананні рашэнняў райкома і паасобных даручэнняў, аб паспяховасці ў партвучобе, аб выхаванні дзяцей і інш.

У заключэнне трэба сказаць, што пры значным паляпшэнні работы ў галіне падрыхтоўкі да партсходаў унутрывыхаваўчая і палітыка-масавая работа ў партгрупе пастаўлена яшчэ не здавальняюча. Ёсць яшчэ выпадкі парушэння партыйнай дысцыпліны (п'янства кандыдата партыі Аксенчыкава), спазненні на партзаняткі (тав. Сметко), мала зроблена для ўцягнення ў групу спачуваючых лепшых стаханаўцаў. Партгрупа і яе парторг абавязаны і на гэтых участках дабіцца такога-ж пералому к лепшаму, як і ў правядзенні партыйных дзён.

**В. Левіт**

Інструктар Добрушскага РК КП(б)Б

# Больш увагі рабоце са спачуваючымі

Партыя надае выключна вялікую ўвагу рабоце са спачуваючымі, бо групы спачуваючых павінны з'яўляцца той базай, з якой партыя будзе папаўняць свае рады. Зусім ясна, што партыйныя арганізацыі павінны ўдзяляць максімум увагі рабоце са спачуваючымі і ўцягненню ў групы спачуваючых лепшых, адданых партыі людзей.

Аднак, не ўсе пярвічныя партарганізацыі гэта сабе ўяснілі. Калі ўзяць паасобныя партыйныя арганізацыі Добрушскага раёна, то можна сказаць, што гэта адказная работа пушчана на самацёк. Возьмем, напрыклад, партарганізацыю фабрыкі «Герой труда», якая павінна паказаць узор у рабоце са спачуваючымі для ўсяго раёна, але-ж партарганізацыя фабрыкі і парторгі цэхаў не зразумелі гэтага пытання. На фабрыцы працуе больш 3000 рабочых, сярод іх 300 стаханаўцаў. Між тым у групе спачуваючых налічваецца ўсяго толькі 54 чалавека. Сказаць, што тут няма базы для роста нельга. На фабрыцы ёсць дзесяткі рабочых стаханаўцаў (Ляўкоў Л., Пятроў Е., Кавалеў Д. і іншыя), якія жадаюць уступіць у групу спачуваючых, але з імі ніякай работы не праводзіцца.

Вось, што расказвае нам стары рабочы Зюськоў Ігнат з папяровага цэху, дзе парторгам з'яўляецца Сцепановіч: «Парторг ніколі са мной не гаварыў, не пытаў як я жыву, працую. Ніколі мне ніякіх даручэнняў не давалі. На адчыненыя партсходы я хаджу вельмі рэдка і толькі таму, што аб дні і часе сходаў мне не гавораць». Аб такіх адносінах да спачуваючых расказвае не толькі Зюськоў, але і Агеява М., Васіленка М., і інш.

Больш таго, трэба прама сказаць, што масава-выхаваўчая работа з тымі таварышамі, якія ўжо аб'яднаны ў групы спачуваючых, пастаўлена слаба. Не ўсе спачуваючыя ахоплены партыйнай школай, шмат з іх не чытаюць газет. Большасць з спачуваючых не маюць даручэнняў, а тыя, якія маюць, не заўсёды іх выконваюць. Праверка выканання парторгамі не наладжана. Такое-ж становішча маецца ў саломенна-цэлулоідным заводзе. Спачуваючых у саломенна-цэлулоідным заводзе маецца толькі 2 чалавекі, але з імі таксама не праводзіцца ніякай работы. Між тым на заводзе ёсць ініцыятары стаханаўскага руху, як Гутараў І., Цімошкін Д. і іншыя, якія жадаюць уступіць у групу спачуваючых, але з імі не праводзіцца амаль ніякай работы.

Практыка паказала, што пры штодзённай рабоце са спачуваючымі, пры аказанні ім дапамогі, спачуваючыя праводзяць вялікую масавую работу. Для прыклада можна ўзяць спачуваючых паккамернага цэха на тым-жа заводзе Дробадзенава А. і Баннікава. Гэтыя таварышы пры штодзённай дапамозе парторга Крывашэевай сталі прыкладнымі агітатарамі ў цэху. Няма ні адной важнай пастановы партыі і ўраду, або газетнага артыкула, якога яны не прапрацавалі-б з рабочымі. Хто яны такія? Добрадзенава—старая работніца паккамернага цэха. Баннікава—таксама работніца паккамернага цэха.

Праўда, за апошні час партком фабрыкі, сакратар Кофман пачаў канкрэтна разгортваць масавую работу са спачуваючымі, арганізаваў спецыяльныя дзве школы, вызначыў спецыяльны дзень для спачуваючых і намеціў канкрэтныя мерапрыемствы па ўцягненню рабочых стаханаўцаў у групу спачуваючых, але гэта толькі першыя крокі. Сакратар парткома і ўся партарганізацыя абавязана забяспечыць неадкладнае выпраўленне дапушчаных памылак у рабоце са спачуваючымі. Не перакладаючы адказнасць за работу са спачуваючымі на другарадных асоб,—сам сакратар парткома абавязан кіраваць гэтым адказнейшым участкам работы і штодзённа правяраць работу парторгаў. Работа са спачуваючымі павінна быць пастаўлена так, каб выхаваць у іх навыкі большэвіцкай арганізаванасці і дысцыпліны.

**А. Каралевіч**

Сакратар парткома
Бабруйскага лесакамбіната

# З вопыту пастаноўкі палітагітацыі

Арганізацыі палітычнай агітацыі як раённы камітэт партыі, так і партком нашага лесакамбіната ўдзялялі вялікую ўвагу.

Палітычная агітацыя ў цэхах не раз дапамагала нам найбольш дзейсна і поўна вырашаць задачы вытворчага парадку. Можна смела сказаць, што толькі шырокая палітыка-выхаваўчая работа агітатараў прывіла нашым рабочым, такім як Гораў, Забродскі, Мароз, Мельцэр, Ушнер, Недасекіна, Ольшанская і інш., інтарэс да газеты і кнігі.

Безумоўна, палітагітацыя можа быць добра наладжана толькі пры ўмове належнага падбору палітагітатараў.

У цэхах, зменах, брыгадах і інтэрнатах нашага камбіната працуе 45 палітагітатараў. Частка іх праводзіць заняткі на падставе рэкамендаванага парткомам газетнага матар'ялу, частка ў форме гутарак або чыткі літаратуры. Усе гэтыя формы палітагітацыі цалкам сябе апраўдалі.

Усе палітагітатары ахоплены сеткай партасветы. Большасць з іх навучаецца ў комвузе, астатнія—у соўпартшколе, комсамольскіх школах і агульнаадукацыйных гуртках.

Семінар палітагітатараў збіраецца не менш трох раз у месяц. Асноўная задача семінара—навучыць палітагітатараў карыстацца геаграфічнаю картай, выразна чытаць, працаваць над кнігай, артыкулам, умець перадаваць прачытанае ў яснай і вобразнай форме. На семінары разбіраюцца лепшыя творы сучаснай мастацкай літаратуры. Прапрацоўваюцца таксама і пытанні вытворчага парадку. Так, напрыклад, дырэктар камбіната тав. Заброцкі зрабіў даклад аб новых нормах выпрацоўкі і тэхнічна мытчымых нормах.

Вялікую дапамогу палітагітатарам аказвае наш партгабінет сваімі кансультацыямі па любому пытанню, якое цікавіць агітатара.

За апошні час мы з поспехам практыкуем абмен вопытам работы. Група палітагітатараў, наведаўшы заняткі свайго таварыша ў цэху, наладжвае потым калектыўны разбор іх. Так, напрыклад, была разабрана палітінфармацыя тав. Аўдзеенка, якую ён рабіў у беладрэўным цэху па перадавіцы «Правды»—«Жыць і працаваць культурна». Пры абмене думкамі выявілася, што тав. Аўдзеенка дапусціў цэлы рад недахопаў—недастаткова наблізіў тэму да канкрэтнай абстаноўкі, не здолеў увязаць яе з фактамі работы і быту сваёй брыгады. Разбіраючы інфармацыю тав. Славачынскага аб дні друку, праведзеную ім

у лесацэху № 1, палітагітатары адзначылі, што ён не ўвязаў тэмы з работай нізавога друку ў цэху, не паказаў работы рэдактароў і рабкораў насценных газет сваёй змены, не расказаў аб тым, як праходзіць у цэху падпіска на газеты і т. д.

Палітінфармацыі ў далейшым праводзіліся ўжо з улікам выяўленых недахопаў на больш высокім узроўні. Абмен вопытам работы, як адзначылі самі палітагітатары, прынёс для іх вялікую карысць.

Таксама каштоўным пачынаннем з'яўляюцца сістэматычныя справаздачы парторгаў аб стане палітмасавай работы ў цэхах, бо даюць магчымасць выпраўляць на месцы заўважаныя недахопы.

Разнастайнае кола пытанняў, з якімі прыходзіцца мець справу палітагітатару, пачынаючы ад пытанняў жыцця свайго цэха і канчаючы міжнародным, патрабуе ад яго напружанай работы над павышэннем свайго палітычнага і культурнага ўзроўню.

За гэты час у нас выраслі сапраўдныя майстры сваёй справы. Палітмасавая работа развіла ў іх такія выдатныя якасці, як імкненне да ведаў, пытлівасць, жаданне пасцігнуць тэму ў поўным яе аб'ёме.

Палітінфармацыі такіх агітатараў, як тт. Рубан, Врублеўскі, Тішкоў, Чэрняк, Славачынскі, Жэлабкоў і інш., заўсёды глыбока змястоўны і цікавы.

Тав. Чэрняк ужо каля двух год працуе палітагітатарам дрэваапрацоўчага цэха № 2. Мы азнаёміліся з дзеннікам работы тав. Чэрняка, які ён пачаў весці з кастрычніка мінулага года. Тут і зварот удзельнікаў партнарады КП(б)Б аб датэрміновым выкананні промфінплана, пытанні італа-абісінскай вайны, аб парушэнні Версальскага дагавору Германіяй, тут і гутаркі аб рабоце таварыша Сталіна ў Закаўказзі з выкарыстаннем надрукаваных у газетах успамінаў старых рабочых і даклада тав. Берыя, тут і пытанні стаханаўскага руху, асваення новых тэхнічных норм, пабудовы канала Масква—Волга, тут і ўспаміны Н. К. Крупскай аб Леніне, урыўкі з кнігі Карла Бейнера «Забіты пры спробе ўцячы» і дзесяткі іншых пытанняў. Усяго з 15 кастрычніка прапрацавана 78 тэм.

У час абедзенага перапынку тав. Чэрняк пытае ў рабочых, ці чыталі яны апошнія нумары газет, што іх цікавіла, што было няясна. Пасля гэтага ён пачынае рыхтавацца да заняткаў: праходзіць кансультацыю і інструктаж, падбірае адпаведныя матар'ялы. У бліжэйшыя дні ўсе пытанні, якія цікавяць рабочых, бываюць вырашаны на палітінфармацыі.

Дзеннік аказвае тав. Чэрняку вялікую дапамогу. Ён сістэматычна заносіць у яго не толькі прапрацаваную тэму, але і заданыя слухачамі пытанні, якія паказваюць, наколькі глыбока ён здолеў раскрыць закранутую тэму. Калі, па яго думцы, тэма засвоена недастаткова, засталіся няясныя для слухачоў пытанні, дык ён зноў бярэ яе для больш глыбокай прапрацоўкі.

Імкненне зацікавіць тэмай, давесці яе да слухача ў найбольш поўнай і, так сказаць, удасканаленай форме, наштурхнуць на разважанні, набучыць рабіць вывады з прапрацаванага матар'ялу—каштоўная і станоўчая рыса работы палітагітатара Чэрняка.

Тав. Чэрняк зусім правільна разумее свае функцыі, як выхавальніка рабочай масы. У вольны пасля работы час ён гутарыць з рабочымі, бывае ў іх на даму, знаёміцца з настроем.

Тав. Чэрняк расказвае, як ён ґрупаваў вакол сябе актыў.

Ён навучыў раней пасіўных людзей карыстацца газетай, кнігай, прабудзіў у іх інтарэс да пытанняў палітычнага жыцця. Цяпер яны просяць расказаць аб рабочым руху ў фашысцкай Германіі, аб адзіным фронце ва Францыі, аб адносінах Англіі да Лігі нацый і т. п.

Тав. Чэрняк на занятках з рабочымі шырока выкарыстоўвае мастацкія творы, рэкамендуе рабочым літаратуру, дзеліцца з імі ўражаннем аб прагледжаных кіно-карцінах.

Многа і сур'ёзна працуе ён над папаўненнем сваіх ведаў, вывучае творы Леніна і Сталіна, знаёміцца з мастацкай літаратурай, сістэматычную чытку газет і часопісаў лічыць абавязковай умовай поспеху сваёй работы.

Адным з лепшых палітагітатараў з'яўляецца таксама і тав. Рубан. Жыццёвы шлях гэтага члена партыі ва многім навучальны. Тав. Рубан яшчэ нядаўна працаваў чорнарабочым, не меў ніякай кваліфікацыі, агульнаадукацыйная і культурная падрыхтоўка яго прымушала жадаць многа лепшага, палітычная і грамадская актыўнасць была вельмі невысокай. Толькі дзякуючы таму, што нашы партыйныя арганізацыі здолелі знайсці шлях да гэтага чалавека, стварыць адпаведныя ўмовы для яго росту, папрацаваць над ім, мы маем зараз у асобе тав. Рубана нядрэннага комуніста, актыўнага грамадскага работніка, узорнага стаханаўца. За кароткі час тав. Рубан атрымаў кваліфікацыю электразваршчыка і вопыт палітагітатара.

За дзень-два да палітінфармацыі тав. Рубан знаёміць сваіх слухачоў з чарговай тэмай, указвае ім газетны або журнальны матар'ял, па якому яны маглі-б азнаёміцца з закранутым пытаннем. Такім чынам ён узбуджае ў слухачоў інтарэс і дае магчымасць добра падрыхтавацца.

Палітінфармацыі тав. Рубана вельмі дзейсны і даюць непасрэдна практычныя вынікі. Так, напрыклад, рыхтуючыся да прапрацоўкі перадавога артыкула «Правды» «Жыць і працаваць культурна», тав. Рубан на працягу раду дзён грунтоўна азнаёміўся з гэтай справай у механічнай майстэрні, абследваў кватэры рабочых Орлоўскага, Гельфанда і Паштана, выявіў іх запатрабаванні. Палітінфармацыя, ілюструемая мясцовым матар'ялам, грунтуючыся на блізкіх і зразумелых кожнаму рабочаму фактах, зрабіла вялікае ўражанне. Рабочыя механічнай майстэрні прад'явілі адміністрацыі цэлы рад патрабаванняў: зрабіць душ, зрабіць шафу для хавання чыстай адзежы, паходныя скрынкі для струментаў, бо дзяжурны рамонтнай брыгады звычайна рассоўвае струманты па кішэнях, і т. д. Гэтыя законныя патрабаванні рабочых праводзяцца зараз у жыццё.

Тав. Рубан гаворыць, што палітагітацыя—вельмі цікавая і захапляючая работа. Яна вельмі многа дае самому агітатару, бо хочацца ведаць як мага больш, каб на кожнае запытанне рабочага знайсці правільны адказ. «З той пары, як я пачаў працаваць палітагітатарам, у мяне з'явіліся павышаныя патрабаванні да сябе. Калі я адчуваю, што якое-небудзь пытанне поўнасцю асвятліць не здолеў, то не супакоюся, пакуль не вывучу яго так, каб мог умела перадаць другому».

У добрым палітагітатары рабочыя бачаць свайго дарадцу, памочніка, сябра і вельмі часта звярачаюцца да яго па пытаннях чыста жыццёвага парадку. Гэтага нельга ігнараваць. Тав. Рубан ведае сваіх рабочых, часта гутарыць з імі, бывае на даму і здолеў заслужыць у іх вялікі аўтарытэт і павагу.

Такіх палітагітатараў як тт. Рубан і Чэрняк на камбінаце не мала, аднак не кожны можа так чутка і ўмела падыйсці да рабочых. Быў у нас такі выпадак. Палітагітатар тав. Лахман, расказваючы аб рэкордах стаханаўцаў, не здолеў увязаць тэму з мясцовым матар'ялам, не ўмеў падыйсці да сваёй аўдыторыі, зацікавіць яе. Агульная некан-крэтная палітгутарка Лахмана не мела ў рабочых ніякага поспеху.

Палітагітатары аказалі нам вялікую дапамогу ў папулярызацыі стаханаўскага наказу ў зборы цэлага раду каштоўных прапаноў сярод рабочых. Пры іх дапамозе мы ахапілі ўсіх рабочых камбіната падпіскай на газеты. Да 3000 экземпляраў газет выпісваецца выключна рабочымі. Начныя змены таксама рэгулярна абслугоўваюцца паліт-інфармацыяй, зрываў не бывае.

На працягу цэлай пяцідзенкі начную змену лесацэха № 2 абслугоўваў тав. Врублеўскі. Палітінфармацыі адбываліся, прыкладна, а 3 гадзіне ўночы. Увесь гэты час тав. Врублеўскі прапрацоўваў тэму аб засваенні новых норм. Трэба сказаць, што ён умела ўвязаў яе з работай сваёй змены, выявіў тормазы (несвоечасовая падача лесу, дрэнная точка піл, прастоі па віне адміністрацыі і т. д.), падабраў цэлы рад прыкладаў узорнай работы лепшых стаханаўцаў цэха, здолеў, так сказаць, тэхнічна абгрунтаваць свае заключэнні. Усё гэта безумоўна прынесла не мала карысці ў вырашэнні такой важнейшай задачы нашага вытворчага жыцця, як засваенне новых норм.

Паколькі большасць цэхаў працуе ў тры змены, палітагітатары абслугоўваюць іх папераменна.

Кожны выхадны дзень рабочыя выязджаюць на луг да ракі адпачыць і павесяліцца: вудзяць рыбу, разводзяць кастры. Чаму-б не выкарыстаць лона прыроды і для чыткі мастацкай літаратуры? Такі вопыт меў у нас не малы поспех. Гадзіны дзве рабочыя з вялікай увагай слухаюць чытчыка. За гэты час прачытаны ўрыўкі з кнігі Барбюса «Сталін», творы Горкага «Буравеснік» і «Песня аб Сокале», раман Аўдзеенка «Я люблю» і інш.

Цікава, што ў далейшым ужо самі рабочыя пачалі браць з сабою кнігі на луг.

Многа пытанняў хвалюе агітатараў. Іх запросы задавальняюцца не толькі на семінарах у партгабінеце, але і на занятках агіткалектыва. За апошні час мы прапрацавалі пытанне аб ліквідацыі класаў у СССР, рашэнні апошніх пленумаў ЦК, праект новай Сталінскай Канстытуцыі, цэлы рад пытанняў бягучай палітыкі і міжнароднага становішча.

Вялікім недахопам у нашай рабоце з'яўляецца адсутнасць патрэбнай колькасці наглядных дапаможнікаў. Праўда, мы маем фотогазету, геаграфічныя карты амаль ва ўсіх цэхах. Але гэтага, безумоўна, недастаткова. Думаем у бліжэйшы час набыць не менш чатырох фільмаскопаў, як каштоўны дапаможнік у правядзенні палітінфармацый. Абмежаваная колькасць экземпляраў «Праўды» не дае нам магчымасці забяспечыць гэтай неабходнай газетай кожнага агітатара. Недахоп мастацкай літаратуры таксама тармозіць шырокую папулярызацыю найбольш каштоўных твораў класікаў і сучасных пісьменнікаў.

Рабочая маса вельмі цікавіцца пытаннямі социяльна-эканамічнымі, міжнароднага жыцця, мастацкай літаратуры. Неабходна было-б упарадкаваць сістэму наведвання кваліфікаванымі лектарамі нашых буйнейшых прадпрыемстваў.

У пастаноўцы палітагітацыі на камбінаце мы маем яшчэ многа недахопаў. Не заўсёды гэта работа праводзіцца дыферэнцыявана, г. зн. асобна сярод жанчын, на кватэрах, у інтэрнатах, асобна сярод моладзі. Мала практыкуюцца палітінфармацыі на мове нацменшасці. Апошні прабел ужо ліквідаваны ў будпададдзеле.

Партыйная арганізацыя Лесакамбіната, у адпаведнасці з рашэннямі студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б, з дня ў дзень дабіваецца таго, каб справу палітычнай агітацыі паставіць у сябе на належную вышыню.

**Г. Бедынерман**

Загадчык сельска-гаспадарчага аддзела Крычаўскага РК КП(б)Б

# Парткіраўніцтва стаханаўскім рухам у сельскай гаспадарцы

Год таму назад забойшчык шахты «Цэнтральнае Ірміна» Аляксей Стаханаў спусціўся ў шахту—у забой і перавыканаў у некалькі раз норму па здабычы вугалю. Рэкорд, атрыманы Стаханавым, молніеносна распаўсюдзіўся па неаб'ятным куткам нашага вялікага Саюза і быў падхоплен усімі прадпрыемствамі, а потым калгасамі і соўгасамі. Прайшоў год. Няма таго месца ў нашай краіне, дзе-б не ведалі аб стаханаўскім руху, як выніку ўсяго нашага развіцця на шляху да перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

Рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) аб падняцці ўраджайнасці ў нечарназёмнай паласе, адбыўшаяся нарада ў Крэмле кіраўнікоў партыі і ўраду з лепшымі майстрамі сельскай гаспадаркі, выступленне тав. Сталіна на нарадзе камбайнераў і малацільшчыкаў, яго выступленне на прыёме калгасніц-ударніц бурачных палёў,—усё гэта стала баявой праграмай дзейнасці для нашай райпартарганізацыі на шляху развіцця стаханаўскага руху ў нашым Крычаўскім раёне, як на прадпрыемствах, так і ў сельскай гаспадарцы.

Усе нашыя пярвічныя партарганізацыі абмеркавалі на сваіх сходах выступленні тав. Сталіна на нарадах камбайнераў, пяцісотніц, гэтыя пытанні былі абгавораны на шырокіх калгасных сходах і сходах рабочых соўгасаў.

Для абмеркавання пытання барацьбы за сталінскія 7—8 мільярдаў пудоў зярна, мы не раз накіроўвалі наш райпартактыў у калгасы і сельсоветы. З яго дапамогай праводзілі абмеркаванні на месцах важнейшых пастаноў партыі і ўраду, ітогаў Усебеларускай нарады перадавікоў ураджайнасці, дагавароў, заключаных паміж нашай рэспублікай і суседнімі абласцямі (Заходняй, Чарнігаўскай).

Усё гэта паслужыла ростам творчага ўздыму і вялікай актыўнасці калгаснікаў нашага раёна і рабочых соўгасаў у барацьбе за 7—8 мільярдаў пудоў зярна і развіццё соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

З зімы гэтага года ў калгасах Кашанскага, Сакольніцкага, Батвінаўскага сельсоветаў і калгасах горсовета сталі арганізоўвацца стаханаўскія звенні ў барацьбе за рэкордны ўраджай зернавых.

У калгасе «Ўдарнік» былі арганізаваны звенні па барацьбе за 3 тысячы пудоў бульбы, 180 пудоў пшаніцы, 120 пудоў аўса і 8 цэнтнераў ільну.

. Гэтыя звенні ўзначалілі лепшыя калгаснікі-стаханаўцы: Стараста Іван, Каменева П., Васкабойнікава, Стызік Мітрафан, Заблоцкі Ягор, Вырва Ягор. Такія звенні былі арганізаваны ў калгасах «Заветы Ільіча», імя Варашылава, імя Карла Маркса, «На варце» і іншых. Стаханаўскі рух стаў унядрацца ва ўсе працэсы работы з перыяду падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

Лепшыя трактарысты—стаханаўцы МТС, брыгадзіры: Чыгункоў, Кацэба, Іскароў, Кухарэнка абавязаліся змагацца за тысячу га на трактар.

Стаханаўскі месячнік узначалены партарганізацыяй МТС, непасрэдная работа комуністаў па кіраўніцтву стаханаўскім рухам,—далі свае вынікі пры правядзенні веснавой сяўбы. Трактарыст Чыгункоў, Журанкоў, Цімох, Давідаў Сцепан, Шэцікаў Змітрок выпахвалі ў дзень 12—13 з паловай га. Еўсееў Васіль, Саўчанка Петрок выпахвалі па 13—14 і 14 з паловай га ў дзень. Колькасць стаханаўцаў у МТС стала значна ўзрастаць. Калі раней там было 5 стаханаўцаў, то зараз іх ёсць 43. Паміж брыгадамі заключаны соцдагавары на спаборніцтва. Наша МТС спаборнічае з Чэрыкаўскай МТС. Брыгадзіры, трактарысты ўвесь час правяраюць ход выканання соцдагавароў праз пасылку людзей, пісьмамі і па тэлефону.

У выніку разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва Крычаўская МТС план веснавых работ выканала на 149 проц. Летнія работы выкананы на 96 проц. Церабленне ільну МТС выканала на 150 проц. Лепшы ільноцерабільшчык—стаханавец Макарэнка Сяргей замест узятых ім па абавязацельству выцерабіць 100 га на ільнацерабілцы—за 20 рабочых дзён выцерабіў 151,23 га ільну. За асобныя дні ён выцярэбліваў па 13 га ільну. Макарэнка ўжо зарабіў каля 2-х тысяч рублёў грашыма, а яго напарнік—трактарыст Папнекоў—1500 руб. За стаханаўскую работу НКЗБ прэміраваў стаханаўцаў ільнацерабільшчыкаў Крычаўскага раёна Макарэнка і Гіндзіну Тацяну, якая, не гледзячы на тое, што толькі ў гэтым годзе скончыла курсы трактарыстаў, за 15 рабочых дзён выцерабіла ўжо 87,09 га ільну. Ільнацерабільшчык Цемашэнка Іван выцерабіў за 12 дзён 76,03 га ільну, Лушчанкоў Віктар 69 га, а Езерскі за 7 дзён выцерабіў 46,7 га.

У нашай МТС ёсць 2 стаханаўскія брыгады Іскарова і Кухарэнка, якія ўвесь час ідуць уперадзе.

Партыйная арганізацыя МТС лепшых стаханаўцаў (Кастрычка, Давідзенка, Іскарова, Чыгункова і Кухарэнка) прыняла ў спачуваючыя. Таксама падалі заявы аб прыёме ў спачуваючыя стаханаўцы—ільнацерабільшчыкі Макарэнка Сяргей і Гіндзіна Тацяна.

Разгортванне стаханаўскага руху, правільнае кіраўніцтва гэтай важнейшай справай Кашанскую пярвічную арганізацыю вывелі ў шэрагі перадавых па раёну. З пачатку гэтага году Кашанскі сельсовет трымае пераходны сцяг РВК, а калгас імя Карла Маркса трымае другі год пераходны сцяг РК КП(б)Б. Гэты калгас першым па раёну добраякасна закончыў веснавую сяўбу, праполку, уборку свайго ўраджая, прымяніў усе агратэхнічныя правілы і падкормку. 28-га ліпеня калгас імя Карла Маркса першым у раёне разлічыўся па зернапастаўкам, здаўшы дзяржаве 180 цэнтнераў лепшага зярна. К гэтаму часу разлічыліся па зернапастаўкам і калгаснікі. Выцераблен, абіт

і разаслан лён з плошчы 30 га, што складае 100 проц. выканання плана. Выканан план па здачы дзяржаве ільно-насення ў колькасці 28 цэнтнераў. У калгасе імя Карла Маркса ёсць 30 стаханаўцаў, якія на працягу ўсяго часу вясенніх і летніх работ даюць небывалыя рэкорды. Жаванаў Аверка ў час сенаўборкі выкашвае па 1 га сенажаці ў дзень.

Зараз у калгасах Кашанскага сельсовета налічваецца 136 стаханаўцаў. Толькі па 8 сельсоветах нашага раёна мы маем 537 стаханаўцаў калгаснікаў. Сярод іх ёсць такія людзі, як Гердзі Маша, атрымаўшая ганаровую грамату ЦВК БССР, як лепшая стаханаўка свінагадоўлі, Іўкін Аляксей—стаханавец, загадчык МТФ калгаса «Звязда». У яго ферме на працягу 2-х гадоў няма адыходаў маладняка, датэрмінова выконвае план па малаку і мясапастаўкам. Добра працуе стаханаўка Кіндарова Мар'я з калгасу «Шлях Соцыялізма», у якой прыпадае прыплоду 18 парасят у сярэднім на адну свінаматку.

Галаўнёва Мар'я, Ткачова Соня—стаханаўкі змагаюцца ўвесь час за высокі ўдой малака. Яны замацавалі атрыманыя вынікі стаханаўскай пяцідзёнкі ў сябе на ферме.

Развіццё стаханаўскага руху дала магчымасць атрымаць высокі ўраджай у нашым раёне, не гледзячы на жаркае і сухое лета. Калгас «Шлях Соцыялізма» атрымаў па 12 цэнтнераў з га жыта і азімай пшаніцы. Такі-ж ураджай і ў калгасах «Соцпаказчык», імя Леніна, «Сталінскі Заклік», імя Блюхера, «Ударнік». У гэтых калгасах знята зернавых—яравых па 8—9 цэнтнераў з га.

Улічваючы некаторыя недахопы ў разгортванні стаханаўскага руху па калгасам і саўгасам нашага раёна, недастатковае кіраўніцтва гэтай важнейшай справай з боку асобных комуністаў і асобных партарганізацый—бюро Райкома КП(б)Б дало рад канкрэтных установак па знішчэнню маючыхся недахопаў у справе разгортвання стаханаўскага руху.

Аднак мы і зараз маем асобныя выпадкі недаацэнкі асобнымі комуністамі стаханаўскага руху. Старшыня калгасу імя Леніна Высоцкі, кандыдат партыі, зусім не клапоціцца аб стаханаўцах; не займаецца справай арганізацыі стаханаўскага руху ў сваім калгасе, не аказвае дапамогі стаханаўцам жывёлагадоўлі.

Гэтыя факты гавораць, што мы яшчэ не ўсё зрабілі па разгортванню стаханаўскага руху ў нас на вёсцы. У гэтай справе мы маем не мала недахопаў з боку нашых партарганізацый. У асобных сельсоветах у нас не праводзіцца сістэматычная работа са стаханаўцамі, не наладжан абмен вопыту стаханаўцаў. Не наладжана тэхнічная і агульна-адукацыйная вучоба стаханаўцаў. Наша раённая газета яшчэ слаба асвятляе работу стаханаўцаў соцыялістычных палёў.

Усё гэта гаворыць аб тым, што ў гадавіну стаханаўскага руху мы павінны знішчыць усе гэтыя недахопы, устараніць усе рагаткі і перашкоды на шляху развіцця стаханаўскага руху і асабліва ўзмацніць партыйнае кіраўніцтва стаханаўскім рухам на вёсцы. Усё гэта дасць нам магчымасць яшчэ больш высветліць знатных людзей стаханаўцаў калгасаў і соўгасаў і змагацца за права атрымання першынства нашага раёна па БССР.

**М. Брагінскі**

**Сакратар Гомельскага РК ЛКСМБ**

# Як рэалізуюцца рашэнні X з'езда ВЛКСМ

X з'езд ВЛКСМ паставіў перад нашым саюзам цэлы рад новых, надзвычай сур'ёзных задач, якія выцякаюць з указанняў таварыша Сталіна аб рабоце з комсамолам. У прамовах тт. Андрэева і Косарэва, у прынятых з'ездам праграме і статуце ленінскага комсамола ярка ўказваецца на тое, што мы павінны высока ўзняць справу комуністычнага выхавання і асветы нашай совецкай моладзі і дзяцей, добра паставіць палітыка-выхаваўчую работу.

Вучоба і выхаванне моладзі цяпер галоўнае.

> «Увесь пафас комсамольскай работы і ўсю героіку нашага ленінскага комсамола трэба перанесці цяпер на вучобу. У гэтым галоўнае» (Андрэеў).

Тав. Косарэў прама сказаў, што памехай далейшага развіцця нашай краіны можа аказацца недахоп ведаў, культурнасці і адукаванасці, бо навука і культура не могуць стаяць на месцы, яны хутка рухаюцца наперад.

Прапрацоўку рашэнняў з'езда мы павінны былі паставіць так, каб іх добра зразумелі кожны комсамолец і комсамолка, на жаль не ўсе комсамольскія работнікі адразу ўяснілі сабе сур'ёзнасць гэтай задачы. Былі спробы ператварыць вывучэнне рашэнняў з'езда ў чарговую кампанію (завод імя Кірава, камбінат «Спартак» і інш.). Гэтыя недахопы выпраўляліся на-хаду.

Зараз нашы комсамольцы сур'ёзна, па-дзелавому вывучаюць матэрыялы з'езда. У выніку ў наш саюз уступіла пасля з'езда 400 перадавых юнакоў і дзяўчат з ліку рабочых, калгаснікаў, служачых і вучняў. У свае рады мы прынялі такіх тт., як Канцэвенка, Грэчухін, Міхеева Клава, Чарнова Нюра. Гэта—знатныя людзі. Іх ведаюць не толькі на сваёй фабрыцы ці заводзе, аб іх з пашанаю гаворыць увесь горад. Ад моладзі паступіла яшчэ 200 заяў з просьбай прыняць у комсамол. У нашай арганізацыі ёсць комсамольцы, якія паказалі выдатныя ўзоры работы, гэта—Алесь Лучкоўскі і Лена Вілетнікава. Алеся і Лену вырасціў комсамол, ён іх выхаваў у духу адданасці нашай радзіме, нашай партыі.

Звыш 300 комсамольцаў-навічкоў і несаюзнай моладзі ахоплена гурткамі, дзе моладзь знаёміцца з праграмай комсамола, з рашэннямі з'езда. Але ёсць у нас комсамольскія камітэты (завод «Чырвоны хімік», імя Кірава, Палесдрук), якія яшчэ дрэнна працуюць з несаюзнай моладдзю.

Выхаванне моладзі—асноўная задача комсамола. На гэта ясна ўказвае першы пункт нашай праграмы:

«Следуючы ўказанням Леніна аб тым, што выпрацоўка комуністычнага светапогляду—авалодванне навукова-рэволюцыйнай тэорыяй пролетарыята—з'яўляецца асноўнай умовай для выхавання моладзі ў духу комунізма, ВЛКСМ лічыць абавязковым для кожнага комсамольца атрыманне палітычнай адукацыі».

Пасля X з'езда ў нас дадаткова арганізавана 5 комсамольскіх палітшкол, а ўсяго іх у нас цяпер 116. Школы забяспечаны прапагандыстамі, якія прашлі атэстацыйныя камісіі. Прапагандысцкую работу вядзе ўвесь кіруючы комсамольскі актыў. Але на гэтым важнейшым участку ў нас яшчэ многа сур'ёзных недахопаў. Палітвучоба і вывучэнне гісторыі партыі часта праходзяць павярхоўна, прапагандысты падбіраюцца няўважліва, наведванне школ і гурткоў недастаткова (фабрыка імя Клары Цэткін, Белхарчгандаль, Палесдрук). Вельмі часта заняткі не захапляюць моладзь.

* * *

Мы добра памятаем словы тав. Косарэва на з'ездзе комсамола:

«Задача ўздыму ўзроўню рабочых да ўзроўню інжынернатэхнічнай працы, высунутая таварышом Сталіным у прамове на нарадзе стаханаўцаў, з'яўляецца праграмай для нашай моладзі.»

Справа тэхнічнай вучобы ў нас значна палепшылася. Мы маем цэлы рад тэхнічных гурткоў, школ сярэдняй тэхнічнай адукацыі і т. д. 20 комсамольскіх арганізацый з'яўляюцца суцэльна стаханаўскімі (завод імя Кірава, «Спартак», «Праца», «Везувий» і інш.). Да новага навучальнага года арганізуем тры школы сярэдняй асветы. Але і гэта сетка нас цалкам не задавальняе. Улічваючы, што школы малаграматных к восені гэтага года выпусцяць каля 2 тысяч чалавек моладзі, мы павінны будзем арганізаваць іх далейшую вучобу без адрыву ад вытворчасці.

«У радах ленінскага комсамола мы павінны падрыхтоўваць смелых, адважных, самаадданых і вынослівых людзей, для якіх няма больш пачэснай задачы, чым абарона соцыялістычнай радзімы на самых небяспечных і перадавых пазіцыях» (Косарэў).

Без адрыву ад вытворчасці ў нас паспяхова рыхтуецца да выпуску 70 лётчыкаў, падрыхтавана група парашутыстаў у 25 чалавек, праводзім набор новай групы планерыстаў у 120 чалавек, звыш 1000 комсамольцаў здалі нормы на ПВХО першай ступені. У нашых радах ёсць лепшыя майстры стралковага спорту. Так, тав. Лейкін з'яўляецца адначасова лепшым стаханаўцам фабрыкі «Праца», майстрам стралковага спорту і лётчыкам.

Палепшылася справа з фізкультурай. У горадзе мы маем 20 футбольных і 50 валейбольных каманд. Створаны каманды па лёгкай атлетыцы і іншых відах спорту. Поспехі ў ваенна-фізкультурнай рабоце ў нас, безумоўна, ёсць, але супакойвацца на іх, захапляцца і пераацэньваць іх было-б памылкай. Ясна адно—мы можам і павінны быць на першым месцы ў ваенна-фізкультурнай рабоце. Для гэтага ў нас ёсць усе ўмовы.

З'езд прызнаў нездавальняючай работу комсамола ў школе. Такая ацэнка павінна павярнуць комсамольскія арганізацыі тварам да школы. Даць піонерскім атрадам добрых важатых, арганізаваць для дзяцей вясёлы адпачынак улетку—вось іх першачарговая задача.

У нас, у Гомелі, зараз няма ніводнага атрада, які-б не меў важатага. На лета мы арганізавалі пры жактах, жылкоопах 42 піонерскія фарпосты. Абсталявалі піонерскі парк, у якім ёсць вельмі многа розных цікавых забаў, атракцыёнаў. Тут дзеці не сумуюць. У гэтым годзе праз лагеры, санаторыі, здраўніцы будзе прапушчана каля 5660 дзяцей. Зараз адпачывае 440 акцябрат, у санаторны лагер выехала 410 дзяцей.

Такія нашы першыя крокі ў галіне рэалізацыі рашэнняў X з'езда ВЛКСМ. Пад кіраўніцтвам і пры дапамозе гаркома партыі гомельская комсамольская арганізацыя з большэвіцкай настойлівасцю будзе змагацца за тое, каб поўнасцю выканаць указанні тав. Сталіна і рашэнні X з'езда ВЛКСМ.

---

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

## Аб становішчы ў партарганізацыі рэдакцыі „ЗВЯЗДА“

*З пастановы Бюро ЦК КП(б)Б ад 20 ліпеня і 2 жніўня гэтага года*

1. За страту рэвалюцыйнай пільнасці, павярхоўныя, дзяляцкія адносіны да даручанай справы, дапушчэнне засмечанасці апарата чужымі людзьмі—абвясціць тав. Стэрніну суровую вымову.

У сувязі з тым, што тав. Стэрнін, як рэдактар «Звязды», паказаў сябе кіраўніком, страціўшым бальшэвіцкую рэвалюцыйную пільнасць, зняць тав. Стэрніна з работы рэдактара «Звязды» з накіраваннем яго на меншую работу.

Вывесці тав. Стэрніна са складу кандыдатаў у члены бюро ЦК КП(б)Б і членаў ЦК КП(б)Б.

2. Намесніку рэдактара газеты «Звязда» тав. Джэлюку за непрынянцце мер к выкрыццю контррэвалюцыйных трацкісцкіх элементаў і ачышчэнню апарата «Звязды» ад чужых людзей—абвясціць вымову.

3. Загадчыку аддзелам друку тав. Мінкіну, знятаму з работы рашэннем бюро ЦК КП(б)Б 20 ліпеня 1936 года, абвясціць вымову за непрынянцце своечасовых мер да аздараўлення партыйнай арганізацыі «Звязды» і за тое, што ён, як кіраўнік аддзела друку ЦК, не забяспечыў праверкі, вывучэння і падбору кадраў для друку.

## Аб прыналежнасці тав. Кавальчука З. З. да трацкісцкай апазіцыі ў 1923 годзе

*З пастановы Бюро ЦК КП(б)Б ад 20 ліпеня гэтага года*

За прамое ашуканства партыі, якое выразілася ў скрыцці ад партыі сваёй прыналежнасці да контррэвалюцыйнай трацкісцкай апазіцыі і актыўнага ўдзелу ў ёй у 1923 годзе, вывесці Кавальчука са складу кандыдатаў у члены бюро ЦК КП(б)Б і са складу членаў ЦК КП(б)Б, абвясціўшы Кавальчуку суровую вымову. Папярэдзіць Кавальчука, што ў выпадку, калі ён у далейшым праявіць малейшае хістанне, ён паставіць сябе па-за радамі партыі.

# Аб рабоце партарганізацый Лёзненскай і Высачанскай МТС па пытанню аб скарыстанні ільнацерабілак і трактарных малатарань

*Пастанова бюро ЦК КП(б)Б*

ЦК КП(б)Б адзначае, што праверкай на месцы работы партарганізацый Лёзненскай і Высачанскай МТС і з асабістых дакладаў у ЦК КП(б)Б намеснікаў дырэктароў МТС па палітчасці т. т. Сцепанюка і Кантаровіча ўстаноўлена, што партарганізацыі гэтых МТС зусім недастаткова змагаліся ў сваей практычнай рабоце за поўнае выкананне плана машынных работ МТС у калгаснай вытворчасці. Дабіўшыся некаторых поспехаў у рабоце трактарнага парку ў веснавым ворыве, партарганізацыі Лёзненскай і Высачанскай МТС самасупакоіліся, аслабілі сваю арганізатарскую ролю і ў рэзультаце прагледзелі скарыстанне такой высокапрадукцыйнай у рабоце ўборачнай машыны як шыроказахватная ільнацерабілка «ВНІІЛ—5».

Лёзненская і Высачанская МТС мелі ўсе ўмовы для выканання плана машыннага церабленне ільну. Гэта пацвярджаецца тым, што МТС забяспечаны ўсімі неабходнымі машынамі і трактарамі, падрыхтаванымі кваліфікаванымі кадрамі трактарыстаў і ільнацерабільшчыкаў. Так, напрыклад, ільнацерабільшчык Лёзненскай МТС тав. Шашкоў выцерабіў на сваей ільнацерабілцы 85 гектараў ільну, а ільнацерабільшчык Высачанскай МТС тав. Каралеў—75 гектараў. У тэтай-жа МТС ільнацерабільшчыкі т. т. Сглязнёў, Сучкова, Жаркова, Барадулькін, Ефімава і іншыя значна перавыканалі свае планы церабленне. Аднак, дырэктары Лёзненскай і Высачанскай МТС т. т. Лобік і Нароенка і намеснікі па палітчасці, яны-ж парторгі, Сцепанюк і Кантаровіч, абмежаваўшыся фармальнай работай па адводу ўчасткаў і складаннем маршрутаў для работы ільнацерабілак, забыліся, што неабходнай умовай максімальнага скарыстання машын з'яўляецца штодзенная ўпартая арганізатарская работа людзей і аператыўнасць у справе расстаноўкі, перакідкі і самога скарыстання машын.

Іменна таму, што ў кіраўнікоў Лёзненскай і Высачанскай МТС панавалі недапушчальная бестурботнасць і фармальныя адносіны да справы, а таксама не вялася рашучая барацьба з фактамі антымашынных настрояў, меўшых месца ў асобных калгасах раёна, план машыннага церабленне ільну, як па Лёзненскай, так і Высачанскай МТС сарваны. У абодвух МТС на 8 жніўня г. г. было выцераблена толькі

па 20 гектараў на ільнацерабілку замест устаноўленага дзяржаўнага плана ў 50 гектараў. У Лёзненскай МТС з 21 ільнацерабілкі нармальна працавала толькі 5, а ў Высачанскай з 14 толькі 3. Усе астатнія ільнацерабілкі ў абодвух МТС або зусім не працавалі, або ў большасці прастойвалі па розных прычынах, якія лёгка можна было ліквідаваць або абыйсці зусім.

Партарганізацыі і кіраўнікі гэтых МТС не вынеслі для сябе ўрокаў з правалу работы ільнацерабілак і таксама дрэнна арганізавалі малацьбу трактарнымі малатарнямі, у выніку чаго апошнія працуюць у адну змену, як правіла, толькі ноччу, шмат прастойваюць і таму, што каля малатарань сярод калгаснікаў не праводзіцца ніякай масавай работы, сярэдняя дзённая выпрацоўка малатарань па абодвух МТС складае толькі 4—5 тон.

ЦК адзначае, што ўсё праходзіць міма ўвагі Лёзненскага РК КП(б)Б і РВК, якія нават не прынялі канкрэтных мер супроць антымашынных настрояў і дзеянняў, меўшых месца ў калгасах «Перамога» Глоданскага сельсовета, «Віцебскі Пролетарый», Замшанскага сельсовета, і «Маяк соцыялізма», Стасеўскага сельсовета.

Бюро ЦК лічыць такія адносіны партарганізацый Лёзненскай і Высачанскай МТС да пытання скарыстання машын недапушчальнымі, наносячымі значныя страты МТС, зрываючымі дагаворы МТС з калгасамі на машынную апрацоўку ўраджаю і прыводзячымі да лішніх страт ураджаю ільну і хлеба.

ЦК абавязвае партарганізацыі ўказанных МТС і іх кіраўніцтва, намеснікаў дырэктароў па палітчасці т. т. Сцепанюка і Кантаровіча і дырэктароў МТС т. т. Лобіка і Нароенка ў сваёй далейшай рабоце ў справе малацьбы і азімай сяўбы дабіцца перавыканання плана з тым, каб ліквідаваць прарыў у рабоце МТС па ільнацерабілках і наверстаць упушчанае ў пачатку работы малатарань.

ЦК абавязвае партарганізацыі Лёзненскай і Высачанскай МТС разгарнуць арганізацыйную і партыйна-масавую работу сярод работнікаў МТС і калгаснікаў, якія працуюць на трактарах і машынах, мабілізуючы іх увагу на бесперабойную работу машын і барацьбу са стратамі.

ЦК прапануе парторгам Лёзненскай і Высачанскай МТС т. т. Сцепанюку і Кантаровічу, у прыватнасці, арганізаваць выпуск невялікіх насценгазет або бюлетэняў непасрэдна на пункце работы кожнай малатарні, асвятляючы ў іх станоўчыя і адмоўныя бакі работы малатарань, паказваючы рацыяналізатарскія прапановы і каштоўны пачын асобых машыністаў і работнікаў малатарань і перадаючы вопыт лепшых людзей усім астатнім трактарыстам, машыністам і работнікам малатарань.

ЦК абавязвае неаслабна праводзіць сярод трактарыстаў і іншых работнікаў МТС, а таксама калгаснікаў масава-палітычную работу, у прыватнасці сіламі комуністаў і комсамольцаў арганізаваць чытку газет і растлумачэнне пастаноў партыі і ўрада. ЦК падкрэслівае, што ў абодвух МТС партарганізацыі недастаткова растлумачылі сярод рабочых і служачых, а таксама і калгаснікаў праект Сталінскай Канстытуцыі і абавязвае гэты недахоп у найкарацейшы тэрмін выправіць.

Бюро ЦК прапануе Лёзненскаму РК КП(б)Б выдзеліць са складу райпартарганізацыі неабходную групу комуністаў і паслаць іх да кожнай малатарні ў якасці партыйных арганізатараў для кантролю

работы малатарань, прыняцця канкрэтных мер барацьбы супроць страт і арганізацыі партыйна-масавай работы сярод калгаснікаў.

Прапанаваць рэдакцыям раённых газет кожную пяцідзёнку друкаваць на старонках райгазет сводкі аб рабоце кожнай у паасобку малатарні з указаннем прозвішча машыністаў малатарань, асвятляючы таксама ход усёй работы па малацьбе.

Даручыць АК, ГК і РК КП(б)Б абмеркаваць гэта рашэнне на бюро АК, ГК і РК, зрабіўшы для сябе адпаведныя вывады ў рабоце.

---

# Інструкцыя аб уліку членаў і кандыдатаў ВКП(б)[1]

(*Зацверджана ЦК ВКП(б) 21 чэрвеня 1936 г.*)

## I. Асноўныя палажэнні ўліку членаў і кандыдатаў ВКП(б)

**1. Асноўным дакументам ўліку складу і руху партыйных арганізацый з'яўляецца ўведзеная ЦК ВКП(б) пры абмене партыйных дакументаў у 1936 годзе ўчотная картка члена і кандыдата партыі, якая мае адзіны нумар з яго партыйным білетам або кандыдацкай карткай.**

Учотная картка кожнага члена і кандыдата партыі павінна быць запоўнена ў дакладнай адпаведнасці з патрабаваннямі, устаноўленымі інструкцыяй ЦК ВКП(б) па абмену партыйных дакументаў.

У выпадку папсавання, страты або крадзежу аднаго з двух дакументаў комуніста—учотнай карткі або партыйнага білета, учотнай карткі, або кандыдацкай карткі,—другі яго партыйны дакумент падлягае безадкладнаму із'яццю і ануляванню. Узамен ануляваных партыйных дакументаў, ва ўстаноўленым гэтай інструкцыяй парадку, члену або кандыдату партыі могуць быць выданы новыя дакументы за другім таксама адзіным нумарам.

**2. Персанальны ўлік членаў і кандыдатаў ВКП(б) на аснове ўчотных картак комуністаў вядзецца райкомамі, гаркомамі партыі, дзе толькі і павінны хавацца гэтыя карткі.** Адказнасць за правільную пастаноўку ўліку складу раённых, гарадскіх партыйных арганізацый ускладаецца на сакратароў райкомаў, гаркомаў ВКП(б).

У пярвічных партыйных арганізацыях улік членаў і кандыдатаў партыі вядзецца па кнізе ўстаноўленай ЦК ВКП(б) формы.

У буйных пярвічных арганізацыях, якія налічваюць у сваім складзе звыш 200 комуністаў, у дадатак да кнігі на ўсіх членаў і кандыдатаў партыі ў парткоме пярвічнай партарганізацыі заводзяцца карткі персанальнага ўліку членаў і кандыдатаў партыі ў пярвічных партарганізацыях устаноўленай ЦК ВКП(б) формы.

Гэтыя карткі прымяняюцца выключна ўнутры пярвічнай партарганізацыі для апаратыўных і даведачных мэт і не з'яўляюцца партыйным дакументам.

Адказнасць за правільнае вядзенне ўліку ў пярвічных партарганізацыях ускладаецца на сакратароў парткомаў або парторгаў пярвічных партарганізацый.

У абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый, а таксама ў акружкомах і гаркомах партыі, яднаючых райкомы, персанальны ўлік членаў і кандыдатаў ВКП(б) не вядзецца. Абкомы, крайкомы, ЦК нац-

---

1) „Партийное строительство“ № 14, 1936 г.

кампартый, а таксама акружкомы і гаркомы, якія яднаюць райкомы, вядуць улік складу сваіх арганізацый на аснове статыстычнай справаздачнасці райкомаў ВКП(б) аб складзе раённых партыйных арганізацый.

Адказнасць за правільнасць уліку членаў і кандыдатаў партыі ў обласной, краявой, рэспубліканскай партарганізацыях ускладаецца на загадчыка аддзелам кіруючых партыйных органаў абкома, крайкома, ЦК нацкампартый.

3. **Члены і кандыдаты партыі могуць пераязджаць з адной раённай, гарадской партарганізацыі ў другую толькі з дазволу сакратара райкома, гаркома, дзе яны знаходзяцца на ўліку толькі пасля зняцця іх з уліку ў пярвічнай партарганізацыі і ў райкоме або гаркоме партыі.**

Зняццё з уліку комуністаў, якія ўваходзяць у номенклатуру вышэйстаячых партыйных органаў, дапускаецца толькі са згоды гэтых органаў.

Учотная картка члена або кандыдата партыі, атрымаўшага дазвол на пераезд з адной арганізацыі ў другую, на рукі яму не выдаецца, а перасылаецца райкомам, гаркомам партыі праз фельд'егерскую сувязь на імя сакратара райкома, гаркома той партыйнай арганізацыі, куды выбыў член або кандыдат ВКП(б).

Райкомы, гаркомы абавязаны прымаць на ўлік усіх прыбыўшых ад іх членаў і кандыдатаў партыі, якія, ўстаноўленым гэтай інструкцыяй парадку, зняліся з уліку ў другой партарганізацыі. Папярэдняя згода райкома, гаркома аб прыняцці на ўлік членаў і кандыдатаў партыі патрабуецца толькі ў тым выпадку, калі ў адносінах адной арганізацыі ЦК ВКП(б) устаноўлен асобы парадак прыняцця на ўлік.

4. **Члены або кандыдаты партыі, выехаўшыя ў другую партыйную арганізацыю, не зняўшыеся з уліку ў райкоме, гаркоме ВКП(б), лічацца механічна выбыўшымі з партыі** і пасля разгляду пытання аб іх самавольным выбыцці з арганізацыі на бюро райкома, гаркома партыі знімаюцца з уліку як выбыўшыя з партыі.

Райкомы, гаркомы ВКП(б) не павінны прымаць на ўлік членаў і кандыдатаў партыі, якія не зняліся з уліку ў другой арганізацыі, і абавязаны адбіраць у іх партыйныя білеты і кандыдацкія карткі, паведамляючы аб гэтым адпаведны райком, гарком. Адабраныя партыйныя дакументы пагашаюцца і праз абкомы, крайкомы або ЦК нацкомпартыі перасылаюцца ў ЦК ВКП(б).

5. **Члены і кандыдаты партыі, часова выбываючыя з партыйнай арганізацыі ў працяглую камандзіроўку, на кароткатэрміновыя курсы, на вытворчую практыку, на ваенную перападрыхтоўку, не знімаюцца з уліку ў тых райкомах, гаркомах, дзе яны знаходзяцца на ўліку.**

У гэтым выпадку члену або кандыдату партыі выдаецца за подпісам сакратара райкома, гаркома даведка аб тым, што ён знаходзіцца на партыйным уліку ў данай арганізацыі і выбыў з арганізацыі на пэўны тэрмін (часова). Члены і кандыдаты партыі абавязаны зарэгістравацца ў райкоме, гаркоме па месцу свайго часовага прабывання. Сакратар райкома, гаркома ў гэтым выпадку прымае члена або кандыдата партыі **на часовы ўлік** і дапускае яго да выканання партыйных абавязкаў (наведванне партыйных сходаў, уплата членскіх узносаў, удзел у партыйнай рабоце) у адпаведнай пярвічнай арганізацыі, выдаючы яму пісьмовы дазвол.

6. **Ва ўсіх пярвічных і раённых партыйных арганізацыях устанаўляецца абавязковы парадак здачы спраў па ўліку членаў і кандыдатаў партыі ў выпадках змены кіраўнікоў гэтых партыйных арганізацый.**

Здача спраў утвараецца ў прысутнасці прадстаўніка вышэйстаячай партыйнай арганізацыі і з абавязковым складаннем акту. Акт складаецца з двух экземпляраў, з якіх адзін застаецца ў данай партыйнай арганізацыі, а другі накіроўваецца ў вышэйстаячы партыйны орган.

7. Улік членаў і кандыдатаў партыі ў партарганізацыях РККА, а таксама ў партарганізацыях пагранічнай і ўнутранай аховы НКВД вядзецца на аснове асобых указанняў аб прымяненні гэтай інструкцыі, распрацоўваемых ПУРККА, Палітаддзелам ГУПВО і зацверджаемых ЦК ВКП(б).

## II. Улік членаў партыі і кандыдатаў у члены ВКП(б) у райкомах і гаркомах ВКП(б)

8. **У абавязак райкомаў, гаркомаў ВКП(б) у галіне ўліку членаў і кандыдатаў партыі ўваходзіць:**

а) арганізацыя персанальнага ўліку ўсіх комуністаў раённай партыйнай арганізацыі і забяспечанне захаванасці ўчотных картак членаў і кандыдатаў партыі;

б) рэгулярнае ўнясенне дадатковых запісаў ва ўчотныя карткі членаў і кандыдатаў партыі;

в) прыём на ўлік новапрынятых у кандыдаты або члены ВКП(б) і комуністаў, прыбыўшых з другіх партарганізацый;

г) зняцце з уліку выбыўшых у другія раённыя партыйныя арганізацыі, выключаных і механічна выбыўшых з партыі і памершых членаў і кандыдатаў ВКП(б);

д) кіраўніцтва пастаноўкай уліку членаў і кандыдатаў у пярвічных партарганізацыях і рэгулярная праверка стану гэтага ўліку;

е) прадстаўленне абкомам, крайкомам, ЦК нацкомпартый перыядычнай справаздачнасці аб складзе і руху раённай партарганізацыі.

9. **Персанальны ўлік членаў і кандыдатаў партыі райкомы, гаркомы арганізуюць наступным чынам:**

а) учотныя карткі членаў і кандыдатаў партыі размяркоўваюцца **ў картатэцы ўчотных картак** па пярвічных партыйных арганізацыях, пры гэтым учотныя карткі членаў і кандыдатаў партыі кожнай пярвічнай партыйнай арганізацыі размяркоўваюцца асобна і ў алфавітным парадку;

б) учотныя карткі ўсіх членаў і кандыдатаў партыі, якія знаходзяцца на ўліку ў райкоме, гаркоме і зноў прымаемых на ўлік, заносяцца ў кнігу рэгістрацыі ўчотных картак устаноўленай ЦК ВКП(б) формы (інвентарная кніга). У гэтай кнізе адзначаецца таксама із'яцце з картатэкі райкома, гаркома ўчотных картак тых членаў і кандыдатаў партыі, якія па розных прычынах выбылі са складу данай партыйнай арганізацыі;

в) для бягучых даведачных мэт аб членах і кандыдатах партыі ў райкомах, гаркомах складаюцца **алфавітныя карткі** ўстаноўленай ЦК ВКП(б) формы, у якіх адзначаецца, у якой пярвічнай партарганізацыі знаходзіцца член або кандыдат партыі ці куды ён выбыў. Гэтыя карткі размяркоўваюцца ў строга алфавітным парадку, без падраз-

дзяленення на пярвічныя партарганізацыі і без падраздзялення на членаў і кандыдатаў партыі. **Картатэка алфавітных картак** падзяляецца на дзве часткі—у адной з іх знаходзяцца карткі наяўнага складу партыйнай арганізацыі, а ў другой—карткі ўсіх выбыўшых з арганізацыі членаў і кандыдатаў партыі;

г) для распрацоўкі статыстычных даных аб складзе і руху раённай партыйнай арганізацыі на кожнага члена і кандыдата партыі запаўняецца па даных іх учотных картак **статыстычная картка** ўстаноўленай ЦК ВКП(б) формы, **Картатэка статыстычных картак** падзяляецца на дзве часткі—у адной з іх знаходзяцца карткі наяўнага складу арганізацыі, размеркаваныя па пярвічных партарганізацыях (асобна членаў і кандыдатаў партыі і ла алфавіту), а ў другой—карткі выбыўшых з арганізацыі членаў і кандыдатаў партыі з падзелам іх на групы па прычынах зняцця з уліку (выбыўшыя ў іншыя раёны, выключаныя і механічна выбыўшыя з партыі і т. д.).

10. **Хаванне ўчотных картак** дапускаецца толькі ў райкоме, гаркоме ВКП(б) і абавязкова ў асобных ад іншых дакументаў шафах. Персанальную адказнасць за захаванасць учотных картак нясуць сакратары райкомаў, гаркомаў партыі.

З дазволу сакратара райкома, гаркома ўчотнымі карткамі могуць карыстацца адказныя работнікі райкома, гаркома, сакратары пярвічных арганізацый і прадстаўнікі вышэйстаячых партыйных органаў. Учотныя карткі не дазваляецца выносіць з памяшкання, дзе яны захоўваюцца і дзе павінна адбывацца азнаямленне з імі.

11. Для правільнага ўліку кожнага члена і кандыдата партыі, а таксама для правільнага ўліку ўсіх змен у складзе партыйных арганізацый райкомы, гаркомы абавязаны сістэматычна ўносіць ва учотныя карткі комуністаў наступныя **дадатковыя запісы аб зменах ва ўчотных даных членаў і кандыдатаў партыі:**

аб зменах у асвеце—якую і калі пасля складання учотнай карткі комуніст скончыў навучальную ўстанову і якую атрымаў новую спецыяльнасць (пункт 24 учотнай карткі);

аб выданні вучоных прац і зробленых вынаходках (пункт 25);

аб зменах у веданні моў (пункт 26);

аб выхадзе з ВЛКСМ (пункт 27);

аб атрыманні ўзнагарод саюзнага і рэспубліканскага значэння (пункт 28);

аб абранні ў склад выбарчых партыйных органаў—раённых, абласных, краявых, саюзных (пункт 29);

аб накладанні партыйных спагнанняў (пункт 30, а ў кандыдацкай картцы пункт 29);

аб зняцці партыйных спагнанняў (пункт 31, а ў кандыдацкай картцы пункт 30);

аб атрыманні дублікатаў партыйных дакументаў (пункт 32, а ў кандыдацкай картцы пункт 31);

аб зменах у занятках пасля складання карткі (пункт 33, а ў кандыдацкай картцы пункт 32);

аб выбыцці з арганізацыі і прыбыцці ў яе—рэгістрацыя перасоўвання члена або кандыдата партыі (пункт 34, а ў кандыдацкай картцы пункт 33);

**Дадатковыя запісы ўносяцца ва ўчотныя карткі на аснове наступных дакументаў:**

а) паведамленне сакратара парткома або парторга пярвічнай парт-арганізацыі аб зменах ва ўчотных даных комуністаў (па пунктах 24—28 і 33);

б) выпісак з рашэнняў райкомаў, гаркомаў, акружкомаў, абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый, КПК пры ЦК ВКП(б) і ЦК ВКП(б) (па астатніх пунктах другога раздзелу ўчотнай карткі).

Дадатковыя запісы ва ўчотных картках сакратар райкома, гаркома завярае сваім подпісам і пячаткай райкома, гаркома.

Усе дакументы, на аснове якіх праводзяцца дадатковыя запісы, захоўваюцца ў спецыяльных папках (справа «падставы для дадатковых запісаў ва ўчотныя карткі членаў і кандыдатаў партыі»), дзе падкладаюцца ў храналагічным парадку іх паступлення і нумаруюцца адзіным парадкам, нумарам, якія абазначаюцца ва ўчотнай картцы, у графе «падставы запісу».

Дадатковыя запісы ўтвараюцца ва ўчотных картках толькі спецыяльнымі чарніламі, атрыманымі з ЦК ВКП(б).

Райкомы, гаркомы не радзей аднаго разу ў квартал абавязаны правяраць, ці ўсе змены ва ўчотных даных комуністаў, прадугледжаныя ў другім раздзеле ўчотнай карткі, занесены ў карткі.

**12. Зняцце з уліку членаў або кандыдатаў партыі пры пераездзе ў партарганізацыю другога раёна праводзіцца наступным чынам:**

а) Члену або кандыдату партыі выдаецца за подпісам сакратара райкома, гаркома **адмацавальны талон** устаноўленай ЦК ВКП(б) формы з указаннем, калі і куды накіравана ўчотная картка члена або кандыдата ВКП(б).

У часе гутаркі з комуністам перад зняццем яго з уліку сакратар райкома, гаркома абавязан азнаёміць яго з усімі дадатковымі запісамі, якія былі ўнесены ў другі раздзел ўчотнай карткі і адначасова праверыць правільнасць і паўнату зробленых запісаў аб зменах.

б) Па атрыманні адмацавальнага талона **член або кандыдат партыі** абавязан зняцца з уліку ў пярвічнай партарганізацыі, аб чым сакратаром парткома (парторгам) пярвічнай партарганізацыі робіцца адзнака на адвароце адмацавальнага талона, без якой апошні несапраўдны.

У выпадку вялікай адлегласці пярвічнай партарганізацыі ад райкома, гаркома і немагчымасці для выбываючага з арганізацыі комуністаў зварачвацца ў пярвічную арганізацыю для зняцця з уліку, сакратар райкома, гаркома сам робіць адзнакі на адвароце адмацавальнага талона аб зняцці з уліку ў пярвічнай партарганізацыі, паведамляючы аб гэтым сакратара парткома або парторга гэтай арганізацыі.

в) Учотныя карткі выбыўшых з арганізацыі членаў або кандыдатаў партыі накіроўваюцца праз фельдсувязь НКВД непасрэдна ў тыя райкомы, гаркомы партыі, у распараджэнне якіх выбыў член або кандыдат ВКП(б) разам з **суправаджальным пісьмом** устаноўленай ЦК ВКП(б) формы.

Учотныя карткі членаў і кандыдатаў партыі, выбываючых у РККА і пагранічную і ўнутраную ахову НКВД, пасылаюцца толькі начальнікам адпаведных палітаддзелаў, а не ў пярвічныя партарганізацыі часцей, куды накіроўваюцца члены і кандыдаты партыі.

Сакратар райкома, гаркома пасля адпраўкі карткі абавязан сачыць за своечасовым атрыманнем пацвярджэння аб паступленні карткі ў адпаведны райком, гарком.

г) У тым выпадку, калі выбываючы з арганізацыі член або кандыдат партыі накіроўваецца ў распараджэнне вышэйстаячага партыйнага органа і невядома, у якім райкоме, гаркоме ён будзе знаходзіцца на ўліку, яго ўчотная картка пасылаецца толькі пасля атрымання запросу ад таго райкома або гаркома, у распараджэнне якога прыбыў член або кандыдат партыі, а ў адмацаваным талоне робіцца адзнака аб тым, што ўчотная картка астаўлена ў райкоме, гаркоме і будзе выслана па запросу сакратара адпаведнага райкома, гаркома.

Адмацавальны талон адрасуецца ў гэтым выпадку абкому, крайкому ці іншаму вышэйстаячаму парторгану, у распараджэнне якога выбывае член або кандыдат партыі. На адвароце адмацавальнага талона абкомам, крайкомам ці ЦК нацкомпартыі робіцца адзнака аб адкамандзіраванні члена або кандыдата партыі ў распараджэнне таго райкома, гаркома, дзе ён павінен знаходзіцца на ўліку.

Да таго часу, пакуль учотная картка выбыўшага з арганізацыі члена або кандыдата партыі не адпраўлена ў другі райком, гарком, даныя аб ім уключаюцца ва ўсе статыстычныя справаздачы, якія ў гэты час будуць складацца райкомам, гаркомам. Учотныя карткі выбыўшых з арганізацыі членаў і кандыдатаў партыі да іх адпраўкі захоўваюцца ў асобым раздзеле картатэкі.

д) Пры зняцці з уліку выбываючага з арганізацыі члена або кандыдата партыі ва ўчотнай картцы—пункт 34-ы, а ў кандыдацкай картцы пункт 33-ы «рэгістрацыя перасоўвання членаў або кандыдатаў партыі», у кнізе рэгістрацыі ўчотных картак, у статыстычнай і алфавітнай картках робяцца **адзнакі аб зняцці комуніста з уліку** з указаннем даты выбыцця і месца, куды выбыў комуніст.

Статыстычная і алфавітная карткі перакладаюцца з картатэкі дзеючай у архіўную, прычым у статыстычнай картцы зразаецца правы верхні вугал па лініі адрэзу для нагляднага абазначэння выбыцця комуніста з арганізацыі, і яна памяшчаецца ў асобы раздзел архіўнай картатэкі «да бягучай справаздачы аб руху арганізацыі», у якім застаецца да моманту распрацоўкі даных аб руху арганізацый, пасля чаго перасылаецца ў агульны раздзел архіўнай картатэкі.

13. Партыйныя білеты і кандыдацкія карткі, адабраныя сакратарамі парткомаў (парторгамі) пярвічных партарганізацый у асоб, выключаных з партыі пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі, захоўваюцца ў райкоме, гаркоме. Пагашэнне гэтых дакументаў **і зняцце з уліку выключаных з партыі** праводзіцца толькі пасля рашэння адпаведнага парторгана аб выключэнні з партыі. Выключаныя з партыі з ліку членаў і кандыдатаў, прынятых у партыю па трэцяй і чацвертай катэгорыям, знімаюцца з партыйнага ўліку пасля рашэння райкома, гаркома аб іх выключэнні. Прынятыя ў партыю па першай і другой катэгорыям у выпадку іх выключэння з партыі знімаюцца з партыйнага ўліку толькі пасля зацверджання рашэння аб іх выключэнні абкомам, крайкомам, ЦК нацкомпартыі.

Зняцце з уліку выключаных і механічна выбыўшых з партыі праводзіцца наступным чынам:

а) Партыйныя білеты, кандыдацкія карткі і ўчотныя карткі выключаных і механічна выбыўшых з партыі пасля рашэння адпаведнага партыйнага органа пагашаюцца шляхам перакрэслівання **спецыяльнымі чарніламі** ўсіх старонак дакумента і адзнакі на першай

староцы дакумента даты, прычыны і асновы пагашэння партдакумента.

б) Пасля пагашэння партыйных дакументаў робіцца адзнака аб зняцці з уліку выключаных і механічна выбыўшых у кнізе рэгістрацыі ўчотных картак, у статыстычных і алфавітных картках. У статыстычных картках, акрамя таго, зрэзаецца правы верхні вугал, а сама картка перакладаецца ў спецыяльны раздзел картатэкі «да бягучай справаздачы аб руху арганізацыі», у якім застаецца да складання справаздачы, а пасля складання справаздачы перакладваецца ў архіўную картатэку.

в) Сакратару парткома (парторгу) пярвічнай партарганізацыі пасылаецца выпіска з рашэння райкома, гаркома або пісьмовае паведамленне аб выключэнні комуніста з партыі або аб механічным яго выбыцці з партыі.

г) Учотныя карткі і партбілеты выключаных членаў і кандыдатаў партыі, а таксама памершых комуністаў пасля іх пагашэння накіроўваюцца праз абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый у Аддзел кіруючых парторганаў ЦК ВКП(б).

14. **Прыём на ўлік членаў і кандыдатаў** ВКП(б) праводзіцца наступным чынам:

а) Член або кандыдат ВКП(б), які прыбыў з другой арганізацыі, здае ў райком, гарком адмацавальны талон, пацвярджаючы зняцце яго з уліку па месцу ранейшай работы. Сакратар райкома, гаркома правярае партыйны білет ці кандыдацкую картку комуніста і дазваляе яму да прыбыцця яго ўчотнай карткі наведваць партсходы адпаведнай пярвічнай партыйнай арганізацыі, давёўшы аб гэтым да ведама сакратара парткома (парторга) пярвічнай партарганізацыі пісьмовым паведамленнем.

б) Па прыбыцці ўчотнай карткі члена або кандыдата партыі сакратар райкома, гаркома ВКП(б) звярае яго ўчотную картку з партбілетам і адмацавальным талонам і вырашае пытанне аб прыёму на ўлік. Ва ўчотнай картцы пры гэтым запаўняецца 34-ы пункт, а ў кандыдацкай картцы 33-і пункт, аб прыбыцці члена або кандыдата ВКП(б) у райком і аб накіраванні яго ў пярвічную партыйную арганізацыю.

На аснове ўчотнай карткі складаецца алфавітная і статыстычная карткі. Учотная картка заносіцца ў кнігу рэгістрацыі ўчотных картак і змяшчаецца ў картатэку ўчотных картак.

Члену або кандыдату партыі выдаецца пад асабістую распіску **прымацавальны талон** устаноўленай ЦК ВКП(б) формы за подпісам сакратара райкома, гаркома для прад'яўлення яго ў пярвічную партыйную арганізацыю, куды ён накіраван.

Па атрыманні ўчотнай карткі сакратар райкома, гаркома абавязан безадкладна паслаць у адпаведны райком, гарком **пацверджанне аб атрыманні карткі** па ўстаноўленай ЦК ВКП(б) форме, якое паступае разам з суправаджальным пісьмом на прысланую ўчотную картку.

в) У мэтах кантролю за своечасовым прыбыццем у райкомы, гаркомы ўчотных картак прыбыўшых з іншых партыйных арганізацый комуністаў, усе зданыя імі адмацаваныя талоны запісваюцца ў асобы **журнал рэгістрацыі адмацавальных талонаў**. Па меры паступлення ўчотных картак у райком, гарком робіцца адпаведная адзнака ў журнале рэгістрацыі адмацавальных талонаў. Сакратар райкома, гаркома павінен рэгулярна праглядаць журнал рэгістрацыі

і пры наяўнасці фактаў затрымкі ў прысылцы картак своечасова пасылаць запросы ў адпаведныя райкомы, гаркомы.

У тым выпадку, калі ўчотная картка комуніста будзе атрымана райкомам, гаркомам раней, чым прыбыў сам член або кандыдат партыі, райком, гарком абавязан хаваць яе, і, у выпадку няяўкі комуніста на працягу трох месяцаў, павінен адправіць картку ў райком, гарком, адкуль яна паступіла, для вырашэння пытання аб партыйнай прыналежнасці такога комуніста.

г) Прынятыя ў кандыдаты партыі, пераведзеныя з кандыдатаў у члены ВКП(б), а таксама адноўленыя ў правах членаў і кандыдатаў партыі прымаюцца на ўлік у райкомах, гаркомах у такім-жа парадку, як гэта ўказана ў пункце «а» гэтага параграфа, але толькі пасля атрымання імі партбілетаў або кандыдацкіх картак і складання на іх ўчотных картак у парадку, прадугледжаным гэтай інструкцыяй.

Да атрымання партыйных дакументаў прынятыя ў кандыдаты і адноўленыя ў правах членаў і кандыдатаў партыі да пярвічных партарганізацый не прымацоўваюцца і даныя аб іх ні ў якія статсправаздачы не ўключаюцца.

Адноўленыя ў правах членаў і кандыдатаў партыі атрымліваюць партыйныя дакументы і прымаюцца на ўлік ў тых райкомах, гаркомах, у распараджэнне якіх яны будуць накіраваны абкомамі, крайкомамі або ЦК нацкомпартый пасля аднаўлення іх у партыі. Абкомы, крайрайкомы, Ц.К. нацкомпартый і парткалегіі КПК пры ЦК ВКП(б) у сваіх рашэннях аб аднаўленні членаў і кандыдатаў партыі абавязаны ўказваць, які райком, гарком партыі павінен выдаць партыйныя дакументы адноўленаму члену або кандыдату партыі.

15. **Пераход члена або кандыдата партыі з адной пярвічнай партыйнай арганізацыі ў другую ў межах аднаго раёна афармляецца ў райкоме, гаркоме партыі наступным чынам:**

а) члену або кандыдату партыі выдаецца за подпісам сакратара райкома, гаркома прымацавальны талон устаноўленай ЦК ВКП(б) формы, у атрыманні якога ён распісваецца на карашку талона; па атрыманні прымацавальнага талона член або кандыдат партыі абавязан зняцца з уліку ў пярвічнай партарганізацыі ў такім-жа парадку, як гэта прадугледжана ў пункце 12 «б» гэтай інструкцыі;

б) аб пераходзе члена або кандыдата партыі з адной пярвічнай арганізацыі ў другую робіцца адпаведная адзнака ў алфавітнай картцы члена або кандыдата партыі;

в) учотныя карткі членаў або кандыдатаў партыі і статыстычныя карткі перакладваюцца да картак той пярвічнай партыйнай арганізацыі, куды накіраван член або кандыдат партыі.

16. **Складанне ўчотных картак на прынятых у кандыдаты партыі, на пераведзеных з кандыдатаў у члены і на атрымліваючых новыя партбілеты або кандыдацкія карткі ў сувязі з папсаваннем, стратай або крадзежам партбілетаў, кандыдацкіх картак, ці ўчотных картак** праводзіцца райкомам, гаркомам толькі пры наяўнасці рашэння адпаведнага партыйнага органа аб прыняцці ў партыю або аб выдачы новых партыйных дакументаў узамен пакрадзеных, страчаных і папсаваных.

Чыстыя бланкі партыйных дакументаў райкомы, гаркомы атрымліваюць з абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый па прадстаўленні імі заяўкі на чыстыя бланкі з указаннем, каму і на якой падставе

павінны быць выданы новыя партыйныя дакументы. Перад запаўненнем партыйных дакументаў на кожнага члена і кандыдата партыі, якому павінны выдавацца новыя партыйныя дакументы, складаюцца **рэгістрацыйныя бланкі** ўстаноўленай ЦК ВКП(б) формы:

Складанне рэгістрацыйных бланкаў праводзіцца:

а) на прынятага ў кандыдаты—на падставе анкеты, запоўненай ім пры здачы заявы аб прыёме ў партыю:

б) на пераведзеных з кандыдатаў у члены партыі—на падставе яго кандыдацкай учотнай карткі;

в) на атрымліваючага партбілет ці кандыдацкую картку ў вы падку іх папсавання, страты або крадзяжу—на падставе ўчотнай карткі члена або кандыдата партыі;

г) на аднаўленага ў правах члена або кандыдата партыі і на атрымліваючага партбілет ці кандыдацкую картку ў выніку страты, крадзяжу або папсавання яго ўчотнай карткі—на падставе іх старых партыйных дакументаў.

Складанне рэгістрацыйных бланкаў і запаўненне партыйных білетаў, кандыдацкіх картак, справаздачных картак на партбілеты і кандыдацкія карткі, а таксама ўчотных картак праводзіцца загадчыкам улікам райкома, гаркома па ўліку і абавязкова правяраецца сакратаром райкома, гаркома, які на рэгістрацыйным бланку піша заключэнне аб выдачы партдакументаў, а самыя партдакументы падпісвае, замацоўвае пячаткай і асабіста выдае членам і кандыдатам партыі.

Пры запаўненні новай учотнай карткі неабходна ўсе запісы, занесеныя раней у другім раздзеле, уносіць у першы раздел новай ўчотнай карткі. У другім-жа раздзеле новай ўчотнай карткі неабходна запоўніць толькі пункт 32-і, дзе ўказаць нумар страчанага або ўкрадзенага партдакумента і прычыны, па якіх праведзена замена старых партыйных дакументаў на новыя.

Новая ўчотная картка рэгіструецца ў кнізе рэгістрацыі ўчотных картак, і ў гэтай-жа кнізе робіцца адзнака аб страце або крадзежы і пагашэнні старой учотнай карткі.

Пры страце, крадзежы або папсаванні партбілетаў і кандыдацкіх картак, а таксама пры пераводзе кандыдатаў у члены партыі падлягаючыя замене ўчотныя карткі пагашаюцца толькі ў момант выдачы новых партыйных дакументаў, прычым на першай старонцы ўчотнай карткі побач з запісам аб прычынах із'яцця і пагашэння ўчотнай карткі ўказваецца нумар новых партдакументаў.

Рэгістрацыйныя бланкі членаў і кандыдатаў партыі, атрымаўшых новыя партдакументы, райком, гарком павінен штомесяц разам са статсправаздачай прадстаўляць у абком, крайком, ЦК нацкомпартыі.

17. Райкомы, гаркомы прадстаўляюць у абком, крайком, ЦК Нацкомпартыі, а таксама ў акружкомы і гаркомы, якія аб'ядноўваюць райкомы, статыстычныя справаздачы аб складзе і руху раённых партыйных арганізацый па ўстаноўленых ЦК ВКП(б) формах.

Усе статыстычныя справаздачы аб складзе і руху раённых і гарадскіх партарганізацый павінны правярацца асабіста сакратаром райкома, гаркома і зацвярджацца на бюро райкома, гаркома з пастаноўкаю пытанняў работы райкома, гаркома, выцякаючых з аналізаў статыстычных даных аб складзе і руху раённай, гарадской партарганізацыі.

## III. Улік членаў партыі і кандыдатаў у члены ВКП(б) у пярвічных партыйных арганізацыях

18. **У абавязак сакратароў парткомаў і парторгаў пярвічных партыйных арганізацый у галіне ўліку членаў і кандыдатаў партыі ўваходзіць:**

а) арганізацыя персанальнага ўліку ўсіх членаў і кандыдатаў партыі, якія ўваходзяць у склад пярвічнай партыйнай арганізацыі;

б) прыём на ўлік прыбываючых з райкома, гаркома камуністаў, прынятых у партыю і адноўленых, а таксама зняцце з уліку камуністаў, выбываючых з пярвічнай партарганізацыі;

в) пастаноўка на агульных сходах пярвічнай партыйнай арганізацыі рэгулярных паведамленняў аб прыбываючых у арганізацыю і выбываючых з яе камуністаў;

г) рэгулярнае прадстаўленне ў райком, гарком паведамленняў аб зменах ва ўчотных даных членаў і кандыдатаў партыі, прадугледжаных у другім раздзеле ўчотнай карткі камуніста;

д) правядзенне сістэматычнай растлумачальнай работы сярод членаў і кандыдатаў партыі аб парадку ўліку камуністаў і абавязках камуністаў у адносінах своечасовага інфармавання партыйнай арганізацыі аб зменах у іх учотных даных;

е) праверка работы парторгаў цэхаў, аддзелаў у адносінах уліку камуністаў.

19. **Улік камуністаў у пярвічных партарганізацыях вядзецца наступным чынам:**

а) усе члены партыі і кандыдаты ў члены ВКП(б) данай пярвічнай партарганізацыі рэгіструюцца ў кнізе ўліку членаў і кандыдатаў партыі ў пярвічных партарганізацыях. Кніга вядзецца сакратаром парткома (парторгам) пярвічнай партарганізацыі;

б) карткі персанальнага ўліку членаў і кандыдатаў партыі ў пярвічных партарганізацыях на членаў і кандыдатаў партыі захоўваюцца ў парткоме пярвічнай партарганізацыі і размяркоўваюцца ў алфавітным парадку па цэхавых партарганізацыях, асобна, на членаў і кандыдатаў партыі.

20. **Прыём на ўлік** пярвічнай партыйнай арганізацыяй новапрынятых у ВКП(б) членаў або кандыдатаў партыі і прыбыўшых з іншых партыйных арганізацый праводзіцца асабіста сакратаром гэтай пярвічнай партыйнай арганізацыі на падставе прад'яўленага камуністам партбілета ці кандыдацкай карткі і атрыманага ім у райкоме, гаркоме партыі прымацавальнага талона ўстаноўленай ЦК ВКП(б) формы. Камуніст, прыняты на ўлік у пярвічнай партарганізацыі, рэгіструецца ў кнізе ўліку членаў і кандыдатаў партыі.

Прынятыя ў кандыдаты бяруцца на ўлік у пярвічнай партарганізацыі толькі пасля атрымання імі ў райкоме, гаркоме кандыдацкіх картак і прымацавальных талонаў. Акурат так сама рэгістрацыя ў кнізе ўліку пераведзеных з кандыдатаў у члены (зняцце іх з уліку як кандыдатаў і ўзяцце на ўлік як членаў ВКП(б)) праводзіцца пасля атрымання імі ў райкоме, гаркоме партыйнага білета.

Картка персанальнага ўліку на прыбыўшых у пярвічную арганізацыю камуністаў, а таксама на прынятых у кандыдаты запаўняецца асабіста сакратаром парткома (парторгам) пярвічнай партарганізацыі ў час гутаркі з камуністам пры прыняцці яго на ўлік.

21. **Зняцце з уліку** члена або кандыдата партыі ў пярвічнай парт-

арганізацыі праводзіцца сакратаром ці парторгам гэтай арганізацыі з дазволу райкома, гаркома ВКП(б) на падставе прад'яўленага комуністам адмацавальнага талона, атрыманага ў райкоме, гаркоме або на падставе прад'яўленага комуністам прымацавальнага талона ў выпадку, калі ён пераходзіць у другую пярвічную партарганізацыю гэтага-ж раёна. Аб зняцці з уліку робіцца адзнака ў кнізе ўліку членаў і кандыдатаў партыі пярвічнай партарганізацыі.

Выключаныя і механічна выбыўшыя з партыі знімаюцца з уліку ў пярвічнай партарганізацыі толькі пасля атрымання ад райкома спецыяльнага паведамлення аб выключэнні або выбыцці з партыі.

Памершыя члены і кандыдаты партыі знімаюцца з уліку ў пярвічнай партарганізацыі пасля адсылкі ў райком, гарком сакратаром парткома (парторгам) партбілета або кандыдацкай карткі памершага.

У картках персанальнага ўліку знятых з уліку робяцца адзнакі аб прычынах зняцця з уліку і яны перастаўляюцца ў архіўны раздзел картатэкі парткома.

**22. Улік змен ва ўчотных даных комуністаў праводзіцца ў пярвічных партарганізацыях наступным чынам:**

а) кожны член і кандыдат партыі, ва ўчотных даных якога адбыліся змены, паведамляе аб іх сакратару парткома або парторгу пярвічнай партарганізацыі;

б) сакратар парткома пярвічнай партарганізацыі на падставе паступіўшых да яго звестак запаўняе бланк паведамлення аб зменах і накіроўвае яго сакратару райкома, гаркома робячы адначасова адзнаку аб змене ў картцы персанальнага ўліку комуніста;

в) сакратар парткома (парторг) пярвічнай партарганізацыі абавязан рэгулярна правяраць, ці ўлічаны ўсе змены ва ўчотных даных членаў і кандыдатаў партыі, аб якіх належала паведаміць у райком, гарком.

## IV. Кіраўніцтва ўлікам членаў і кандыдатаў партыі з боку абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый і справаздачнасць апошніх перад ЦК ВКП(б)

23. Абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый, адказваючы за стан усяго ўліку комуністаў па вобласці, краю, рэспубліцы, павінны сістэматычна правяраць пастаноўку ўліку членаў і кандыдатаў партыі ў кожнай раённай партыйнай арганізацыі.

Вынікі гэтай праверкі неабходна ставіць на абмеркаванне бюро абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый з выклікам для дакладу аб стане ўліку сакратароў райкомаў, гаркомаў і сакратароў парткомаў, парторгаў паасобных пярвічных партарганізацый.

24. У галіне падбору і падрыхтоўкі кадраў учотных работнікаў райкомаў, гаркомаў, абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый абавязаны:

а) зацвярджаць на бюро заг. учотам у райкомах, гаркомах;

б) склікаць перыядычна курсы-нарады ўчотных работнікаў райкомаў, гаркомаў і акружкомаў;

в) сачыць за тым, каб пры змене ўчотных работнікаў у райкомах, гаркомах і акружкомах абавязкова праводзілася здача і прыём спраў па акту, які зацвярджаецца бюро райкома, гаркома.

25. Статыстычныя справаздачы кожнай раённай партыйнай арганізацыі павінны разглядацца асабіста загадчыкам аддзела кіруючых партыйных органаў абкома, крайкома, ЦК нацкомпартый і райкому,

гаркому партыі павінны даваццa неабходныя ўказанні як у адносінах выпраўлення дапушчаных у справаздачах памылак, так і па сутнасці пытанняў работы райкома, гаркома, выцякаючых з аналіза статыстычных даных аб складзе і руху раённай партыйнай арганізацыі.

26. На падставе статыстычных справаздач райкомаў, гаркомаў партыі, абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый складаюць зводную справаздачнасць па ўстаноўленых ЦК ВКП(б) формах і пасля зацвярджання іх на бюро абкома прадстаўляюць іх у ЦК ВКП(б) за подпісам сакратара абкома, крайкома і ЦК нацкомпартыі і заг. аддзелам кіруючых партыйных органаў.

---

Уп. Галоўлітбела № П 5011
Тыраж 9740 экз.
288.640 друк. зн. ($5^1/_2$ арк.)
Здана ў набор 10/VIII-36 г.
Падпісана да друку 4/VIII-36 г.

*Рэдкалегія* Д. Конік, Г. Рубінштэйн

*Нам. адказнага рэдактара* Г. Стырнэ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 904.

